А.К. Краўцэвіч

# СТВАРЭННЕ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА



**Аляксандр Краўцэвіч**

# СТВАРЭННЕ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

**Aleksander Krawcewicz**

# POWSTANIE WIELKIEGO KSIĘSTWA LITEWSKIEGO

Rzeszów – 2000

Навуковы рэдактар
доктар гістарычных навук, прафесар Г.В.Штыхаў

Рэцэнзенты:
кандыдаты гістарычных навук, дацэнты БДУ П.А.Лойка,
Ул.П.Емяльянчык

*На вокладцы змешчана*
*выява Міндоўга са знакамі каралеўскай годнасці*
*(рэканструкцыя Юрася Бохана паводле пячаткі 1255 г.)*

Праблема ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага - адна з самых важных у гісторыі Беларусі, паколькі ў гэтай дзяржаве адбылося фарміраванне беларускага народа.

Кніга складаецца з аналізу беларускай, польскай, летувіскай, расейскай і інш. гістарыяграфій генезы ВКЛ і аўтарскай версіі ўзнікнення беларуска-літоўскага гаспадарства. Аўтар прыйшоў да высновы, што ўтварэнне названай дзяржавы было праявай і арганічнай часткай буйнейшай з'явы ў гісторыі Беларусі - працэсу балта-славянскіх кантактаў і ацэньвае ВКЛ як біэтнічнае дзяржаўнае ўтварэнне з дамінаваннем усходнеславянскага элемента.

Problem powstania Wielkiego Księstwa Litewskiego należy do najważniejszych w historii Białorusi, ponieważ w granicach tego państwa sformował się naród białoruski.

Praca składa się z analizy białoruskiej, polskiej, litewskiej, rosyjskiej i in. historiografii genezy WKL oraz autorskiej wersji powstania "gospodarstwa białorusko-litewskiego". Autor doszedł do wniosku, że utworzenie tego państwa jest przejawem oraz częścią składową największego zjawiska historycznego na Białorusi, mianowicie procesu kontaktów bałtosłowiańskich oraz, że WKL od samego początku było dwuetnicznym organizmem państwowym, wszakże z dominacją elementu wschodniosłowiańskiego.

**ISBN 83-87602-85-X**

Wydanie publikacji dofinansowane przez:
**OPEN SOCIETY INSTITUTE**

## Прадмова да другога выдання

Першае выданне гэтай працы ў чэрвені 1998 г. адбылося хоць пад тытулам дзяржаўнага выдавецтва "Беларуская навука", але прыватным чынам з нагоды фінансавых цяжкасцяў гэтага выдавецтва (Дзяржкамдрук Беларусі адмовіў у фінансаванні кнігі). Наклад склаў каля 300 асобнікаў, а не 2 тыс. як пададзена выдавецтвам. Выдрукаваць працу ўдалося дзякуючы безкарыслівай дапамозе інжынера-друкара сп. Дарафея Чорнага і мастачкі сп. Яніны Пільнік, за што выказваю гэтым добрым людзям сардэчную падзяку.

Мінуўшы два гады, высветлілася, што попыт на працу аказаўся значна большым за прапанаваны наклад, чым і выклікана арганізацыя другога выдання. За гэтыя два гады кніга прайшла пэўную апрабацыю ў выглядзе рэцэнзій і дыскусій (пра гэта гл. ў гістарыяграфічным раздзеле). Уважліва прааналізаваўшы навуковую аргументацыю апанентаў, аўтар прыйшоў да высновы, што яна не патрабуе перагляду ці змены канцэптуальных палажэнняў працы.

Нажаль падчас дыскусіі выкарыстоўваліся аргументы не толькі навуковыя, але і з вобласці ідэалогіі, на якія вельмі цяжка адказваць, ды і невядома ці ўвогуле варта гэта рабіць. Як адказаць, напрыклад, на абвінавачванне ў "беларускім нацыяналізме" (А.Дубоніс - з Вільні), ці ў "свядомым стварэнні міфа", у "адраджэнні велічы мінулага Беларусі" (В.Насевіч і М.Спірыдонаў з Менску)? Хіба толькі апеляцыяй да вышэйшага суддзі - чытача. Што і раблю, улічыўшы некалькі навейшых публікацый і ўнёсшы нязначныя, хутчэй рэдактарскія змены ў тэкст.

Гэтае другое выданне было б немагчымым без удзелу і дапамогі прафесара Ежы Кітоўскага (Універсітэт імя Марыі Кюры-Складоўскай у Любліне, філія ў Жэшаве), за што выказваю тут пану Дэкану гарачую падзяку.

Аляксандр Краўцэвіч

Дзе наша слава,
Гонар наш дзе? -
Званамі
Знямелых дзядзінцаў
Гудзе...

**Мікола Пракаповіч**

# УВОДЗІНЫ

Дзяржавы пад назвай Вялікае Княства Літоўскае (далей ВКЛ) не існуе ўжо больш двухсот гадоў. Але яна прысутнічае ў нашым штодзённым жыцці як з'ява: гістарычная, культурная і, нарэшце, псіхалагічная. У межах ВКЛ нарадзіліся беларускі і летувіскі народы, Вялікае Княства адыграла важную ролю ў фармаванні народа ўкраінскага. У кожным гістарычным горадзе на тэрыторыі Беларусі, Летувы, Украіны засталося шмат матэрыяльных напамінкаў аб той дзяржаве: ці то помнікі архітэктуры, ці атрыбуты матэрыяльнай культуры ў музеях або проста пад нагамі ў раскапанай камунікацыйнай траншэі. Многія стэрэатыпы грамадскіх паводзін - так званы нацыянальны менталітэт - у цяперашніх нашчадкаў ВКЛ сягаюць карэннямі таксама туды, у больш чым пяцісотгадовую традыцыю арганізацыі жыцця федэратыўнай поліэтнічнай дзяржавы. Нечаканую актуальнасць спадчына ВКЛ набыла ў апошняе дзесяцігоддзе 20 ст., калі на пераломе 80-х і 90-х гадоў пачаўся распад імперыі, некалі паглынуўшай гэтую дзяржаву. Атрымаўшыя незалежнасць спадкаемцы Вялікага Княства зноў пачалі аглядацца на свае вытокі.

Гэтая праца прысвечана пачаткам ВКЛ, самаму першаму перыяду існавання дзяржавы, калі яна нараджалася і змагалася за выжыванне. Адбывалася гэта ў сярэдзіне 13 - пачатку 14 ст. Але каб лепш зразумець і належным чынам ацаніць разгортванне працэсу дзяржаваўтварэння, неаб-

ходна было заглянуць далёка наперад яго пачатку. Гэтаксама, каб ацаніць ход падзеі, патрэбна добра ведаць яе вынік. Таму шмат увагі прысвечана аналізу сітуацыі на месцы дзеі як напярэдадні, так і пасля заканчэння генезісу ВКЛ. Храналагічнай вехай завяршэння стварэння (не разбудовы) дзяржавы прапануецца прыняць 1316 г. - пачатак гаспадарання вялікага князя Гедыміна. Менавіта ў часы Гедыміна (1316 - 1341 гг.) працэс стаў незваротным, канчаткова адпалі сумненні ў жыццястойкасці новага дзяржаўнага арганізма і распачаўся ягоны бурны рост у геаграфічнай і палітычнай прасторы сярэднявечнай Еўропы.

На сённяшні дзень навуковая праблема ўтварэння ВКЛ лічыцца прынцыпова вырашанай ва ўсіх краінах свету, за выключэннем Беларусі. Аб неабходнасці вяртання да яе вывучэння заявіў тут сваімі працамі ў канцы 80 - пачатку 90-х гадоў Мікола Ермаловіч. На аснове ўласнага аналізу даўно вядомых даследчыкам крыніц ён давёў магчымасць новых падыходаў да вырашэння гэтай праблемы. Мне такі падыход бачыцца найперш у даследаванні генезісу ВКЛ праз яго ўзаемасувязь з буйнейшай гістарычнай з'явай на тэрыторыі ядра дзяржавы (Верхняе і Сярэдняе Панямонне) - працэсам балта-славянскага міжэтнічнага ўзаемадзеяння.

Праблема балта-славянскіх кантактаў на землях Беларусі на першы погляд можа падацца далёкай ад тэмы генезісу ВКЛ. Аднак два працэсы, звязаныя з арганізацыяй жыццядзейнасці буйных чалавечых супольнасцей, у пэўны гістарычны момант супалі ў часе і прасторы, і адно гэта пераканаўча сведчыць аб іх узаемасувязі. Названы кантакт аказаўся самай значнай гістарычнай з'явай на Панямонні за апошнія паўтара тысячагоддзя. Адсюль вынікае непазбежнасць яго ўплыву на працэс стварэння і фармавання ВКЛ.

Не лішнім будзе з самага пачатку ўдакладніць значэнне некаторых важных для нашага даследавання тэрмінаў. Сёння для масавай свядомасці і нават навуковай літаратуры ўласціва атаясамленне сярэднявечнага і сучаснага значэнняў назваў **літоўцы** і **Літва**. Пры гэтым ігнаруецца тая акалічнасць, што сённяшняе этнічнае напаўненне

названых тэрмінаў адбылося толькі ў пачатку 20 ст. Да гэтага часу літоўцамі, ці ліцвінамі называлі жыхароў гістарычнай Літвы, якая складалася як з усходнеславянскіх, так і балцкіх земляў, менавіта Гарадзеншчыны, Наваградчыны, Віленшчыны і заходняй часткі Міншчыны.

Каб пазбегнуць непатрэбнай блытаніны, у гэтай працы тэрмінамі **літва**, **літоўцы** абазначаецца сярэднявечны балцкі этнас, які пад такой назвай выступаў у тагачасных пісьмовых крыніцах. **Ліцвіны** - гістарычная назва жыхароў цэнтральнай вобласці ВКЛ, а таксама ўсіх насельнікаў дзяржавы незалежна ад іх этнічнага паходжання. Для абазначэння прадстаўнікоў сучаснага балцкага этнасу - паўночнага суседа беларусаў, ужываецца адпаведнік іх аўтаэтноніма (саманазвы) - **летувісы**. Назва **беларусы** таксама ўжытая ў яе цяперашнім разуменні. Сёння паўсюдна практыкуецца выкарыстанне гэтых паняццяў і ў гістарыяграфіі сярэднявечча. Таму ў маім тэксце два вышэйназваныя тэрміны ўжываюцца ўсюды, дзе аўтар (ці іншыя аўтары) мае на ўвазе іх сучаснае напаўненне, у тым ліку калі гаворка ідзе пра сярэднявечча. Аб іншых важных адрозненнях, напрыклад, між тэрмінамі **Літва** і **ўласна Літва** (**Літоўская зямля**), **Літва** і **Аўкштота, Русь** і інш. гаворка пойдзе ў спецыяльным раздзеле.

Падрыхтоўка маёй працы стала магчымай дзякуючы дапамозе і падтрымцы калегаў. Выказваю за гэта шчырую ўдзячнасць прафесару Ежы Выразумскаму з Ягелонскага універсітэта ў Кракаве, прафесару Станіславу Александровічу, прафесару Зянону Хуберту Новаку і доктару Збігневу Карпусу з універсітэта Мікалая Каперніка ў Торуні, прафесару Мечыславу Яцкевічу з Універсітэта ў Ольштыне, доктару Эльмантасу Мейлусу з Інстытута гісторыі Акадэміі навук Летувы, картографу Людміле Міхайлоўскай з Менску. Матэрыяльную падтрымку пад час падрыхтоўкі працы аказалі Фонд дапамогі незалежнай літаратуры і навуцы (Парыж), фонд Каса імя Юзафа Мяноўскага (Варшава), Фонд фундаментальных навуковых даследаванняў Рэспублікі Беларусь. Асаблівую падзяку выказваю Фонду імя братоў Яна і Енджэя Сьнядэцкіх (Кракаў), без падтрымкі якога ўзнікненне гэтай працы было б немагчымым.

# Частка 1. ПРАВА НА СПАДЧЫНУ.

## Крыніцазнаўчы і гістарыяграфічны агляд

### 1.1. Крыніцы

Малалікасць і адрывачнасць пісьмовых крыніц па ранняй гісторыі ВКЛ змушае даследчыкаў актыўна карыстацца камбінаванымі метадамі даследавання. Працэс дзяржаваўтварэння даследуецца як "a priori", так і "a posteriori". Вывучаецца сітуацыя напярэдадні ўтварэння дзяржавы, адначасова ў больш позніх дакументах і летапісах гісторыкі вышукваюць сляды ранейшых – незахаваных, а ў больш позніх этапах гісторыі дзяржавы ўлоўліваюць водгукі пачатковага працэсу яе развіцця. Каб дакладней зразумець і ацаніць працэс генезісу дзяржавы, выкарыстоўваюцца аналагі з суседнімі тэрыторыямі, аналізуецца тагачасная міжнародная сітуацыя ва Усходняй Еўропе, прыцягваюцца матэрыялы, здабытыя сумежнымі навукамі - археалогіяй, этнаграфіяй, лінгвістыкай і інш.

У выніку, як звычайна бывае пры недахопе інфармацыі і выкарыстанні апасрэдаваных метадаў даследавання, з`явілася (пры наяўнасці адзінай канцэпцыі) шмат розных інтэрпрэтацый ходу справы.

Для стварэння гэтай працы выкарыстоўваліся два галоўныя віды крыніц: **пісьмовыя і археалагічныя**. Акрамя таго, аўтар звяртаўся да **лінгвістычных** (найперш **тапанімічных), этнаграфічных, картаграфічных** матэрыялаў, пададзеных у спецыяльных публікацыях. На адбор крыніц паўплывала свядомае звужэнне храналагічных рамак даследавання. Каб пазбегнуць загрувашчвання матэрыялам, для вывучэння абраны самы важны і адносна кароткі адрэзак часу - ад пачатку працэсу дзяржаваўтварэння да моманту калі ён стаў незваротным. У той жа час прыня-

тая аўтарам тэза аб ўзаемасувязі генезы ВКЛ з працэсам балта-славянскага ўзаемадзеяння прывяла да значнага пашырэння крыніцазнаўчай базы даследавання, найперш за кошт прыцягнення археалагічнага, а таксама лінгвістычнага матэрыялу.

### 1.1.1. Пісьмовыя крыніцы

Нешматлікія пісьмовыя крыніцы, якія маюць дачыненне да генезы ВКЛ, неаднаразова старанна апрацоўваліся (напрыклад, у буйной працы Уладзіміра Пашуты крыніцазнаўчы аналіз займае трэцюю частку ўсёй манаграфіі - больш за 150 старонак). Таму аўтар мае магчымасць згарнуць груваскі фармальны крыніцазнаўчы аналіз да кароткай сутнаснай характарыстыкі важнейшых крыніц, каб па меры неабходнасці звяртацца да іх у наступных раздзелах працы. Адносна больш увагі прысвечана некаторым малавядомым пісьмовым помнікам.

#### *1.1.1.1. Пісьмовыя помнікі наратыўнага характару*

Усе вядомыя сучаснай навуцы летапісы і хронікі, якія маюць каштоўнасць як крыніцы па генезе ВКЛ, створаны за межамі Панямоння. У гістарыяграфіі выказваліся меркаванні аб існаванні ўласнага летапісання ў Полацкай[1] і Наваградскай землях[2], помнікі якога да нас не дайшлі. Таму пра нараджэнне новай дзяржавы нам вядома ад назіральнікаў збоку. Падзеямі ў суседняй Літве яны цікавіліся галоўным чынам у выпадку перасячэння іх са справамі родных краёў аўтараў летапісаў і хронік.

Большая частка інфармацыі аб ходзе працэсу дзяржаваўтварэння здабыта гісторыкамі з дзвюх наратыўных крыніц, узнікшых амаль адначасова - у канцы 13 ст.: **Галіцка-Валынскага летапісу і Лівонскай старэйшай рыфмаванай хронікі**. Усе астатнія крыніцы як наратыўнага, так і актавага характару толькі дапаўняюць дзве першыя.

---

[1] Алексеев Л.В. Полоцкая земля. М., 1966. С. 17; Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. М., 1959. С. 14.

[2] Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. С. 42; Ён жа. Очерки по истории Галицко-Волынской Руси. М., 1950. С. 113-121.

Самай каштоўнай крыніцай па генезісу ВКЛ з'яўляецца трэцяя частка Іпацьеўскага летапісу[3], якая ўяўляе сабой галіцка-валынскі звод і вядзе аповяд аб падзеях ад пачатку да канца 13 ст.[4] Гэты звод быў складзены ў канцы 13-га[5] ці на "зыходзе 80-х - пачатку 90-х гадоў 13 ст."[6] і дайшоў да нас у пазнейшых копіях. Дзьмітры Ліхачоў у асцярожнай форме выказаў меркаванне аб магчымым уключэнні ў гэты звод пінскіх летапісаў апошняй чвэрці 13 ст.[7] Арсень Насонаў, аналізуючы помнік, заўважыў, што апошнія артыкулы Іпацьеўскага летапісу адносяцца не да галіцка-валынскіх князёў, а да турава-пінскіх, да таго ж у самім тэксце ёсць "некаторыя ўказанні" на пінскія ўстаўкі. Пінскі перапісчык галіцка-валынскага арыгінала па ходу аповяду ўстаўляў інфармацыю аб мясцовых справах. Таму Насонаў прыходзіць да высновы, што "агульны арыгінал Іпацьеўскага і Хлебнікаўскага спіскаў" летапісу (датаваных адпаведна каля 1425 г. ці сярэдзінай 15 ст. - Іпацьеўскі і 16 ст. - Хлебнікаўскі) "пісаўся, відавочна, у Турава-Пінскім княстве". Па ходу разгортвання аргументацыі даследчык апускае дапушчэнне "відавочна" і гаворыць аб "уладзімірска-валынскім зводзе Мсціслава, які дайшоў да нас у Пінскім спіску ці рэдакцыі"[8].

Увагу Галіцка-Валынскага летапісу да панямонскіх спраў можна вытлумачыць актыўнай палітыкай Галіцка-Валынскай дзяржавы на Панямонні ў 20 - 90-х гадах 13 ст. Яна змагалася за кантроль над панямонскімі землямі, найперш той іх часткай, якая была грунтоўна скаланізавана ўсходнімі славянамі. Летапіс паведамляе аб самых

---

[3] Падзел Д. С. Ліхачова. Гл.: Лихачев Д.С. Русские летописи. М.; Л., 1947. С. 432-433.

[4] ПСРЛ. СПб., 1843. Т. 2. С. 155-227. Наступныя расійскія выданні 2-га тома ў 1871, 1908, 1923 і 1962 гг. У 1936 г. у Львове выйшаў украінскі пераклад летапісу, выкананы Т.Каструбай: Галицько-волинский літопіс. Львів, 1936. Ч. 1-2; Гл. таксама. Літопис руський /Пер. з давньорус. Л.Э.Махновця; Відп. ред. О.В.Мишанич. Київ, 1989.

[5] Лихачев Д.С. Русские летописи. С. 432.

[6] Насонов А.Н. История русского летописания 11 - начала 18 века. М., 1969. С. 243.

[7] Лихачев Д. С. Русские летописи. С. 432-433.

[8] Насонов А.Н. История русского летописания 11 - начала 18 века. С. 230--233, 243.

розных панямонскіх справах 13 ст.: войнах з яцвягамі, літоўцамі, аб дамове групы літоўскіх князёў з валынянамі (1219) і г.д. Галіцка-Валынскі звод не меў падзелу на гадавыя запісы, пазнейшая разбіўка па гадах аказалася недакладнай і была скрупулёзна выпраўлена Міхайлам Грушэўскім[9]. Кароткія, часта адрывачныя звесткі летапісу даносяць да нас не толькі інфармацыйныя, але і эмацыйныя водгукі падзей 13 ст., таго напружанага жыцця, шалёнай барацьбы, калі пад лязгат зброі, праз кроў, смерць, але таксама праз памяркоўнасць і добрасуседскую згоду нараджалася новая дзяржава.

Крыжацкія хронікі - неацэнная крыніца па ваеннай гісторыі - для нашай тэмы каштоўныя найперш звесткамі геаграфічнага характару, пададзенымі ў ходзе апісання ваенных падзей. Гэтая інфармацыя дапамагае арыентавацца ў тэрытарыяльнай структуры ВКЛ у 13-14 стст., у прыватнасці, акрэсліць прыблізнае месцазнаходжанне Літоўскай зямлі, ад якой атрымала назву ўся дзяржава, а таксама зразумець, як адбывалася геаграфічнае пашырэнне гэтай назвы[10].

Лівонская старэйшая рыфмаваная хроніка - другі па часу стварэння лівонскі твор наратыўнага характару[11] (першым была знакамітая "Хроніка Лівоніі" Генрыха Латвійскага). Яна была напісана каля 1290 г. на сярэдненямецкім дыялекце і складаецца з 12017 рыфмаваных радкоў. Імя аўтара невядома, толькі па некаторых указаннях з тэксту і асаблівасцях мовы ўстаноўлена, што ён быў рыцарам Лівонскага ордэна[12]. Доўгі час на падставе пазнейшага допісу на адным з рукапісаў хронікі аўтарства

[9] Грушевський М. Хронольогія подій Галицько-Волинської літописи // Записки Наукового Товариства імени Шевченка. Львів, 1901. Т. 41. С. 1-72. Беларускай гістарыяграфіі гэтая праца М.Грушэўскага да нядаўнага часу была невядома (гл. Ганцова С.К., Чамярыцкі В.А., Штыхаў Г.В. Сведкі беларускай мінуўшчыны (зборнік дакументаў і матэрыялаў па гісторыі Беларусі 6-15 стст.) Мн., 1996. С. 76.)

[10] Працы аб нямецкіх прыбалтыйскіх хроніках гл. у спісе літаратуры пад імёнамі: Я.Зутис, N. Angermann, V. Bilkins, H. Boockman, O. Engels, K. Höhlbaum, G. Labuda, E. Maschke, M. Pollakówna, S. Vahtre, S. Zonenberg.

[11] SRL. Riga; Leipzig, 1853. B. 1. Найлепшае асобнае выданне Livländische Reimchronik (далей - LR) / Ed. Meyer. Padeborn, 1876.

[12] Angermann N. Die mittelalterliche Chronistik // Geschichte der deutschbaltischen Geschichtsschreibung. Köln;Wien, 1986. S. 9-12.

памылкова прыпісвалі Дзітлебу фон Альнпеке. Хроніка ўяўляе сабой твор т.зв. рыцарскай паэзіі і акцэнтуе ўвагу найперш на апісанні ваенных дзеянняў. Аповяд пачынаецца ад сярэдзіны 12 ст. і даводзіцца да 1290 г. Аўтар дэталёва распавядае пра войны Лівонскага ордэна з курамі, семігаламі, эстамі і адносна шмат увагі пасвячае Літве і Русі.

У пачатковай частцы хронікі шмат памылак і недакладнасцей. Напрыклад, недакладна пададзены час адкрыцця немцамі Лівоніі, пераблытаны імёны першых рыжскіх біскупаў і г. д. Больш верагоднай інфармацыя становіцца пачынаючы ад першых дзесяцігоддзяў 13 ст. і асабліва дакладна апісваюцца падзеі ад канца 70-х гадоў да 1290 г. - храналагічна блізкія да часу жыццядзейнасці самога аўтара. Даследчыкі заўважылі, што часам аўтар у імкненні да зграбнай рыфмы мог не вытрымліваць вернасці фактам. Ён мала зважаў на храналогію - ва ўсім яго творы ёсць толькі тры гадавыя даты: 1143, 1279, 1290[13]. Тым не менш названы твор утрымлівае разнастайную інфармацыю палітычнага і геаграфічнага характару і лічыцца важнай крыніцай па пачатковай гісторыі ВКЛ. Даволі шмат у ім інфармацыі аб унутраных справах Літвы. Напрыклад, аўтар паведамляе, што бацька Міндоўга быў "вялікім каралём" (ein könig gros), сам Міндоўг - "багаты кароль", які жыве ва ўласным ўмацаваным паселішчы (burg) і можа выставіць вялікае войска[14].

Дзве важнейшыя крыніцы - Галіцка-Валынскі летапіс і Старэйшая рыфмаваная хроніка – узаемадапаўняюцца і адначасова з'яўляюцца верыфікатарам адна для другой. Гэтыя наратыўныя творы ўзніклі амаль адначасова, але незалежна адзін ад другога, у розных геаграфічных і культурных асяродках. Таму падзеі, зафіксаваныя абодвума помнікамі, можна ўпэўнена лічыць меўшымі месца ў рэальнасці.

Не так даўно, у 1979 г., была апублікавана яшчэ адна крыніца з 13 ст. - "Апісанне земляў", ці "Дублінскі ру-

---

[13] Vahtre S. Kroniki bałtyckie (inflanckie) 13 - 18 wieku jako źródła historyczne // Zapiski Historyczne. 1969. T. 34, z. 4. S. 78.

[14] LR. S. 146, 57-58, 77.

капіс", аўтар якой прысутнічаў на цырымоніі каранацыі Міндоўга. Адкрыў і апублікаваў новую крыніцу амерыканскі даследчык Мервін Л. Колкер[15]. Рукапіс "Апісанне земляў" захоўваецца ў бібліятэцы англіканскага універсітэта (Trinity College) у Дубліне (Ірландыя). Ён уключаны ў кодэкс 13 ст. (усяго 406 старонак), у якім займае старонкі № 3-4. Устаноўлена, што рукапіс з'яўляецца копіяй, блізкай па часу стварэння да арыгінала. Лічыцца, што "Апісанне земляў", па ўсёй верагоднасці, было ўступам да працы аб татарах (лёс працы невядомы). Аўтар твора прымаў удзел у крыжовым паходзе чэшскага караля Атакара на Самбію (адна з земляў Прусіі) у 1255 г., вёў місіянерскую дзейнасць у Яцвягіі, Нальшанах і Літве.

Пісьмовыя крыніцы па генезе ВКЛ, ды яшчэ сучасныя працэсу дзяржаваўтварэння, можна палічыць на пальцах, таму адкрыццё новага такога дакумента стала значнай падзеяй і выклікала вялікую цікавасць сярод даследчыкаў. Разгарнулася дыскусія наконт асобы аўтара і дакладнага часу напісання твора. Публікуючы новы помнік, Мервін Л. Колкер падаў верагодную, на яго погляд, дату стварэння рукапісу - 1255 г. Караль Гурскі вывеў, што твор быў напісаны паміж 1255 і 1260 гадамі, паколькі аўтар падае інфармацыю аб паходзе караля Атакара ў 1255 г. і не ўзгадвае ні пра адыход Міндоўга ад каталіцтва (1260 г.), ні пра яго смерць (1263 г.)[16]. Апошняе датаванне было прынята іншымі даследчыкамі[17]. Толькі Вячаслаў Чамярыцкі і Аляксандр Жлутка падаюць, не прыводзячы

---

[15] Marvin L. Colker. America Rediscovered in the Thirteenth Century? // Speculum. A Journal of Medieval Studies. Cambridge (Massachusetts), 1979. Vol. 54. P. 712-726.

[16] Górski K. Discriptiones Terrarum. Nowo odkryte źródło do dziejów Prus w XIII wieku // Zapiski Historyczne. Toruń, 1983. T. 46, r.1981. S. 7-16.

[17] Ochmański J. Nieznany autor "Opisu krajów" z drugiej połowy XIII wieku i jego wiadomości o Bałtach // Lituano-Slavica Posnaniensia. Studia Historica. 1985. 1. S. 110; Labuda G. rec. na: Górski K. Discriptiones Terrarum. Nowo odkryte źródło do dziejów Prus w XIII wieku // Studia Źródłoznawcze. T. 28 (1983). S. 258; Stopka K. Misja wewnętrzna na Litwie w czasach Mendoga a zagadnienie autorstwa "Descriptiones Terrarum" // Nasza przeszłość. 1987. 68. S. 250.

аргументацыю, што рукапіс мог быць створаны крыху пазней - у 60-я гады 13 ст.[18]

Больш складанай аказалася справа з вызначэннем асобы аўтара рукапісу. Караль Гурскі разгледзеў чатыры магчымыя кандыдатуры і вывеў, што верагодным аўтарам твора мог быць біскуп Яцвягіі Генрых, які працаваў тут ад 1249 г., пазней пакінуў названую краіну і ў 1258 - 1261 гг. знаходзіўся на тэрыторыі Чэхіі, Аўстрыі, Германіі. Выснову гэтую падтрымалі Герард Лабуда і Крыштап Стопка. Аднак Ежы Ахманьскі прыйшоў да высновы, што праўдападобным аўтарам мог быць францысканскі манах Адольф, названы ў якасці сведкі пры складанні дакумента Міндоўга ў ліпені 1253 г.

З пэўнасцю можна сцвярджаць, што аўтар быў духоўнай асобай, бо вёў місіянерскую дзейнасць і належаў, найверагодней, да дамініканскага ці францысканскага манаскага ордэна. Больш дакладнае акрэсленне асобы аўтара на падставе наяўнай інфармацыі немагчыма.

На вялікі жаль, "Апісанне земляў" не падае амаль ніякай новай, не вядомай даследчыкам інфармацыі. Аўтар быў сведкам каранацыі Міндоўга, але не інфармуе аб месцы, дзе праходзіла ўрачыстасць (што было б вельмі важна для сутнаснай ацэнкі ўсяго працэсу дзяржаваўтварэння). Новаадкрытая крыніца яшчэ раз пацвярджае вядомыя факты, напрыклад, што Літва межавала з Руссю і была назвай адной з земляў, гэтаксама, як Нальшаны і інш. Аўтар рукапісу звяртае ўвагу на лёгкасць прапаведвання хрысціянства сярод яцвягаў, літоўцаў і нальшанцаў, бо яны "ўзгадаваныя ад самай калыскі хрысціянскімі карміцелькамі". Ежы Ахманьскі ўбачыў у гэтым паведамленні сведчанне балта-славянскага супрацьстаяння і наяўнасці між літоўцаў палонных хрысціянскіх жанчын: русінак і полек[19]. Аднак больш верагодным выглядае сведчанне сучасных археолагаў і лінгвістаў аб існаванні буйной зоны змешанага балта-славянскага насельніцтва і мірным характары міжэтнічных кантактаў на Панямонні.

---

[18] Чамярыцкі В., Жлутка А. Першая згадка пра Белую Русь - XIII ст. ? // Адраджэнне: Гіст. альманах. Мн., 1995. Вып. 1. С. 145.

[19] Ochmański J. Nieznany autor "Opisu krajów"... S. 110.

Відавочна, паспяховае даследаванне генезісу любой дзяржавы магчыма толькі ў кантэксце агульнага развіцця гістарычнага працэсу. Таму вельмі важнае значэнне мае вывучэнне сітуацыі ў рэгіёне як напярэдадні, так і пасля ўтварэння ВКЛ. Каштоўныя звесткі аб жыцці насельнікаў Панямоння ў 11 - 13 стст. падаюць нам помнікі ўсходнеславянскага летапісання: кіеўскага, галіцка-валынскага, ноўгарадскага, пскоўскага. Гэтыя помнікі мелі агульныя вытокі, ствараліся ў адной культурнай і моўнай прасторы, узаемадапаўняліся і перапісваліся адзін з другога. Бывае даволі цяжка, а часам і немагчыма, аддзяліць адзін ад другога, разабрацца ў шматлікіх выпісках, перапісках, устаўках, перапрацоўках. Таму ўсходнеславянскае летапісанне 12 - 13 стст. разглядаецца як адзінае цэлае.

Усходнеславянскія летапісы паказалі агрэсіўную пазіцыю кіеўскіх князёў адносна балцкіх плямёнаў на Панямонні ў 11 - першай палове 12 ст. Ужо "Аповесць мінулых часоў" (пачатак 12 ст.) паведамляе аб балцкіх плямёнах на Панямонні і паходах рускіх князёў на Яцвягію (Судовію), Літву, Прусію (Голядзь)[20]. З 12 ст. на старонках усходнеславянскіх летапісаў з'яўляюцца звесткі аб існаванні панямонскіх гарадоў. Напачатку гэта інфармацыя аб Гародні і ўдзеле гарадзенскіх князёў у палітычным жыцці Русі. 13-м ст. датуюцца першыя прамыя звесткі аб Наваградку, Ваўкавыску, Слоніме і іншых паселішчах Панямоння.

Летапісы зафіксавалі актывізацыю ваенна-рабаўнічай дзейнасці летапісных літоўскіх плямёнаў пачынаючы з 80-х гадоў 12 ст., апісалі дакладныя накірункі, ход і вынікі паходаў. Яны адзначылі факты полацка-літоўскага супрацоўніцтва, калі атрады літоўцаў выступалі ў якасці саюзнікаў некаторых полацкіх князёў. Дзякуючы такой падрабязнай фіксацыі можна заўважыць, што літоўцы ніколі не нападалі на ўсходнеславянскія гарады Панямоння, гэтаксама як і на Полацкую зямлю. Гэтая акалічнасць надзвычай важная для сутнаснай ацэнкі генезы ВКЛ. Знайшла сваё адлюстраванне ў летапісах і барацьба за

---

[20] Аб гэтых звестках гл.: Пашуто В. Т. Образование Литовского государства. С. 10-16.

дамінаванне ў Панямонні паміж Галіцка-Валынскай дзяржавай і маладым ВКЛ.

Важнымі крыніцамі па пачатковай гісторыі ВКЛ з'яўляюцца ноўгарадскія і пскоўскія летапісы. Самы старажытны з усіх захаваных ноўгарадскіх і ўвогуле старажытнарускіх летапісных помнікаў - Сінадальны спісак Ноўгарадскага першага летапісу старэйшага зводу – датуецца 13 - 14 стст.[21] Астатнія дайшлі да нас у спісках 15 - 19 стст. Нягледзячы на агульную мясцовую арыентацыю, гэтыя крыніцы падаюць шмат важнай інфармацыі па нашай тэме: адносінах летапісных літоўцаў з суседнімі ўсходнеславянскімі дзяржавамі, Рыгай, Лівонскім ордэнам і г.д. Знайшлі водгук таксама падзеі, звязаныя з самім працэсам дзяржаваўтварэння на Панямонні.

Уласнае летапісанне ў Ноўгарадзе Вялікім пачалося яшчэ ў 11 ст.[22] Ноўгарадскія летапісы фіксуюць актывізацыю нападаў літоўцаў на землі самой рэспублікі, як і на іншых суседзяў, пачынаючы з 80-х гадоў 12 ст. Добра асветлены полацкія справы, полацка-літоўскія сумесныя дзеянні, пскоўска-літоўскія адносіны, напрыклад прыход у Пскоў князя Даўмонта, сцісла апісваюцца падзеі часоў Міндоўга і яго наступнікаў і г.д.

Пскоўскае летапісанне пачалося пазней за ноўгарадскае - у 13 ст.[23], калі распачаўся ўздым эканамічнага жыцця гэтага горада-рэспублікі. Яно яшчэ ў большай ступені, чым ноўгарадскае, было арыентавана на мясцовае жыццё. Тым не менш у пскоўскіх летапісах знайшлі адлюстраванне шматлікія знешнепалітычныя падзеі, у тым ліку і некаторыя, звязаныя з пачаткам ВКЛ. Напрыклад, у дзвюх рэдакцыях пададзена аповесць аб князі Даўмонце, памянута смерць Міндоўга, апісваюцца літоўска-пскоўскія войны і саюзы.

Вывучэнне названых крыніц шмат дае для разумення працэсу ўтварэння ВКЛ. Напрыклад, яны паказваюць значную розніцу ў кантактах літоўска-полацкіх і адно-

---

[21] НПЛ /Под ред. и с пред. А. Н. Насонова. М.;Л. 1950. С. 5-6; Лихачев Д. С. Русские летописи. С. 441.

[22] Лихачев Д. С. Русские летописи. С. 202.

[23] Псковские летописи /Под ред. А.Н.Насонова. М., 1955. Вып. 2. С. 5.

сінах літоўска-ноўгарадскіх, літоўска-пскоўскіх ці літоўска-смаленскіх. Першыя былі выразна саюзнымі, астатнія - пераважна варожымі. Гэтая розніца мае прынцыпова важнае значэнне для разумення сутнасці працэсу ўтварэння ВКЛ, аднак большасць даследчыкаў, на жаль, ці не заўважала, ці не прыдавала ёй значэння.

Незадоўга (за пару дзесяткаў гадоў) перад пачаткам на Панямонні працэсу паўстання ВКЛ быў напісаны надзвычай цікавы, да таго яшчэ самы першы і самы знакаміты твор сярэднявечнай прыбалтыйскай гістарыяграфіі - "Хроніка Лівоніі" <<Chronicon Livoniae>> Генрыха Латвійскага. Хроніка лічыцца каштоўнай крыніцай не толькі па гісторыі самой Лівоніі, але таксама суседніх Літвы, Русі, ды яшчэ Даніі і Швецыі[24]. Гэты твор на працягу двух з паловай стагоддзяў - ад 40-х гадоў 18 ст. да пачатку 90-х гадоў 20 ст. - вытрымаў каля дваццаці выданняў на шасці мовах. Аўтар хронікі Генрых - святар латгалаў, якія жылі па берагах ракі Імера (на поўначы Латвіі)[25]. Ён нарадзіўся ў 1187 ці 1188 г. дзесьці ў Ніжняй Германіі і памёр пасля 1259 г. Будучы святаром у Рыжскім архіепіскапстве, Генрых выступае ў сваім творы найперш як абаронца інтарэсаў гэтай арганізацыі. Аповяд аб прымусовай хрысціянізацыі ліваў, латгалаў і эстаў ён пачаў ад 80-х гадоў 12 ст. і давёў да 1227 г. Хоць Генрых даволі рэдка ўпамінаў аб падзеях, якія адбываліся за межамі Лівоніі, тым не менш праца яго лічыцца каштоўнай крыніцай і па гісторыі суседніх краёў.

Для нас твор айца Генрыха важны яшчэ з прычыны храналагічнай блізкасці часу яго стварэння да пачаткаў ВКЛ. У ім маецца цікавая інфармацыя аб летапісных літоўцах, аб іх адносінах з лівонскімі тубыльцамі, немцамі, эстамі, Псковам, Вялікім Ноўгарадам і Полацкам. Змаганне Полацка за захаванне свайго ўплыву ў Прыбалтыцы, драматычная абарона і страта апорных пунктаў гэтага ўплыву - Герсікі і Кукейнаса, полацка-літоўскае

[24] Vahtre S. Kroniki... S. 74-77; Angermann N. Die mittelalterliche Chronistik. S. 3-9.

[25] Мугуревич Э. Хроника Генриха о народностях в Прибалтике в конце XII - начале XIII в. // Vakarų baltai: etnogenezė ir etninė istorija. Vilnius, 1997. P. 253.

ваеннае супрацоўніцтва, актывізацыя ваенна-рабаўнічай дзейнасці літоўцаў і шмат якія іншыя падзеі старанна зафіксаваны хранiстам. Дзякуючы яго працы, мы можам скласці даволі дакладнае ўяўленне аб міжнародна-палітычнай сітуацыі ў рэгіёне напярэдадні ўтварэння ВКЛ.

Цікава, што якраз храналагічны адрэзак, ахоплены "Хронікай Лівоніі", некаторыя гісторыкі лічаць часам фармавання этнічна летувіскай дзяржавы - папярэдніцы ВКЛ. Між тым у творы Генрыха няма ніводнай узгадкі аб гэтай таямнічай і, па ўсёй верагоднасці, міфічнай дзяржаве. Даследчыкі заўважылі, што літоўскіх правадыроў храніст называе гэтаксама, як галоўных людзей іншых мясцовых плямёнаў - "князямі і старэйшынамі літоўцаў" (princeps ac seniores), а ў той жа час рускіх князёў тытулуе каралямі (reges, regulus), ставячы іх на адзін узровень з каралямі Даніі і Швецыі. Полацкага і Ноўгарадскага князя часам называе magnus rex[26].

Малавядомымі і не такімі важнымі для нашага даследавання крыніцамі з'яўляюцца помнікі лівонскага манастырскага летапісання 13 - 14 стст. Манастырскія аналы былі пачатыя ў другой палове 13 ст. у старэйшым лівонскім манастыры цэсцырыянцаў у Дзюнамюндэ (Даўгаўгрыва, Латвія), а пазней працягнутыя ў Рызе і Ронненбурзе (Руіена)[27]. Апісанне ў суме ахоплівае перыяд ад 1211 да 1348 г. Акрамя масы легендарных звестак манастырскія аналы ўтрымліваюць і праўдзівую інфармацыю. Як звычайна, галоўную ўвагу хроністаў прыцягвалі справы ўласнага краю, але акрамя здарэнняў мясцовага маштабу аналы паведамляюць і аб буйнейшых падзеях, у тым ліку пра барацьбу з ВКЛ. Названымі крыніцамі карыстаўся ў 16 ст. Мацей Стрыйкоўскі для напісання сваёй "Кронікі".

Цікавую інфармацыю большай часткай геаграфічнага, а таксама палітычнага характару падаюць крыжацкія

---

[26] Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. С. 132-133; Hellman M. Burgen und Adelsherrschaft bei den Völkern des Ostbaltikums // Europa Slavica - Europa Orientalis. Festschrift für Herbert Ludat zum 70. Geburtstag. 1980, Berlin. S. 41-42.

[27] Vahtre S. Kroniki... S. 78; Angermann N. Die mittelalterliche Chronistik. S. 12.

хронікі 14 ст. (дапаўняючы сучасныя ім часткі ноўгарадскіх і пскоўскіх летапісаў). Гэтая інфармацыя найбольш дакладная пры апісанні падзей, блізкіх да часу стварэння твораў.

Шырокую вядомасць атрымала "Хроніка Прускай зямлі" <<Chronicon terrae Prussiae>>, напісаная святаром з Тэўтонскага ордэна Пятром Дзюзбургам[28]. Гэтая першая зводная праца па гісторыі Прусіі, стаўшая асновай для ўсіх наступных, стваралася ў 20-х гадах 14 ст. у Кёнігзбергу і была закончана ў 1326 г. Тады ж аўтар прадставіў яе хохмайстру, а пазней дапісаў яшчэ адну частку, давёўшы аповяд да 1330 г. Адна з чатырох кніг хронікі, менавіта трэцяя, прысвечана апісанню войнаў Ордэна з прусамі, жамойтамі і ліцвінамі з 1231 да 1326 г. Інфармацыя з усходніх і паўднёвых рубяжоў ордэнскай дзяржавы становіцца асабліва насычанай пачынаючы з мяжы 13 і 14 стст. У гэты час аўтар мог быць ужо непасрэдным сведкам некаторых падзей Bellum Lethowinorum. Дзюзбург, падобна, шырока карыстаўся вуснымі аповядамі сведкаў, а таксама пісьмовымі справаздачамі, якія памежныя комтуры высылалі да вялікага маршала ў Кёнігзберг. Адным з прыкладаў такіх справаздач з'яўляюцца "Wegeberichte" з 80-х гадоў 14 ст. - дэталёвыя данясенні крыжацкіх інфарматараў аб дарогах і паселішчах у Літве[29]. Гістарычныя звесткі, пададзеныя Дзюзбургам, маюць амаль выключна ваенна-геаграфічны характар.

У канцы 40-х гадоў 14 ст. у Лівоніі была створана т.зв. Малодшая рыфмаваная хроніка, напісаная на ніжнянямецкім дыялекце. Аповяд яе ахоплівае перыяд ад 1315 да 1348 г. Аўтар Барталамей Хоэнэке працаваў святаром пры лівонскім ландмайстры і меў магчымасць карыстацца ордэнскімі архівамі. Ён апісваў унутраныя падзеі, а таксама войны лівонцаў з Літвой і Руссю, асабліва з Псковам. Апавядаецца пра барацьбу Ордэна з Рыгай (да яе

---

[28] Petri de Dusburg. Chronicon terrae Prussiae // SRP. Leipcig, 1861. Bd. 1. S. 3-219 (далей - Dusburg); Biskup M., Labuda G. Dzieje zakonu krzyżackiego w Prusach. Gospodarka-Społeczeństwo-Państwo-Ideologia. Gdańsk, 1986. S. 524-526 (гл. літаратуру)

[29] SRP. Leipcig, 1863. Bd. 2. S. 662-771.

заканчэння ў 1330 г.), пра паўстанне эстаў і інш. На жаль, хроніка дайшла да нас толькі ва ўрыўках, рассеяных па пазнейшых хроніках, напісаных прозай. Самы вялікі кавалак змешчаны ў 16-вечнай "Гісторыі Лівоніі" <<Livländischen Historien>> Ёгана Рэннера[30].

Ход падзей ад з'яўлення немцаў у вусці Дзвіны (80-я гады 12 ст.) да 1378 г. апісвае ў сваёй "Хроніцы Лівоніі" Герман фон Вартберге[31]. Ён паходзіў, відаць, з Паўночнай Германіі, таксама, як і Хоэнэке, працаваў святаром пры ландмайстры і, акрамя таго, выконваў дыпламатычныя даручэнні. Мяркуючы па вялікай колькасці інфармацыі аб барацьбе Ордэна з ВКЛ, аўтар сам прымаў удзел у ваенных дзеяннях.

Хроніка прускага герольда Віганда фон Марбурга[32] была закончана ў 1394 г. Яна ўяўляе сабой узор рыцарскага эпасу і прысвечана галоўным чынам апісанню войнаў з ВКЛ з 1293 да 1394 г.

Важную інфармацыю аб польска-літоўскіх адносінах пад час генезы ВКЛ, аб першых спробах хрысціянізацыі Літвы ўтрымліваюць польскія летапісы, найперш Вялікапольская хроніка, Аналы пазнанскай і кракаўскай капітул[33].

Летапісы мясцовага ВКЛ - аўскага паходжання (называемыя ў літаратуры беларуска-літоўскімі), узнікшыя ў 15-16 стст.[34], не могуць лічыцца надзейнымі крыніцамі па ранняй гісторыі ВКЛ. Змешчаная ў іх легендарная частка з апісаннем паходжання літоўскай шляхты і гісторыі

---

[30] Höhlbaum K. Joh. Renners Livländische Historien uhd die jüngere Livländische Reimschronik. Göttingen, 1871. Teil 1.

[31] SRP. Bd. 2. S. 21-116; Die livländische Chronik Hermann's von Wartberge, übersetzt von E.Strehlke. Berlin-Reval, 1864; Angerman N. Die mittelalterliche Chronistik. S. 14, там жа літаратура.

[32] SRP. Bd. 2. S. 429-662; Zonenberg S. Kronika Wiganda z Marburga. Bydgoszcz 1994. S. 98-104 (гл. літаратуру)

[33] Kronika Wielkopolska // MPH. Seria 2. T. 8. /Wyd. B.Kürbis. Warszawa, 1970; расійскае выданне: "Великая хроника" о Польше, Руси и их соседях XI-XIII вв. М., 1987; Rocznik kapituły poznańskiej. 965-1309 // MPH. Seria 2. T. 6. /Wyd. B.Kürbis. Warszawa, 1962. S. 21-78; Rocznik kapitulny krakowski // MPH. Warszawa, 1961. T. 2. S. 779-816.

[34] ПСРЛ. М., 1975. Т.32; М., 1980. Т. 35; Улащик Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985. С. 130-172.

ВКЛ да смерці Гедыміна была канчаткова аформленая ў першай палове 16 ст. (першы варыянт змешчаны яшчэ ў Яна Длугаша - 15 ст.[35]) і з'яўляецца гістарычна-публіцыстычным творам свайго часу. Гістарычная навука прызнала фантастычнымі паведамленні аб паходжанні кіруючай дынастыі з Рыма ад Палемона - сваяка імператара Нерона (ёсць і іншыя варыянты), аб заснаванні прадстаўнікамі гэтай дынастыі ў 13 ст. Наваградка, аднаўленні пасля татарскага пагрому Гародні, Бярэсця і да т. п. звесткі.

### *1.1.1.2. Актавыя матэрыялы*

Навука мае ў сваім распараджэнні групу арыгінальных дакументаў (каля тузіна папскіх булаў і 10 т. зв. дакументаў Міндоўга), узнікшых пад час збліжэння і саюза Міндоўга з Лівонскім ордэнам[36] у 1251-1260 гг. Акрамя таго, некалькі папскіх булаў прысвечаны іншым літоўскім падзеям 13 ст. Ініцыятыва Міндоўга па наладжванню кантакту з Захадам выклікала ажыўленую перапіску з рымскімі папамі па пытаннях яго хрышчэння, каранацыі, стварэння літоўскага біскупства і да т.п. Лісты самога Міндоўга да папы не захаваліся, але аб іх змесце можна меркаваць па адказах адрасата. Асобнымі актамі Міндоўг аддаваў шэраг земляў свайму саюзніку - Ордэну, новаспечанаму літоўскаму біскупу і даравалі прывілеі рыжскім купцам[37].

Каштоўнасць гэтых крыніц абумоўлена іх непасрэднай сувяззю з працэсам утварэння ВКЛ. Амаль кожная зафіксаваная імі дэталь, самая дробная ці ўскосная, часта з'яўляецца унікальнай. У прывілеі для Рыгі названа дакладная дата каранацыі Міндоўга - 1253 г. Дзякуючы

---

[35] Długosz Jan. Roczniki czyli kroniki sławnego Królestwa Polskiego. Warszawa, 1961. Ks.1-2. S. 286.

[36] У 1237 г. Ордэн мечаносцаў (ці Ордэн братоў меча - der Orden der Schwertbrüder), размешчаны ў Лівоніі, аб'яднаўся з Тэўтонскім ордэнам. Ад таго часу лівонская філія апошняга ў крыніцах выступае як "Тэўтонскі ордэн у Лівоніі" (адсюль паходзіць назва "Лівонскі ордэн").

[37] Публікацыі названых дакументаў у: Vetera monumenta Poloniae et Lithuaniae ex tabulis Vaticanis deprompta. T. I (1217-1409) /Ed. A.Theiner. Romae, 1860; Liv-, Est- und Curländisches Urkundenbuch, nebst Regesten /Ed. F.G.Bunge. Bd.1 (1093-1300). Reval, 1853; Codex diplomaticus Lithuaniae /Ed. E.Raczyński. Vratislaviae, 1845.

папскім булам стала магчымым з даволі вялікай дакладнасцю рэканструяваць саму працэдуру ўзвядзення на трон першага і апошняга караля Літвы. Аднак невядомым застаецца месца хрышчэння, як і месца каранацыі Міндоўга. А гэта вельмі важная дэталь, ад яе значна залежыць аналіз усяго працэсу дзяржаваўтварэння. Сёння даследчыкі схільныя бачыць месцам хрышчэння і каранацыі ўсходнеславянскі Наваградак.

Гэтак званыя дакументы Міндоўга належаць да пісьмовых крыніц, узнікшых непасрэдна на месцы падзей (гл. дадатак). Яны захаваліся галоўным чынам у копіях 14 ст. Частка іх лічыцца фальсіфікатамі лівонскага паходжання, зробленымі таксама ў 13 ст. "Дакументы Міндоўга" паходзяць з перыяду палітычнага збліжэння і саюза Міндоўга з Лівонскім ордэнам. Усяго іх вядома дзесяць, час стварэння акрэслены ў межах 1253-1261 гг. (толькі адзін фальсіфікат датуецца 14 ст.).

Паводле зместу названыя акты можна падзяліць на тры групы: 1-я - прывілей рыжскім купцам (дак. № 1); 2-я - справа зямельных дараванняў Лівонскаму ордэну (дак. № 2, 4-10) ; 3-я - надзяленне зямлёй літоўскага біскупа Хрысціяна (дак. № 3)[38]. У 19 ст. пачалася дыскусія наконт іх аўтэнтычнасці, якая працягвалася і ў першых дзесяцігоддзях наступнага 20 ст. Даследчыкі выказвалі самыя розныя погляды, часам аб'яўлялі падробкай большасць дакументаў, але ніхто не адмаўляў у аўтэнтычнасці ўсяму комплексу. Прычым лічыцца, што амаль усе падробкі рабіліся незадоўга пасля стварэння арыгіналаў, гэта значыць яны з'яўляюцца помнікамі таго самага часу. Апошняя спецыяльная праца па гэтай праблеме была апублікавана ў 1936 г. Каралем Малечыньскім[39]. Праз аналіз палеаграфічны і параўнаўча-гіста-

---

[38] Класіфікацыя Караля Малечыньскага: Maleczyński K. W sprawie autentyczności dokumentów Mendoga z lat 1253-1261 // Ateneum Wileńskie, r.11. Wilno, 1936. S. 1-60.

[39] Maleczyński K. W sprawie autentyczności ...; Łowmiański H. Studia nad początkami społeczeństwa i państwa litewskiego. Wilno, 1932. T. 2. S. 319-328; Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. Warszawa, 1933. T.1: Litwa a Moskwa w 13-14 wieku. S. 89-98. (у гэтых выданнях падаецца гістарыяграфія).

рычны (гаворка ідзе аб высвятленні адпаведнасці зместу дакументаў рэальнай палітычнай сітуацыі на час іх стварэння) даследчык прыйшоў да высновы аб аўтэнтычнасці шасці дакументаў (№ 1-5, 8). Астатнія чатыры (№ 6, 7, 9, 10) ён кваліфікаваў як фальсіфікаты, выкананыя зацікаўленым бокам - Лівонскім ордэнам.

Гісторыкі адразу звярнулі ўвагу, што ў існаванні гэтых дакументаў быў жыццёва зацікаўлены Лівонскі ордэн. Сапраўды, каб ажыццявіліся абвешчаныя ў дакументах зямельныя дараванні, то гэта азначала б вырашэнне важнейшай палітычнай задачы крыжакоў - злучэнне па сушы тэрыторый лівонскай і прускай філій Ордэна. Сама практыка падобных дараванняў - з'ява для тых часоў звычайная, у тым ліку адорванне крыжакоў паганскімі землямі, якія яшчэ патрэбна было пакарыць і хрысціць. Варта адзначыць, што ўвогуле ордэнскія ўлады імкнуліся зараней аформіць свае правы на заваяваныя і яшчэ не заваяваныя землі. Яны здабывалі спецыяльныя прывілеі ад папы, імператара, ад іншых драбнейшых хрысціянскіх уладароў, складалі дамовы з насельнікамі асобных земляў і не спыняліся перад фальсіфікацыяй падобных дакументаў. Ордэн рупіўся аб сваёй маральнай паставе перад Еўропай, бо ад гэтага залежала ваенная дапамога з боку заходнееўрапейскага рыцарства, без якой ён у Прыбалтыцы меў мала шансаў на поспех.

Памянёныя дакументы каштоўныя тым, што дапамагаюць асвятліць адзін з важных эпізодаў працэсу паўстання ВКЛ, утрымліваюць гістарычную інфармацыю палітычнага (напрыклад, аб спосабе складання дыпламатычных дакументаў, тытулаванні першага кіраўніка дзяржавы - rex Lettowie [Littowie]) і геаграфічнага характару (назвы мясцовасцей). Адна з папскіх булаў, менавіта ліст першасвятара да куронскага і эзэльскага біскупаў ад 17 ліпеня 1251 г. змяшчае інфармацыю аб тым, як тытулаваўся Міндоўг незадоўга перад прыняццем каралеўскай кароны.

Надзвычай цікавы і важны дакумент - дамова групы літоўскіх князёў з удавой і сынамі валынскага князя Рамана, заключаны ў 1219 г. Сам дакумент не захаваўся, але яго значная частка была ўключана ў Галіцка-Валынскі летапісны звод. Без гэтай крыніцы не абыходзіцца ні ад-

но даследаванне па пачатках ВКЛ. Яна шмат разоў аналізавалася і інтэрпрэтавалася. Справа дайшла нават да спрэчкі аб прачытанні адной літары ў тэксце. Названая крыніца паказвае палітычную сітуацыю ў першых дзесяцігоддзях 13 ст. сярод балцкіх плямёнаў, называных у летапісах літоўцамі. Сярод пералічаных па імёнах князёў прысутнічае Міндоўг, па меркаванню большасці даследчыкаў, - будучы стваральнік дзяржавы.

Уладзімір Пашута ўзгадвае шэраг міжнародных дамоў 13 ст., аб якіх засталіся толькі згадкі ў іншых крыніцах[40]. Тэксты большасці гэтых дамоў невядомыя, таму цяжка казаць аб іх як аб каштоўных крыніцах.

Для нашага даследавання важнае значэнне маюць афіцыйныя актавыя дакументы ВКЛ, створаныя на наступных этапах развіцця дзяржавы ў 14-16 стст.: міжнародныя дамовы, вялікакняскія прывілеі землям, гарадам і канкрэтным асобам, дыпламатычная перапіска і г.д.

Адной з важных частак даследавання генезы ВКЛ з'яўляецца вывучэнне развіцця тэрміна "Літва" ва ўсіх яго значэннях (этнічным, палітычным і геаграфічным). Для гэтага выкарыстоўваліся самыя розныя крыніцы: наратыўныя, актавыя, эпісталярныя, картаграфічныя. Напрыклад, аб сэнсавым напаўненні назвы "Літва" цікавую інфармацыю ўтрымліваюць дамовы 15 ст., падпісаныя вялікімі князямі літоўскімі з Ноўгарадам і Псковам[41]. Значная частка такіх крыніц у тэксце працы згадваецца толькі аднойчы, таму ў крыніцазнаўчым аглядзе спецыяльна не агаворваецца.

У даследаванні працэсу ўтварэння ВКЛ гісторыкі шырока карысталіся аналагамі, здабытымі з пісьмовых крыніц 13-14 стст. па гісторыі Прусіі. Падставай было дапушчэнне, што развіццё абодвух балцкіх этнасаў адбывалася па падобнаму сцэнарыю, толькі літоўцам у адрозненне ад прусаў удалося стварыць уласную дзяржаву. Мне здаецца, падобныя аналогіі дарэчы пры вывучэнні найперш сацыяльнай гісторыі балцкіх плямёнаў. Аднак

[40] Пашуто В. Т. Образование Литовского государства. С. 149-150.

[41] Грамоты Великого Новгорода и Пскова. М.;Л., 1949. С. 105-106, 115-116, 129-132, 321-322.

пры даследаванні дзяржаватворчага працэсу карыстацца такімі аналагамі патрэбна вельмі асцярожна, паколькі гістарычнае развіццё прускага і літоўскага этнасаў мела істотныя адрозненні і нямецкая каланізацыя Прусіі праходзіла не зусім так, як славянская на Панямонні.

Ордэнскія прывілеі яцвяжскім і літоўскім перабежчыкам дапамагаюць зразумець, як фармаваўся літоўскі набілітэт у 13 ст. Уладзімір Пашута на аснове гэтых дакументаў вывеў, што літоўскія нобілі збіралі багацце "перш за ўсё шляхам падпарадкавання не суседніх народаў, а сваіх менш заможных суседзяў-земляробаў"[42].

### 1.1.2. Археалагічныя і іншыя крыніцы

Выкарыстанне даных археалогіі, лінгвістыкі і этнаграфіі ў гэтай працы выклікана прыняццем аўтарам рабочай версіі аб значным уплыве на генезіс ВКЛ працэсу балта-славянскіх кантактаў на Панямонні.

Для вывучэння ранняй гісторыі ВКЛ археалагічныя крыніцы, дарэчы, як і большая частка пісьмовых, могуць быць выкарыстаны толькі апасрэдавана. Аднак гэта адзіны від крыніц, які стабільна папаўняецца з году ў год пасля завяршэння кожнага палявога сезона археолагаў. Археалагічнае даследаванне помнікаў 1-2 тыс. на Панямонні працягваецца ўжо каля двухсот гадоў. Аб'ектамі археалагічнага даследавання з'яўляюцца **паселішчы** (селішчы, гарадзішчы, гарады, замкі) і **пахавальныя помнікі** (курганныя і бескурганныя ці грунтавыя без насыпаў могільнікі), пакінутыя старажытным як балцкім так і славянскім насельніцтвам. Археалагічныя матэрыялы адыгрываюць галоўную ролю ў вывучэнні старажытнай гісторыі рэгіёна, ў тым ліку пачатковых этапаў працэсу балта-славянскага ўзаемадзеяння (другая палова 1 – першыя стагоддзі 2 тыс. н.э.). Пачынаючы з 11-12 стст. іх дапаўняюць пісьмовыя крыніцы.

На грунце здабытых археолагамі матэрыялаў праз даследаванне у першую чаргу пахавальных помнікаў выдзелены асобныя археалагічныя культуры 1 - першай пало-

---

[42] Пашуто В. Т. Образование Литовского государства. С. 152.

вы 2 тыс. н.э. і праведзена іх этнічная ідэнтыфікацыя. На тэрыторыі гістарычнага ядра ВКЛ (харонім “Літва”) выяўлены помнікі некалькіх археалагічных культур. Верхняе Панямонне займала, як правіла, толькі частку іх арэала.

Балтамі былі носьбіты культуры **штрыхаванай керамікі** (7-6 стст. да н.э. - 4-5 стст. н.э.), якая атрымала назву ад характэрнай арнаментацыі глінянага посуду, пакрытага звонку (а часта і знутры) штрыхамі. Эвалюцыйную сувязь з ёй мела **банцараўская культура** (6-8 стст. н.э.), атрымаўшая назву ад гарадзішча Банцараўшчына пад Менскам. Культуру **ўсходнелітоўскіх курганоў** (4-12 стст., таксама развілася на аснове культуры штрыхаванай керамікі) даследчыкі атаясамліваюць з аўкштайтамі або з племяннoй групоўкай, вядомай у летапісах пад назвай “літва”.

**Доўгія курганы Паўночнай Беларусі** (падоўжаныя валападобныя насыпы; другая палова 1 тыс н.э.) лічацца пахавальнымі помнікамі **полацкіх крывічоў.** Культура **каменных курганоў** 1-пачатку 2 тыс. н.э. атаясамліваецца з балцкімі плямёнамі, менавіта яцвягамі. Сваю назву яна атрымала паводле характэрнага спосабу ўзвядзення пахавальных помнікаў - невысокіх (каля 0,5-0,8 м вышынёй і ад 6 да 18-20 м дыяметрам) курганоў, складзеных з камянёў ці з камянёў і зямлі. **Каменныя могільнікі** 10-17 стст. (названыя так з-за наяўнасці над грунтавымі магіламі каменных вымастак) лічацца працягам эвалюцыі культуры каменных курганоў.

У выніку актывізацыі славянскага каланізацыйнага руху на тэрыторыю Панямоння ў 11-12 стст. павялічылася колькасць паселішчаў і пахавальных помнікаў, пакінутых **дрыгавічамі, крывічамі** або змешаным балта-славянскім насельніцтвам.

Даволі добра вывучаны археолагамі старажытныя гарады Панямоння (канец 10 - 13 ст.): Наваградак, Гародня, Ваўкавыск, Слонім. Устаноўлена, што іх заснавальнікамі і асноўнымі насельнікамі былі ўсходнія славяне[43].

[43] Асноўныя вынікі даследавання названых вышэй культур гл.: Археалогія і нумізматыка Беларусі: Энцыклапедыя. Мн., 1993.

Пры напісанні гэтай працы выкарыстоўваліся як даныя самога аўтара, сабраныя падчас яго археалагічных даследаванняў на Панямонні ў 1982-1993 гг., так і матэрыялы іншых беларускіх, польскіх, расійскіх і летувіскіх даследчыкаў-археолагаў, галоўным чынам пададзеныя ў спецыяльных публікацыях.

Пэўныя цяжкасці ўзніклі ў аўтара пры аналізе матэрыялаў, здабытых у раёнах Летувы, прылягаючых да сучаснай дзяржаўнай мяжы з Беларуссю. Пасля 2-й сусветнай вайны раскопкі на тэрыторыі Летувы праводзяцца выключна летувіскімі археолагамі, якія ў сваіх публікацыях не акцэнтуюць увагі на наяўнасці на тэрыторыі сучаснай Летувы славянскіх археалагічных помнікаў. Таму на першы погляд можа здацца, што выдзеленая беларускімі, расійскімі і польскімі археолагамі зона змешанага балта-славянскага насельніцтва 11-13 стст. на паўночным захадзе не выходзіла за межы Беларусі і заканчвалася на сучаснай дзяржаўнай беларуска-летувіскай граніцы, а далей ішоў аднародны масіў балцкага насельніцтва. Аднак усходнеславянская прысутнасць на Віленшчыне ў 12-13 стст. зафіксавана археалагічнымі даследаваннямі 30-х гадоў (Уладзімір і Алена Галубовічы) і пісьмовымі крыніцамі 14-15 стст. (напрыклад, прывілеем Ягайлы 1387 г., выдадзеным князю Скіргайле, ці хронікай Віганда фон Марбурга).

Важнае значэнне для вывучэння названага працэсу маюць лінгвістычныя матэрыялы. Галоўнае месца сярод іх належыць даным **анамастыкі** (раздзел мовазнаўства, які вывучае ўласныя імёны) і, найперш, тапанімічным матэрыялам. **Тапаніміка** з'яўляецца раздзелам анамастыкі, які даследуе геаграфічныя назвы, іх функцыянаванне, значэнне і паходжанне, структуру, арэал распаўсюджвання, развіццё і змены ў часе[44]. Другі раздзел анамастыкі, які таксама мае дачыненне да нашай тэмы - **антрапаніміка** - вывучае імёны людзей.

Праз даследаванне **айконімаў** (назвы паселішчаў), **гідронімаў** (назвы водных аб'ектаў; яны асабліва трывала захоўваюць архаізмы) даследчыкі здабылі шмат важнай

---

[44] Лингвистический энциклопедический словарь. М., 1990. С. 515.

інфармацыі аб развіцці этнічнай сітуацыі на Панямонні. Значную ролю ў працэсе даследавання адыгрывае метад анаманістычнай картаграфіі - стварэнне анаманістычных карт і выкарыстанне матэрыялу карт для анаманістычных даследаванняў.

На Панямонні (як і па ўсёй Беларусі) гістарычна склалася неаднародная тапанімічная сістэма, якая аб'ядноўвае рознамоўныя матэрыялы з розных гістарычных эпох. У сённяшняй пераважна славянскай тапаніміі найбольш дакладна зафіксаваны балцкі тапанімічны субстрат. Лінгвістычныя метады даследавання дазваляюць вызначыць этнічную прыналежнасць і адносную храналогію рознамоўных тапанімічных слаёў. На аснове гэтай інфармацыі археолагі з дапамогай метадаў сваёй навукі ствараюць т.зв. абсалютную храналогію і акрэсліваюць этнічную прыналежнасць археалагічных культур, супаўшых з геаграфічным размяшчэннем даследаваных тапанімічных сістэм.

Археалагічныя матэрыялы (у спалучэнні з анамастычнымі) дазваляюць прасачыць развіццё працэсу славянскай каланізацыі на Панямонні і суседніх рэгіёнах на яго ранніх этапах, пачынаючы ад часу з'яўлення славян на Панямонні і да 15 ст., вызначыць яго перыядызацыю, акрэсліць характар міжэтнічных кантактаў.

Этнаграфічныя матэрыялы 18 - пачатку 20 ст. з'яўляюцца галоўнай крыніцай па вывучэнню найбольш позняй часткі працэсу міжэтнічных кантактаў на Панямонні. Акрамя таго, яны дапамагаюць зразумець характар яго развіцця на больш ранніх этапах.

Вынікі археалагічных, лінгвістычных і этнаграфічных даследаванняў не заўсёды адпавядаюць поглядам, здавалася б, трывала ўсталяваўшымся між гісторыкамі. Напрыклад, у публікацыях гісторыкаў пастаянна прысутнічае тэза аб варожым характары балта-славянскіх адносін у сярэднявеччы, аб "змаганні за тэрыторыі" (Ежы Ахманьскі). А археалагічныя і лінгвістычныя матэрыялы (як, дарэчы, і пісьмовыя крыніцы 15-17 стст.) пераканаўча сведчаць аб мірным характары балта-славянскіх кантактаў не толькі на тэрыторыі Панямоння, але па ўсёй сучаснай прасторы Беларусі.

## 1.2. Падзел спадчыны. Гістарыяграфічны агляд

У гэтым раздзеле ўвага канцэнтруецца на спецыяльных даследаваннях па праблеме генезы ВКЛ, апублікаваных асобна ці ў складзе абагульняючых прац. Аўтар не ставіў задачай апісаць ці хаця б пералічыць усе працы, дзе ўпамінаецца аб названай праблеме. Па-першае, у аб'ёмнай гістарыяграфіі ВКЛ цяжка знайсці сінтэтычную працу, у якой няма хаця б кароткай інфармацыі аб паходжанні гэтай дзяржавы. Па-другое, усе гэтыя ўпамінанні даволі аднастайныя і падобныя па ўсім свеце. Таму вырашана найперш звярнуць увагу на развіццё канцэпцыі, а не на яе тыражыраванне.

Другую, меншую частку раздзела складае аналіз гістарыяграфіі па лакалізацыі Літвы, а таксама працэсу міжэтнічных кантактаў на Панямонні, меўшага, на думку аўтара, непасрэдны і важкі ўплыў на генезіс ВКЛ. Гістарыяграфіі гэтых двух працэсаў развіваліся амаль незалежна адна ад другой, таму і аналізуюцца большасцю асобна, за выключэннем выпадкаў узаемаперасячэння.

Аўтар свядома адмовіўся ад асобнага разгляду нацыянальных гістарыяграфій. Вывучэннем паходжання ВКЛ займаліся вучоныя розных краін, але яны працавалі не ізалявана адзін ад другога, нягледзячы на ўсю сур'ёзнасць пралеглых між імі дзяржаўных і ідэалагічных межаў. Актуальная, прызнаная большасцю канцэпцыя з'яўляецца інтэрнацыянальным навуковым прадуктам, хоць яго вытворчасць адбывалася далёка не заўсёды спакойна і мірна.

Увогуле, залічэнне некаторых даследчыкаў да той ці іншай нацыянальнай гістарыяграфіі бывае няпростай справай, што зразумела для рэгіёна, дзе на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў (у першай палове 20 ст.) некалькі разоў істотна змяняліся дзяржаўныя межы. Крытэрыем далёка не заўсёды можа быць мова, на якой створана праца, гэтаксама як этнічнае паходжанне ці дзяржаўнае грамадзянства даследчыка. Пісаўшых па-расійску прадстаўнікоў кіеўскай гістарычнай школы канца 19 – пачатку 20 ст. можна залічыць і да ўкраінскай гістарыяграфіі

(як тое робяць Уладзімір Пашута і Хорст Ябланоўскі)[45]. У першых дзесяцігоддзях 20 ст. такія вядомыя ў Расіі гісторыкі, як Мітрафан Доўнар-Запольскі ці Уладзімір Пічэта, заявіліся як прадстаўнікі беларускай гістарычнай навукі. А працы асноўнай большасці гісторыкаў часоў БССР, асабліва пасляваеннага перыяду, паводле іх канцэптуальнай арыентацыі, належаць хутчэй да расійскай, дакладней, савецка-расійскай гістарыяграфіі. Відавочна, за найбольш выразны, хоць і не цалкам бясспрэчны, крытэрый можа быць прынята патрыятычная пазіцыя таго ці іншага даследчыка.

Аналіз развіцця актуальнай канцэпцыі генезы ВКЛ у цэласным неразарваным выглядзе дазваляе лепей зразумець яе эвалюцыю, знайсці наяўныя супярэчнасці і магчымасці іх вырашэння. Нязначныя, па сутнасці, канцэптуальныя разыходжанні паміж версіямі асобных даследчыкаў дазваляюць унікнуць груваcткага дэталёвага разгляду прац кожнага аўтара і падаць тэкст кампактнымі тэматычнымі блокамі.

Таксама свядома, з разуменнем рызыкі дастаць папрок у ідэалагізацыі навуковага даследавання прынята назва раздзела. Аўтар лічыць навукова несумленнай справай ігнараванне ўплыву палітычнай ідэалогіі на распрацоўку навуковай праблемы, які ў нашым выпадку прасочваецца надзвычай выразна. Фарміраванне навуковай гістарыяграфіі генезы ВКЛ адбывалася ва ўмовах суперніцтва між рознымі нацыянальна-палітычнымі сіламі за права на гістарычную спадчыну гэтай дзяржавы. Гэтая барацьба, якая распачалася ў другой палове 19 ст., не скончылася яшчэ і сёння.

Польскі, летувіскі, беларускі, украінскі нацыянальна-вызваленчыя рухі стваралі свае дзяржаўныя ідэалогіі, важнейшае месца ў якіх займала ўласная трактоўка гісторыі ВКЛ. Даследаванне вытокаў гэтай поліэтнічнай дзяржавы стала праблемай не толькі навуковай, але і ідэалагічнай. Навукоўцу і сёння даводзіцца з гэтым лічыцца.

---

[45] Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. С. 162; Jablonowski H. Westrußland zwischen Wilna und Moskau. Leiden, 1955. S. 1.

Праблема паходжан ня ВКЛ упершыню праявілася як ідэалагічны канфлікт яшчэ ў першых дзесяцігоддзях 16 ст., пад час разгортвання ваеннага супрацьстаяння Літвы з Масквой. У 20-х гадах 16 ст. у маскоўскіх летапісах з'явіўся публіцыстычны твор пад назвай "Родословие князей литовских", меўшы мэтай давесці паходжанне дынастыі Гедымінавічаў ад дробнага рускага баярына. У ім апавядалася, як вялікі князь маскоўскі Юры Данілавіч паслаў нейкага Гедыміна - "служэбніка" аднаго са смаленскіх князёў, за Днепр наводзіць парадак у спустошанай татарамі краіне. Гедымін прысвоіў сабраныя сродкі, завалодаў "многими землями" і самавольна абвясціў сябе вялікім князем[46]. Цікава, што ў тых жа 20-х гадах 16 ст. у Маскоўскай дзяржаве ствараецца "Сказание о князьях Владимирских", дзе выкладаецца версія аб прамым паходжанні роданачальніка дынастыі Рурыка ад рымскага імператара Аўгуста[47].

У першай палове 16 ст. у беларуска-літоўскіх летапісах канчаткова афармляецца легендарная частка, пачаткі якой сягаюць у 15 ст. (упершыню ўпамінаецца, падобна, у Длугаша)[48]. Яна мае загаловак "Летописець Великого князьства Литовъского и Жомоицьского" (Летапіс Красінскага) ці яшчэ "Вывод и початок о Великом Князстве Литовском и Жмойтском, отколь взмоглися и пошли" (Хроніка Літоўская і Жамойцкая) і інш. Паводле гэтай легенды, першая летувіская кіруючая дынастыя паходзіла ад рымскага арыстакрата Палемона. Князі гэтай дынастыі прыбылі марскім шляхам з берагоў Тыбра да вусця Нёмана, паспяхова кіравалі краінай, а ў 13 ст. занялі рускія землі, апустошаныя татарамі, паставілі тут новыя гарады і абаранілі перад татарамі[49].

---

46 Пашуто В.Т., Флоря Б.Н., Хорошкевич А.Л. Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. М., 1982. С. 168.

47 Дмитриева Р.П. Сказание о князьях владимирских. М.;Л., 1955. С. 161-162.

48 Długosz Jan. Roczniki... Ks. 1-2. S. 286.

49 Хроніка Літоўская і Жамойцкая. М., 1975. Т. 32. С. 15-19; Stryjkowski Maciej. Kronika Polska, Litewska, Żmudzka i wszystkiej Rusi. Warszawa, 1846. T. 1. S. 234-236.

Канцэпцыя генезы ВКЛ, якую сёння можна назваць агульнапрынятай, сваімі каранямі сягае ў гэтую легенду, прынамсі наследуе яе ў некалькіх істотных момантах, такіх, як **ідэя эвалюцыі літоўскага грамадства да дзяржавы і заваёвы літоўцамі суседніх усходнеславянскіх земляў**.

Гісторыкі 18-19 стст. бачылі ўтварэнне ВКЛ як вынік заваёвы літоўцамі аслабелай Русі. У расійскай гістарыяграфіі ў 50-70-я гады 19 ст. адбыліся першыя спробы прадставіць ВКЛ як частку расійскай гісторыі[50]. Цікавыя погляды на гісторыю ВКЛ, у тым ліку і на пачаткі дзяржавы, выказвалі віленскія польскамоўныя гісторыкі, найперш Яўхім Лелявель і Юзаф Ярашэвіч. Генрык Лаўмяньскі прапанаваў залічыць іх да "групы польска-летувіскіх гісторыкаў з віленскага асяродку". Лаўмяньскі назваў Лелявеля піянерам навуковай гісторыі Літвы і Русі і ацаніў яго працу як больш блізкую да сённяшніх гістарыяграфічных пастулатаў, чым навуковая літаратура другой паловы 19-пачатку 20 ст. (час вострай польска-расійскай палітычна-ідэалагічнай канфрантацыі)[51]. Яўхім Лелявель, гэтаксама як Тэадор Нарбут, Юзаф Ярашэвіч, Міхал Балінскі, называў пачынальнікам дзяржавы бацьку Міндоўга князя Рынгольта, якога сучасная навука лічыць, аднак, міфічнай асобай. Працэс дзяржаваўтварэння, па вобразнаму ўяўленню Лелявеля і Ярашэвіча, пачынаўся з успышкі літоўскай ваяўнічасці. Паходы рускіх князёў на Літву абудзілі ваяўнічы дух літоўцаў; яны "выйшлі з лясоў і, сеўшы на сваіх малых конікаў, пачалі гуляць па Крывічанскай Русі"[52]. Потым рабаўнічыя напады перайшлі ў тэрытарыяльныя набыткі і г. д.

Пачаткі навуковай гістарыяграфіі генезы ВКЛ выводзяцца з канца 70-х гадоў 19 ст. У яе фармаванні можна выдзеліць некалькі этапаў: 1. **Ад канца 70-х гадоў 19 ст. да 1-й сусветнай вайны**; 2. **Два міжваенныя дзесяцігоддзі - 20-30-я гады**; 3. **Ад канца 40-х гадоў да нашага часу**.

---

[50] Гл.: Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. С 163-170.

[51] Прадмова Г.Лаўмяньскага да працы: Lelewel J. Dzieje Litwy i Rusi aż do unii z Polską // Dzieła. Warszawa, 1969. T. 10. S. 5, 34.

[52] Jaroszewicz J. Obraz Litwy pod względem jej cywilizacyi. Wilno. 1844. S. 35.

Буйныя палітычныя падзеі ў Еўропе істотна змянялі ўмовы працы гісторыкаў і непасрэдна ўплывалі на сам працэс навуковага пазнання гісторыі. Асноўная частка гістарыяграфіі генезы ВКЛ ствралася на першых двух этапах - у канцы 19 - 30-х гадах 20 ст. Пяцьдзесят гадоў развіцця гістарычнай літуаністыкі пасля 2-й сусветнай вайны нічога канцэптуальна новага ў вывучэнне генезы ВКЛ практычна не ўнеслі.

### 1.2.1. Канец 70-х гадоў 19 - 10-я гады 20 ст.

Разгортванне ў 19 ст. нацыянальна-вызваленчых рухаў на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай выклікала ажыўленне навуковай цікавасці да гісторыі неіснуючага амаль сто гадоў ВКЛ і, у прыватнасці, да генезісу гэтай дзяржавы.

Даследаванне гісторыі ВКЛ асабліва актывізавалася пасля паўстання 1863 г. Даследчая праца гісторыкаў мела на сабе выразны адбітак расійска-польскай канфрантацыі за дамінаванне на землях былога ВКЛ. У той час расійская інтэлігенцыя, у тым ліку і гісторыкі, падтрымалі царскі ўрад у яго палітыцы русіфікацыі "Северо-Западного края". Узмацненне русіфікацыі мела адным з наступстваў з'яўленне масы публіцыстычнай і калянавуковай літаратуры (накшталт твораў ідэолага "западнорусизма" Міхала Каяловіча), меўшай на мэце давесці "исконную российскость Северо-Западного края". У гэтым мутным патоку выдзяляліся сур'ёзныя гістарычныя працы аўтарства Уладзіміра Антановіча, Мікалая Дашкевіча, Мацея Любаўскага, Мітрафана Доўнар-Запольскага і інш., якія і сёння захоўваюць навуковую вартасць. Даследчыкі канцэнтравалі ўвагу галоўным чынам на ролі "русского начала" ў ВКЛ. Само княства яны называлі "литовско-русским государством".

У адказ расіянам польская гістарычная навука стварыла канцэпцыю раннефеадальнай летувіскай дзяржавы, якая фармавалася паралельна з заваёвамі суседніх усходнеславянскіх земляў. Пазней гэтая дзяржава ўступіла ў добраахвотную унію з Польшчай і з часам стала складной часткай апошняй. Тэма польска-літоўскіх уній і сёння з'ўляецца адной з важнейшых у польскай літуаністыцы.

Упершыню навуковы падыход да праблемы паходжання ВКЛ быў сфармаваны ў працах кіеўскага гісторыка Уладзіміра Антановіча[53]. Аналізуючы пісьмовыя крыніцы, параўноўваючы грамадскі лад прусаў і літоўцаў, даследчык вывеў, "што да сярэдзіны 13 ст. летувіскае племя не складала дзяржавы; яно ўяўляла сабой рассыпаную масу невялікіх валасцей, якімі кіравалі незалежныя правадыры, без усялякай палітычнай сувязі аднаго з другім". Аднак знешнія абставіны, а менавіта з'яўленне ў канцы 12 - пачатку 13 ст. новага грознага суседа - германскіх рыцарскіх ордэнаў, змусілі летувісаў паскорыць палітычную арганізацыю (суседзі-славяне не стваралі занадта вялікай пагрозы існаванню летувісаў). Пакуль Ордэн заваёўваў землі прусаў і семігалаў, летувісы і жамойты паспелі стварыць больш трывалы дзяржаўны лад і таму сустрэлі захопнікаў стройнымі сіламі. "Сілы гэтыя летувісы набываюць у выніку новых адносін з Руссю на працягу 13 ст."[54], перайшоўшы ад удзелу ў полацкіх міжусобіцах да тэрытарыяльных захопаў. Урэшце, "факт канчатковага ўтварэння Летувіскага княства на рускай тэрыторыі мы можам канстатаваць па вартых даверу крыніцах толькі з часу заснавання ў Ноўгарадзе Літоўскім, у так званай Чорнай Русі, княжання, прадстаўніком якога з'яўляецца летувіскі князь Міндоўг, сын Рынгольта". Міндоўг пашыраў свае ўладанні на Русі **"з дапамогай летувіскага апалчэння са свайго Кернаўскага ўдзела" і, "абапіраючыся на апалчэнне сваіх рускіх абласцей, падпарадкоўваў сабе разрозненыя дробныя летувіскія ўладанні"**[55](выдзелена мною. - *А.К.*).

Апошняя ідэя Антановіча выглядае свежа і ў наш час, хоць яна і не прыжылася ў пазнейшай гістарыяграфіі. Гэты аўтар першым наблізіўся да пераадолення аднаго шкоднага стэрэатыпу мыслення, уласцівага амаль усім наступным даследчыкам, а менавіта, неапраўдана завы-

---

[53] Антонович В. Очерк истории Великого Княжества Литовского до половины XV столетия. Киев, 1878; Монографии по истории Западной и Юго-Западной России. Киев, 1885.

[54] Антонович В. Очерк истории Великого Княжества Литовского... С. 16,18.

[55] Антонович В. Очерк истории Великого Княжества Литовского... С. 21, 24, 25.

шанай ролі этнічнай свядомасці ў матывацыі ўчынкаў дзяржаўнага чалавека. Мноства іншых гістарычных прыкладаў, а таксама логіка дзеянняў Міндоўга (як і яго наступнікаў) паказвае, што ён не быў адэптам дзяржаўнасці абавязкова этнічна балцкай ці ўсходнеславянскай. Міндоўг пашыраў свае ўладанні і ўмацоўваў сваю ўладу для сябе самога і кроўных нашчадкаў, карыстаючыся зручным выпадкам і падручным матэрыялам. У той жа час Антановіч абараняў сумніўную тэзу аб супрацьстаянні ў дзяржаве двух "народных начал" з самых першых яе самастойных крокаў.

З Антановічам не пагадзіўся па некаторых другасных пытаннях другі расійскі гісторык Мікалай Дашкевіч[56]. Палеміка вялася ў рамках агульнай канцэпцыі расійскай гістарыяграфіі (падобна як і ўнутраныя дыскусіі ў польскай).

Праз некалькі гадоў пасля прац Антановіча і Дашкевіча з'явілася першае польскае навуковае даследаванне, прысвечанае пачаткам ВКЛ, - манаграфія Юлюша Лятkoўскага "Міндоўг, летувіскі кароль"[57]. Яна была апублікавана на тэрыторыі этнічнай Польшчы, але, і напэўна не выпадкова, за межамі Расійскай імперыі, у Кракаве - у зоне аўстрыйскай акупацыі - з адносна высокай нацыянальнай талерантнасцю. Паводле версіі Ляткоўскага, ВКЛ з'яўлялася **вынікам сацыяльнай эвалюцыі летувіскіх плямёнаў**. У ходзе гэтай эвалюцыі ўзнікла арыстакратыя - князі, кожны з якіх кантраляваў тэрыторыю свайго роду або племені. Пазней, у асяроддзі важнейшых "старшых" князёў знайшлася здольная энергічная асоба - Міндоўг, якая аб'яднала ўсе гэтыя тэрыторыі пад сваёй уладай. Гэта быў пачатак ВКЛ. На стварэнне моцнай летувіскай дзяржавы значна паўплывала небяспека з боку Тэўтонскага ордэна.

Канцэпцыі Ляткоўскага было наканавана доўгае жыццё. Сфармуляваная ў канцы 19 ст., яна застаецца актуальнай да сённяшняга дня. Пазнейшая польская гістарыяграфія генезы ВКЛ, гэтаксама як летувіская, а потым

---

[56] Дашкевич Н.П. Заметки по истории Литовско-Русского государства. Киев, 1885.

[57] Latkowski J. Mendog, król litewski // Rozprawy Akademii Umiejętności. Wydział Filozoficzno-Historyczny. Kraków, 1892.

і савецкая, падае, па сутнасці справы, толькі варыянты канцэптуальнай канструкцыі Ляткоўскага. Іншыя даследчыкі выказвалі іншыя погляды на канкрэтны ход справы, дзеючыя сілы працэсу дзяржаваўтварэння, але галоўную ідэю (эвалюцыі) не аспрэчваў ніхто (за адным выключэннем у асобе Міколы Ермаловіча, аб чым гаворка будзе пазней).

Адметнасць канструкцыі самога Юлюша Ляткоўскага заключаецца ў меркаванні аб пачатку захопу Летувай рускіх земляў яшчэ да з'яўлення на гістарычнай сцэне Міндоўга ў якасці аб'яднальніка. З другой паловы 12 ст. Летува ад абароны пераходзіць да наступу на Русь. Асновы моцнай летувіскай дзяржаўнасці закладаліся ў канцы 12 і пачатку 13 ст., калі ўсталявалася ўлада "старэйшых" князёў. Ужо тады, на думку Ляткоўскага, Летува мела тэрытарыяльныя набыткі на Русі, прычым пачынала не з Чорнай (як было прынята раней), а з Белай Русі[58].

Блізкія да высноў Ляткоўскага погляды выказаў Вітальд Камянецкі ў невялікай працы, прысвечанай генезе ВКЛ. Паўстанне дзяржавы трактуецца як вянец шматвяковага развіцця летувіскага грамадства. Кантакты са славянамі прыспешвалі гэты працэс, усходнеславянская дзяржаўнасць стала ўзорам для летувіскай. "Мазаіка дробных княствачак, вядучых самастойную палітыку, мусіла сабрацца ў адно цела, у летувіскую дзяржаву. Шматвяковае развіццё летувіскага грамадства прывяло ўрэшце да такой змены, а блізкі кантакт з рускай дзяржавай даставіў гатовыя ўзоры больш дасканалага ладу".[59]

Важнае месца ў вывучэнні ладу ВКЛ, і ў тым ліку генезы гэтай дзяржавы, займаюць працы маскоўскага даследчыка Мацея Любаўскага - буйнейшага гісторыка ВКЛ. Гэты даследчык актыўна працаваў над гісторыяй ВКЛ апошняе дзесяцігоддзе 19 і ў двух першых - 20 ст. і яшчэ ў канцы 20 ст. лічыцца буйнейшым аўтарытэтам па гісторыі ВКЛ. У працах Любаўскага пазіцыя расійскай гістарыяграфіі прадстаўлена ў найбольш закончаным выглядзе.

Прызнаны знаўца крыніц, Любаўскі выдатна арыентаваўся ў багацейшай дакументальнай спадчыне ВКЛ, што

---

[58] Latkowski J. Mendog, król litewski. S. 1,2,4,10,24.

[59] Kamieniecki W. Geneza Państwa Litewskiego. Warszawa, 1915. S. 49-50.

дазваляла яму рабіць узважаныя навуковыя высновы, у тым ліку па праблеме ўтварэння ВКЛ. Многія з гэтых высноў захоўваюць навуковае значэнне да сённяшняга дня. Напрыклад, навейшымі даследаваннямі беларускага гісторыка Міхала Спірыдонава пацверджана выснова Любаўскага аб ядры дзяржавы - Літве як паняцці **тэрытарыяльным**, а не **этнічным**[60]. Мацей Любаўскі першы пераканаўча паказаў, што гістарычная Літва, ці ядро дзяржавы, якое рознілася сваім устроем ад іншых абласцей ВКЛ, уключала ў сябе як этнічна летувіскія, так і этнічна беларускія (рускія - па тагачаснай тэрміналогіі) землі.

Пераканаўча выглядаюць разважанні даследчыка аб шляхах фармавання набілітэту ў этнічных літоўцаў у 12-13 стст. і г.д. На аснове глыбокага вывучэння ўнутранага ладу гэтай дзяржавы Любаўскі прыйшоў да высновы, што "гісторыя Літоўска-Рускай дзяржавы з'яўляецца ў пэўным сэнсе прамым працягам, далейшым развіццём гісторыі Кіеўскай Русі"[61].

Працэс утварэння ВКЛ Мацей Любаўскі ўяўляў як злучэнне двух этнічных чыннікаў - рускага і летувіскага. Агульная схема ў яго атрымалася такая. Летувіскае грамадства эвалюцыянуе да дзяржавы. У 12 ст. вайна для летувісаў стала не толькі актам самаабароны, але і промыслам, і ў гэты час у Летуве меўся клас, адпаведны германскай і славянскай дружыне. У канцы 12 і пачатку 13 ст. дробныя грамадскія аб'яднанні летувісаў былі ўжо ў большасці палітычнымі саюзамі. "У другой палове 13 ст. сярод разбітай на дробныя грамадскія саюзы Летувы сфармавалася буйное палітычнае цела, вялікае княства Летувіскае пад уладай Міндоўга і яго бліжэйшых пераемнікаў". Міндоўг быў адным з мацнейшых летувіскіх князёў, гэтаксама як і яго бацька. Напачатку ўзвышэнне Міндоўга мела характар простага старшынства, кіраўніцтва ў аб'яднаных ваенных аперацыях. Але з 1248 г. ён перамяніў адносіны да іншых князёў і пачаў захопліваць

---

[60] Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. М., 1893. С. 2-5.

[61] Любавский М.К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. М., 1910. С. 1.

іх маёмасць. Пад час пярэпалаху, выкліканага на Русі татарамі, ён захапіў т. зв. Чорную Русь - вобласць правых (недакладнасць, правільна будзе - "левых". - *А.К.*) прытокаў Нёмана з галоўным горадам Наваградкам.

Здавалася б, мы бачым тут класічную схему, уласцівую і для польскай гістарыяграфіі, а менавіта эвалюцыю летувіскага грамадства да дзяржавы і, урэшце, звяршэнне справы аб'яднання асобай, адпавядаючай сваімі асабістымі якасцямі ўзроўню гістарычнай задачы. Аднак Любаўскі падкрэслівае, што **"дзяржава гэтая з самага пачатку была не проста летувіскай, а летувіска-рускай"** (вызе-лена мной. - *А.К.*). Чорная Русь служыла апорай не толькі Міндоўгу, але і яго наступнікам для распаўсюджвання ўлады вялікіх князёў на Летуву. Міндоўг і яго пераемнікі, устанаўліваючы сваю ўладу на Летуве, імкнуліся шукаць апоры на Русі і карыстацца яе палітычнымі сіламі і сродкамі[62] (падобна як у Антановіча). Любаўскі піша аб збліжэнні "летувіскай народнасці з рускай", перанясенні на Летуву рускіх парадкаў.

Палякі і расіяне сыходзіліся ў тым, што ініцыятарам працэсу дзяржаваўтварэння былі балцкія плямёны, вядомыя ў пісьмовых крыніцах пад назвай "літоўцы" (Litwini), якія спачатку (у 11-12 стст.) цярпелі ад усходніх славян, потым (з 80-х гадоў 12 ст.) рэзка актывізавалі рабаўніча-мілітарную дзейнасць, а яшчэ пазней перайшлі да тэрытарыяльных захопаў земляў старажытнай Русі. Вынікам стала новая дзяржава - ВКЛ. Такім чынам, абодва бакі падзялялі дзве галоўныя ідэі: **1. Эвалюцыя летувіскага грамадства да дзяржавы. 2. Цесная сувязь між утварэннем дзяржавы і захопам летувісамі земляў на Русі.**

Спрэчка, па сутнасці, вялася вакол адной праблемы, менавіта аб **акрэсленні этнічнага характару** дзяржавы. Ад-каз на пытанні: "Ці быў творцам дзяржавы летувіскі князь Міндоўг?" і "Ці Летува заваявала рускія землі?" быў аднолькавы з абодвух бакоў: "Так!" Але далей пачыналася сутнаснае разыходжанне. "Ці ВКЛ было летувіскай дзяржавай?" - "Так!" - адказвалі палякі, "Не!" - адказвалі рускія - "Гэта была дзяржава летувіска-руская".

---

[62] Любавский М.К. Очерк истории... С. 10, 11, 12-13, 15-16.

Такім чынам, згаджаючыся з тэзамі аб ініцыятыве летувісаў у дзяржаватворчым працэсе і заваёве рускіх земляў, расіяне нейтралізавалі іх значэнне тэзай "дамінавання рускай культуры" (рускай - у сэнсе вялікарускай, бо беларусаў і ўкраінцаў не лічылі самастойнымі народамі). Па прычыне нязначнай колькасці захаваных крыніц меўся шырокі прастор для дыскусіі. Абодва бакі знаходзілі шмат аргументаў для падтрымання сваіх версій: расіяне найперш ва ўнутраным устроі дзяржавы 14-16 стст., палякі - у палітычнай гісторыі.

Варта зазначыць, што дыскусія між польскімі і расійскімі даследчыкамі праходзіла на належным навуковым узроўні з прызнаннем і выкарыстаннем дасягненняў апанента. Палітычная заангажаванасць бакоў выступала не так яўна, як у пазнейшай летувіскай і часткі сучаснай беларускай гістарыяграфіі. Як выключэнне варта разглядаць выпадак, калі Ян Якубоўскі назваў Уладзіміра Антановіча "польскім рэнегатам" (прычым гэта мела месца не ў навуковым выданні)[63]. Забягаючы наперад, скажу, што ўрэшце перамогу атрымала польская версія ўтварэння ВКЛ, што было фактычна пацверджана фундаментальнай манаграфіяй Уладзіміра Пашуты, выдадзенай у 1959 г.

Першая сусветная вайна і выкліканыя ёю еўрапейскія палітычныя катаклізмы на некалькі дзесяцігоддзяў перапынілі расійска-польскую спрэчку. Аднаўленая значна пазней, дыскусія мела ўжо іншы характар і накірунак.

У гушчы расійскай і польскай гістарыяграфічных плыняў патроху выспявалі пачаткі беларускай і летувіскай гістарыяграфіі ВКЛ. У 19-пачатку 20 ст. пачалі з'яўляцца працы па этнаграфіі і краязнаўству Летувы і Беларусі, першыя гістарычныя працы папулярнага характару, мэтай якіх было абуджэнне цікавасці да роднай гісторыі. Першая летувіская спецыяльная праца па пачатках ВКЛ была выдадзена на нямецкай мове ў 1908 г. Ёнасам Татарайцісам[64]. Яна цалкам укладвалася ў агульную тэндэн-

---

[63] Jakubowski J. Historiografia Litwy // Przegląd Wileński. Wilno, 1922. N. 5-6. S. 5.

[64] Totoraitis J. Die Litauer unter dem König Mindowe bis zum Jahre 1263. Freiburg, 1905.

цыю польскай гістарыяграфіі. Ёнас Татарайціс прыняў погляды Ляткоўскага, толькі перанёс час аб'яднання Міндоўгам дробных летувіскіх княстваў з 1236 на 1242 г.

Найбольш яркім прадстаўніком новай беларускай гістарыяграфіі стаў буйны гісторык ВКЛ Мітрафан Доўнар-Запольскі, які, аднак, спецыяльна генезай дзяржавы не займаўся. Маладая летувіская гістарыяграфія карысталася набыткам польскіх даследчыкаў з іх канцэпцыяй ВКЛ як балцкай дзяржавы. Беларускі погляд фармаваўся на глебе напрацовак расійскай гістарыяграфіі, пры гэтым баронены расіянамі "рускі пачатак" ВКЛ разглядаўся як уласна беларускі.

Як у пэўнай ступені "нейтральны" можна ацаніць погляд на праблему генезы ВКЛ вядомага ўкраінскага гісторыка Міхайлы Грушэўскага. Даследчык не бярэцца меркаваць аб шляхах і сродках - ваенных ці мірных - фармавання ядра дзяржавы, бо крыніцы пра гэта маўчаць. Ён проста канстатуе распаўсюджанне ўлады Міндоўга над княствамі т. зв. Чорнай Русі ў 30-40-х гадах 13 ст.[65] А вось агульная ацэнка дзяржавы, выказаная Грушэўскім: "Асноваю Вялікага Княства Літоўскага былі плямёны летувіскія і землі беларускія: той рускі элемент, які зрушчыў Вял. Кн. Літоўскае быў не ўкраінскі, а беларускі. Гэтаксама як Вял. Кн. Літоўскае можна (і трэба) да пэўнай меры лічыць славянскай дзяржавай, спадкаемцай Кіеўскай дзяржавы, то ва ўсялякім разе не ўкраінскаю, а перш за ўсё беларускаю, і ў цэласці яе гісторыю гэтаксама нельга ўводзіць ва ўкраінскую гісторыю, як і гісторыю Вял. Кн. Маскоўскага"[66]. У той жа час гісторык аддае даніну традыцыйным поглядам, ужываючы фармулёўкі "летувіская акупацыя на Русі" і інш.

### 1.2.2. 20-я - 30-я гады 20 ст.

Разгортванне ў 19 ст. нацыянальна-вызваленчых рухаў прывяло ў канцы 1-й сусветнай вайны да стварэння на месцы разваленых імперый новых нацыянальных дзяржаў. Дабіліся незалежнасці і некаторыя народы з тых, якія ў другой палове 16 - 18 ст. складалі Рэч Паспалітую (канфедэрацыю Вялікага Княства Літоўскага і Каралеў-

---

[65] Грушевський М. Історія України-Руси. Київ;Львів, 1907. Т.4. С.8.
[66] Грушевський М. Історія України-Руси. С. 8.

ства Польскага), а менавіта палякі, летувісы і латышы. Не ўдалося гэта зрабіць украінцам і беларусам.

У 20-30-я гады самы важкі ўклад у развіццё канцэпцыі генезы ВКЛ зрабіла польская гістарыяграфія. Праблема ўтварэння дзяржавы, значная частка земляў якой аказалася ў складзе Польшчы, займала важнае месца ў польскай гістарычнай навуцы. Уласныя версіі рэканструкцыі працэсу дзяржаваўтварэння распрацавалі Генрык Пашкевіч і Генрык Лаўмяньскі, многія гісторыкі ВКЛ выказваліся па сутнасці праблемы, якая стала тэмай ажыўленай дыскусіі на адным з агульных з'ездаў польскіх гісторыкаў. У польскай гістарычнай літуаністыцы праблема генезы ВКЛ была па значнасці на другім месцы пасля тэмы уніі Кароны і Літвы.

Даволі арыгінальную канструкцыю генезісу ВКЛ распрацаваў Генрык Пашкевіч. У адрозненне ад іншых польскіх даследчыкаў, якія прызнавалі творцам дзяржавы Міндоўга і спрачаліся галоўным чынам аб храналогіі і канкрэтным ходзе справы, Пашкевіч лічыў Міндоўга не стваральнікам, а аднавіцелем адзінства дзяржавы, якая склалася ўжо ў апошняй чвэрці 12 ст. Дэталёва аналізуючы пісьмовыя крыніцы і найперш дамову групы летувіскіх князёў з Валынскім княствам у 1219 г., даследчык прыйшоў да высновы, што верагодным першым аб'яднальнікам Летувы быў бацька Міндоўга і Даўспрунка, невядомы па імю князь, якога пазнейшая традыцыя называе Рынгольтам. Пяць князёў, пералічаных на першым месцы ў дамове 1219 г., былі членамі аднаго роду, удзельнымі князямі, якія пасля смерці бацькі Міндоўга валодалі Летувай. Вярхоўным князем быў адзін з іх - Жывібунд (у дамове названы першым). На думку Пашкевіча, у тэксце дамовы слова "старейшеи" трэба чытаць у адзіночным ліку - "старейшей" і адносіць яго да аднаго Жывібунда, а не да ўсіх пяці князёў.

Сваю тэорыю Пашкевіч прадставіў на V з'ездзе польскіх гісторыкаў (1930 г.)[67], чым выклікаў там дыскусію[68]. Ян Якубоўскі паўтарыў сваю даўнюю думку аб магчы-

---

[67] Paszkiewicz H. Litwa przed Mendogem // Pamiętnik V Powszechnego Zjazdu Historyków Polskich. Lwów, 1930. T.1. S. 252-253, 247-248.

[68] Pamiętnik V Powszechnego Zjazdu Historyków Polskich T. 2 (protokoły). S. 77-78

масці існавання яшчэ да часоў Міндоўга федэрацыі некалькіх самастойных княстваў. Ян Адамус заўважыў, што пры аналізе тэксту нельга абмяжоўвацца інтэрпрэтацыяй аднаго слова, бо тут важныя гістарычныя высновы залежаць ад наяўнасці або адсутнасці маленькага значка над літарай "и". Даследчык, спасылаючыся на даследаванне Грушэўскага[69], вывеў, што слова "старейшеи" трэба чытаць у множным ліку.

Генрык Пашкевіч у вялікай працы "Ягелоны і Масква" развіў сваю тэзу аб суіснаванні ў пачатку 13 ст. інстытута старэйшых князёў і вялікакняскай улады[70]. Погляды свае даследчык пацвердзіў у выдадзенай пасля вайны на эміграцыі працы "Пачаткі Русі"[71]. Вялікім князем над групай старэйшых быў спачатку Жывібунд, а потым, верагодна, Даўспрунк - брат Міндоўга[72], ці адразу пасля Жывібунда - сам Міндоўг[73]. У 1226-1236 гг. Міндоўг дабіўся адзінаўладдзя і тым самым вярнуўся да традыцыі, закладзенай бацькам. Панаванне Міндоўга склала паваротны этап гісторыі Летувы, бо гэты ўладар першым здолеў узяць уладу на даволі доўгі час - амаль на трыццаць гадоў[74].

Ніякіх прамых ці ўскосных звестак аб інстытуце вялікакняскай улады ні тым больш аб асобах на гэтым становішчы ў канцы 12 - пачатку 13 ст. крыніцы не захавалі. Пашкевіч грунтаваў свае высновы выключна на шэрагу дапушчэнняў і разважанняў гіпатэтычнага характару. Напрыклад, вывснова аб бацьку Міндоўга як стваральніку адзінай дзяржавы і першым вялікім князі грунтуецца на адной даволі некарэктна патрактаванай інфармацыі з Лівонскай старэйшай рыфмаванай хронікі, якая паведамляе аб Міндоўгавым бацьку (імя не называе) - быў такі магутны, што не меў сабе роўнага[75]. Кандыдату-

---

[69] Грушевьский М. Історія України-Руси. Т. 4. С. 7.

[70] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T.1. S.26, 53-54, 57-61.

[71] Paszkiewicz H. The Origin of Russia. London, 1954; польскае выданне: Paszkiewicz H. Początki Rusi. Kraków, 1996.

[72] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S.57-58.

[73] Paszkiewicz H. Początki Rusi. S. 218.

[74] Paszkiewicz H. Początki Rusi. S. 220-221.

[75] LR. S. 146. V. 6383-6385 - "din vater was ein konig gros; die den ziten sinen genos mochte man nicht vinden".

ра Даўспрунка прапаноўваецца даследчыкам на становішча вялікага князя (пасля Жывібунда) толькі з той прычыны, што ён быў "моцным" князем, бо дачка яго аддадзена замуж за галіцка-валынскага князя, а крыніцы называюць бацьку Даўспрунка магутным уладаром і г.д. Пашкевіч бачыў выразную ўзаемасувязь фармавання вялікакняскай улады з тэрытарыяльнымі заваёвамі на Русі і лічыў, што нельга "недаацэньваць ролі рускага элемента ў пабудове летувіскай дзяржавы". "Вялікія князі Летувы, каб узмацніць сваю пазіцыю ў краіне, узяць верх над асобнымі кунігасамі, карысталіся дапамогай войскаў з залежных ад іх рускіх земляў"[76] (падобна як у Антановіча паўстагоддзя раней).

"Найвялікшым дасягненнем літуаністычнай медыявістыкі" назваў у 1988 г. Юлюш Бардах[77] працу Генрыка Лаўмяньскага "Вывучэнне пачаткаў летувіскага грамадства і дзяржавы" (выйшла ў 1931-1932 гг.)[78]. На аснове дэталёва апрацаванага фактычнага матэрыялу з выкарыстаннем даных археалогіі, аналагаў з Прусіяй і Лівоніяй Лаўмяньскі намаляваў панарамны вобраз племяннога ладу старажытных летувісаў: стан гаспадаркі, рассяленне, сацыяльная структура, арганізацыя кіравання і генезіс дзяржавы. Генрык Лаўмяньскі з'яўляецца аўтарам т.зв. дружыннай тэорыі ўтварэння дзяржавы, якая дагэтуль застаецца актуальнай найперш у польскай гістарыяграфіі[79]. "Манархія не паўстала ў выніку эвалюцыі племянных саюзаў як гэта амаль паўсюдна прынята ў гістарыяграфіі, а на іх руінах; ствараючыя сілы былі ў дружынах - плодзе рабаўнічай экспансіі, якія знаходзіліся за межамі тэрытарыяльнага ўстрою"[80].

---

[76] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 72, 27; Tenże. Z zagadnień ustrojowych Litwy przedchrześcijańskiej // Kwartalnik Historyczny. 1930. T. 44/1. S. 311.

[77] Bardach J. O dawnej i niedawnej Litwie. Poznań, 1988. S. 402.

[78] Łowmiański H. Studia nad początkami społeczeństwa i państwa litewskiego. Wilno, 1931-1932. T.1-2.

[79] У 1983 г. праца перавыдадзена са скарачэннямі, але без выпраўлення нават яўных фактычных памылак: Łowmiański H. Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. Poznań, 1983. S.13-347.

[80] Łowmiański H. Studia nad początkami... T.2. S. 369.

Па меркаванню даследчыка, **пераўтварэнне племяннога ладу ў дзяржаву было вынікам паскарэння ўнутранай эвалюцыі летувіскага грамадства, выкліканага знешнімі прычынамі, у першую чаргу летувіскай экспансіяй на Русі.** "Летувіская дзяржава нарадзілася не на фоне абароны ад ордэна, а экспансіі на Русі"[81], - падкрэсліваў даследчык. Дзяржаватворчым чыннікам Лаўмяньскі назваў інстытут дружын - камандаў прафесійных вояў пад кіраваннем князёў, паўсталых у ходзе ваенна-рабаўнічай дзейнасці летувісаў. Дружыны патрабавалі сталых сродкаў на сваё ўтрыманне і дзеля гэтага пайшлі на Русь і пачалі асядаць у рускіх гарадах - "скінутыя з княскіх сталоў нашчадкі Рурыка саступаюць месца летувіскім кунігасам"[82]. Заваёва на Русі для іх была, паводле Лаўмяньскага, лягчэйшай справай, чым падпарадкаванне ўласнага грамадства. Але ваяўнічым і пераможным летувісам на Русі пагражала небяспека іншага кшталту - баявыя дружыннікі хутка асімілёўваліся, пераўтвараліся ў прадстаўнікоў лакальных рускіх інтарэсаў і ўмацоўвалі залогі рускіх гарадоў "мужным і энергічным летувіскім элементам". Такі паварот справы трывожыў арганізатараў экспансіі на Русь - "старшых" правадыроў. З гэтай сітуацыі, лічыць Лаўмяньскі, "лагічна выцякала неабходнасць стварэння ў краіне (Летуве. - *А.К.*) дзяржаўна-фіскальнага апарату, патрэбнага для падтрымання дружыннай арганізацыі, па ўзору хоць бы рускіх формаў дзяржаўнага ўстрою, якія ўсё лепей пазнаваліся летувісамі; неабходнасць **заваёвы летувіскага грамадства дружынамі**"[83]. Гэтая справа была ажыццёўлена Міндоўгам. Літоўскай зямлёй Міндоўг апанаваў перад сваёй каранацыяй (1253 г.), усёй Аўкштотай - у 1254-1258 гг., Жамойцю - у 1261 г. Лаўмяньскі не пагадзіўся з Пашкевічам, каб аднесці пачаткі дзяржавы да апошняй чвэрці 12 ст., і заявіў, што князі, пералічаныя ў дамове 1219 г., былі не манархамі (як лічыў Пашкевіч), а "проста правадырамі рабаўнічых бандаў" ("poprostu wodzowie band łupieskich")[84].

---

[81] Łowmiański H. Studia nad początkami... T.2. S. 237-238, 142.

[82] Łowmiański H. Studia nad początkami... T.2. S. 271, 348, 350.

[83] Łowmiański H. Studia nad początkami... T.2. S. 350-351.

[84] Łowmiański H. Studia nad początkami... T.2. S. 329.

Несумненна, даследчык ставіў перад сабой наступнае пытанне: як жа невялікая Летува падпарадкоўвала, утрымлівала і кіравала значна большай Руссю, калі да таго яшчэ была аслаблена пераходам на рускі бок часткі сваіх прафесійных вояў? Адказ на яго Лаўмяньскі шукаў у дэмаграфічных фактарах[85]. Даследчык на падставе аналізу попісаў войска ВКЛ 16 ст. (найперш 1528 г.), прыйшоў да выніку, што летувіскага баярства ў ВКЛ было намнога больш, чым рускага, і перанёс гэтую выснову на 13 ст. Факт агульнай (і вельмі значнай) колькаснай перавагі славян над балтамі ён лічыць не маючым значэння ў дзяржаўным жыцці, бо неарганізаваная сялянская маса не ўяўляла сабой палітычнай сілы. "Палітычная ўлада асобных тэрыторый вырашалася гушчынёй і якасцю рыцарскага, баярскага насельніцтва"[86].

Пад час аналізу названых вайсковых попісаў, Лаўмяньскі ўжываў для акрэслення этнічнай прыналежнасці пералічанай там шляхты крытэрый канфесійнай прыналежнасці. Таму ўсе каталікі ў яго - летувісы, а праваслаўныя адпаведна - русіны. У выніку гісторык здабыў інфармацыю, што летувісы складалі каля 60% агульнай колькасці рыцарства, і прызнаў яе адпаведнай сітуацыі 13 ст.

Аднак, па-першае, стан рэчаў у ВКЛ у 16 ст. моцна адрозніваўся ад сітуацыі 13 ст., таму метад рэтраспекцыі тут не спрацоўвае. Па-другое, ужыты Лаўмяньскім канфесійны крытэрый этнічнай ідэнтыфікацыі выглядае вельмі сумніўна, паколькі вядомы шматлікія выпадкі балцкага паходжання феадалаў праваслаўнага веравызнання і феадалаў-каталікоў беларускага ды ўкраінскага паходжання[87]. Выклікае сур'ёзны сумніў і выснова аб малалікасці (у параўнанні з балцкай Летувай) шляхты на землях, намнога перавышаўшых Летуву памерамі і колькасцю насельніцтва і даўно ўжо кіруемых феадальным

[85] Łowmiański H. Uwagi w sprawie podłoża społecznego i gospodarczego unii jagiellońskiej // Łowmiański H. Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. S. 365-454.

[86] Łowmiański H. Uwagi ... S.391.

[87] Трэба зазначыць, што гэты крытэрый застаецца актуальным для польскай гістарыяграфіі і пасляваеннага часу, аб чым сведчыць хаця б перавыданне працы Генрыка Лаўмяньскага ў 1983 г.

ладам, асновай якога з'яўлялася вайсковая конная служба рыцара за зямельнае ўзнагароджанне. Аналіз тых самых вайсковых попісаў з выкарыстаннем іншых крытэрыяў прыводзіць да значна адрозных вынікаў, што паказаў Анатоль Грыцкевіч праз сорак з лішнім гадоў пасля з'яўлення працы Лаўмяньскага[88].

Для падмацавання сваіх высноў Генрык Лаўмяньскі прыцягнуў таксама псіхалагічны фактар. Прызнаўшы, што ваенная сіла Русі была большай, чым вынікае са здабытых ім лічбаў, і што Русь мела перавагу ў некаторых аспектах ваеннай тэхнікі, даследчык тым не менш заключае: "дзякуючы малодшасці цывілізацыі, двухвяковым ваенным і палітычным поспехам, летувісы мелі адпаведны псіхічны настрой, былі больш вынослівымі і ваяўнічымі, жаднымі да здабычы, перамог і тэрытарыяльных набыткаў"[89].

Ацэньваючы гіпотэзу Лаўмяньскага, можна пагадзіцца са Станіславам Заянчкоўскім, які заўважыў, што Лаўмяньскі пры распрацоўцы сваёй канцэпцыі абапіраўся часам на недастаткова даказаныя высновы, зробленыя шляхам аналогіі і рэтрагрэсіі. Як "занадта гіпатэтычную" Заянчкоўскі ацаніў таксама канструкцыю Пашкевіча і прызнаў праблему генезіса ВКЛ надалей адкрытай[90]. Сам Заянчкоўскі больш схіляўся да пункту гледжання Пашкевіча з агаворкай наконт гіпатэтычнасці родавай агульнасці пяці старэйшых князёў у 1219 г., а таксама зверх-

---

[88] Грицкевич А.П. Распределение магнатских и шляхетских владений в Белоруссии по их величине и этнической принадлежности владельцев (16 в.) // Вопросы истории. Мн., 1978. Вып. 5. С. 94-105. Паводле А.Грыцкевіча, буйныя феадалы літоўскага паходжання ў сярэдзіне 16 ст. складалі менш паловы магнатаў Беларусі і ўсёй дзяржавы, але валодалі прыблізна паловай магнацкіх латыфундый. Беларуская шляхта складала каля 80% усёй шляхты і валодала 80% земляў, якія былі ва ўладанні сярэдніх і дробных феадалаў (С. 94). Па попісу войска 1528 г. у ВКЛ была 41 магнацкая сям'я, з іх 18 летувіскага паходжання (з іх 5 праваслаўных), 17 - беларускага, 5 - украінскага, 1- польскага паходжання (С. 99-100).

[89] Łowmiański H. Uwagi... S. 393.

[90] Zajączkowski S. Przegląd badań nad dziejami Litwy do 1385 r. // Pamiętnik VI powszechnego zjazdu historyków polskich w Wilnie 17-20 września 1935 r. Lwów, 1935. S. 8.

ніцтва Даўспрунка. Такім чынам, ён, як і большасць калег, лічыў, што некаторыя кунігасы, у тым ліку выступаючыя ў дамове 1219 г., маглі быць на становішчы манархаў[91]. У пасляваеннай польскай гістарыяграфіі прыжылася, аднак, версія Лаўмяньскага; магчыма, не апошнюю ролю ў гэтым адыграў выезд Пашкевіча ў эміграцыю.

Увогуле можна з пэўнасцю канстатаваць векавую канцэптуальную стабільнасць польскай гістарыяграфіі генезісу ВКЛ. Даследчыкі маглі не згаджацца між сабой у бачанні прычын, дзеючых сіл працэсу, у рэканструкцыі яго канкрэтных праяў. Але дзвюх галоўных пасылак: 1) **дзяржава - вынік эвалюцыі летувіскага грамадства**; 2) **цесная сувязь між утварэннем дзяржавы і захопам летувісамі земляў на Русі** - не кранаў ніхто. Гэтыя дзве тэзы ў польскай гістарыяграфіі выступаюць як пастулаты - ад пачатку зададзеныя, не падлеглыя дыскусіі аксіёмы. На іх будуюцца ўсе варыянты рэканструкцыі працэсу ўтварэння ВКЛ. У найбольш сціслым выглядзе яны прадстаўлены ў невялікай працы Фрыдэрыка Папее. Паводле гэтага даследчыка, першая дзяржаўная арганізацыя на Летуве ўзнікла ва ўмовах экспансіі летувісаў на Русі і небяспекі з боку крыжакоў[92].

Самай вялікай, на мой погляд, цяжкасцю, з якой сутыкнуліся польскія даследчыкі пры пабудове сваіх канструкцый, была яўная супярэчнасць між аксіёмай аб летувіскасці дзяржавы і фактамі ўдзелу ў ёй т.зв. рускага элемента. Гэтая супярэчнасць у польскай гістарыяграфіі была зліквідавана “мілітарным” спосабам, праз прыняцце тэзы аб адвечнай летувіска-рускай (у сэнсе беларускай) варожасці, якая скончылася перамогай летувісаў і заваёвай імі вялікіх тэрыторый на Русі.

Сапраўды, летапісы і хронікі зафіксавалі актыўную ваенна-рабаўнічую дзейнасць т.зв. літоўцаў ад 2-й паловы

[91] Zajączkowski S. Rec.: Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa // Ateneum Wileńskie. 1934. T.9. S. 305; Tenże. Rec.: Łowmiański H. Studia nad początkami społeczeństwa i państwa litewskiego. T.1-2 // Kwartalnik Historyczny. 1932. T. 46/1. S. 457.

[92] Papée F. Początki Litwy // Kwartalnik Historyczny. 1927. T. 41. S. 467-469.

12 ст. Аб'ектамі рабаўнічых нападаў сталі іх блізкія і далёкія суседзі, у тым ліку землі Русі. Але было адно выключэнне, якое даследчыкі або ўвогуле не заўважалі, або не прыдавалі яму значэння. Гаворка ідзе аб паўднёвых і паўднёва-ўсходніх суседзях летапісных літоўцаў, а менавіта аб беларускіх землях. Пісьмовыя крыніцы захавалі звесткі аб некалькіх дзесятках рабаўнічых паходаў летапісных літоўцаў у 12-13 стст. ва ўсіх кірунках. Аднак няма ніводнага сведчання аб нападзе на беларускія землі: Наваградак, Гародню, Слонім, Ваўкавыск, Полацк і інш. На фоне сапраўды вялікай ваенна-рабаўнічай актыўнасці летапісных літоўцаў у адносінах да ўсіх астатніх суседзяў такую з'яву цяжка назваць выпадковай. Наадварот, у тых жа крыніцах можна знайсці звесткі аб супрацоўніцтве летапісных літоўцаў з полацкімі князямі, напрыклад з князем Усеваладам з Герсіке, аб паходзе палачанаў разам з літвой на Ноўгарад. Генрык Пашкевіч выказваў здзіўленне, "што захавалася адносна мала паведамленняў аб зрабаванні самога Полацка". Калі бліжэй прыгледзецца да названых паведамленняў, то высвятляецца іх неаўтэнтычнасць. То радок з літаратурнага твора "Слова аб паходзе Ігаравым", кароткая інфармацыя з Гісторыі Длугаша і радок з Лаўрэнцьеўскага летапісу, з якога не вынікае, што рабавалі менавіта Полацк[93]. Добра вядомы факты выкарыстання палачанамі літоўцаў ва ўнутранай барацьбе, сумесных полацка-літоўскіх выправаў і саюза супраць немцаў. Генрык Лаўмяньскі заключыў, што напады літоўцаў на Полацк не дасягнулі вялікага напружання, бо захавалася мала звестак аб літоўска-полацкай барацьбе (даследчык не тлумачыць якія гэта звесткі)[94].

Маўчанне сярэднявечных дакументаў пра канфлікты на Панямонні і Падзвінні выглядае асабліва красамоўным у сугуччы з сённяшнімі сведчаннямі археалогіі і лінгвістыкі пра мірны характар балта-ўсходнеславянскіх кантактаў у гэтых рэгіёнах[95].

Распаўсюджаным стэрэатыпам польскай, і не толькі польскай, гістарыяграфіі да гэтага часу застаецца перака-

---

[93] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa... T. 1. S. 31.
[94] Łowmiański H. Studia nad początkami... T.2. S. 269.
[95] Гл. раздзел 2.1.

нанне, што Міндоўг і яго наступнікі будавалі дзяржаву менавіта балцкую - летувіскую. Аднак невядома ніводнага факта, які б сведчыў, што дзяржаўная ўлада ў ВКЛ забяспечвала панаванне летувісаў над русінамі. Дзяржаўная арганізацыя ў ВКЛ будавалася, як вядома, на аснове феадальнага ладу, пры якім этнічнае паходжанне феадалаў не мела істотнага значэння.

Цікавым прыкладам таго, як стэрэатып мыслення можа паўплываць на навуковае даследаванне, з'яўляецца праца вядомага гісторыка ВКЛ Яна Якубоўскага. Прызнаўшы, што "этнічна летувіская тэрыторыя не займала нават чацвёртай часткі ўсёй дзяржавы", даследчык адначасова выводзіць з попісу войска 1528 г., што "ва ўсёй летувіскай дзяржаве ў 16 ст. насельніцтва карэнна летувіскае калі не складала большасці, то ва ўсялякім выпадку раўнялася па колькасці рускаму насельніцтву"[96]. Зразумела, гэтая выснова не была прынята іншымі даследчыкамі з-за яе фантастычнасці.

Грунтоўная праца польскіх гісторыкаў міжваеннага часу мела свой плён. Выпрацаваная імі канцэпцыя была прынятая ва ўсім свеце, у тым ліку ў Савецкім Саюзе (з некаторымі мадыфікацыямі большай часткай ідэалагічнага характару).

Традыцыйная расійская гістарыяграфія ва ўмовах савецкага ладу развівацца далей не магла. Нешматлікія публікацыі, у тым ліку і Мацея Любаўскага[97], былі паўторамі ранейшых напрацовак. Савецкая расійская гістарыяграфія сфармавала свае адносіны да праблемы ўтварэння ВКЛ пазней, ужо пасля заканчэння 2-й сусветнай вайны. Як значную навуковую падзею канца 30-х гадоў можна ацаніць публікацыю знакамітай "Хронікі Лівоніі" Генрыха Латвійскага. Гэтае выданне, як і каментарыі да яго, і сёння мае высокую навуковую вартасць[98].

У Летуве, каб задаволіць вырасшы попыт на гістарычныя веды і абудзіць цікавасць насельніцтва да гісторыі, ства-

---

[96] Jakubowski J. Studia nad stosunkami narodowościowymi na Litwie przed Unią Lubelską. Warszawa, 1912. S.6, 10.

[97] Напрыклад: Любаўскі М. Літва і славяне ў іх узаемаадносінах у 11-13 стст. // Запіскі аддзелу гуманітарных навук Беларускай Акадэміі Навук. Працы клясы гісторыі. 1928. Т. 3. С. 1-20.

[98] Генрих Латвийский. Хроника Ливонии. М.;Л., 1938.

раліся папулярныя і папулярна-навуковыя працы, выкарыстоўваліся пераробкі з польскіх і расійскіх гісторыкаў: Станіслава Кутшэбы, Яна Якубоўскага, Уладзіміра Антановіча і Мацея Любаўскага. Паваротным момантам развіцця гістарычнай навукі ў Летуве было ўтварэнне незалежнай дзяржавы. Дзякуючы падтрымцы дзяржавы павялічваецца колькасць гістарычных прац, гісторык-аматар саступае пра-фесіяналу. Ад гэтага часу "можна казаць аб сапраўды наву-ковым летувіскім руху ў галіне гісторыі"[99].

У 20-30-я гады ўдзел летувіскіх гісторыкаў у распрацоўцы праблемы генезы ВКЛ можна ацаніць як вельмі нязначны. Тэма гэтая глыбока не распрацоўвалася, закранаіся некаторыя моманты гісторыі 13 ст. (найперш бітва пры Дурбе). Працы Стакаўскаса і Татарайціса[100] аб Міндоўгу адносяцца хутчэй да папулярных[101]. Летувіскія даследчыкі ў поўнай меры скарысталі навуковы набытак польскай гістарычнай літуаністыкі, менавіта яе дасягненні ў сцвярджэнні балцкага паходжання ВКЛ.

Беларуская гістарыяграфія карысталася напрацоўкамі расійскай гістарыяграфіі, гэтаксама як летувіская – польскай. Сцвярджалася, што той "рускі пачатак" у ВКЛ, які так шчыра абаранялі расіяне, з'яўляўся, уласна кажучы, беларускім, а сама дзяржава называлася літоўска-беларускай. Спецыяльных прац па генезе ВКЛ у гэты час на Беларусі таксама не з'явілася. Толькі ў працах сінтэтычнага характару Уладзімір Пічэта, Мітрафан Доўнар-Запольскі, Усевалад Ігнатоўскі і інш. выказвалі свае погляды на пачатак гэтай дзяржавы, якія ў галоўных рысах адпавядалі расійскай гістарыяграфічнай традыцыі[102].

---

[99] Zajączkowski S. Litewski ruch naukowy w zakresie historii // Kwartalnik Historyczny. 1935. T.49. S. 311, 313.

[100] Stakauskas J. Karaliaus Mindaugo nuo krikščionybės atkritimo klausimas // Tiesos kelias. 1931. N. 7-10; Totoraitis J. Mindaugas Lietuvos karalius. Kaunas, 1932.

[101] Zajączkowski S. Przegląd badań nad dziejami Litwy do 1385 r. S. 8; Tenże Litewski ruch naukowy... S. 321.

[102] Гл.: Доўнар-Запольскі М.В. Гісторыя Беларусі. Мн., 1994 (першае выданне, паколькі рукапіс быў забаронены для друку ў 1926 г.); Пичета В. История Литовского государства до Люблинской унии. Вильно, 1921; Пічэта У. Гісторыя Беларусі. М.;Л., 1924. Ч.1.

У першай чвэрці 20 ст. ствараліся публіцыстычныя і навукова-папулярныя працы па гісторыі Беларусі з мэтай абудзіць сярод беларускага этнасу, практычна пазбаўленага інтэлігенцыі, цікавасць да сваёй гісторыі. Адпаведным чынам інтэрпрэтавалася ВКЛ як у значнай ступені беларуская (крывіцкая) дзяржава. Значны ўплыў на развіццё беларускай гістарыяграфіі аказала адсутнасць незалежнай дзяржавы. Стварэнне ўласнай гістарычнай школы ў складзе СССР аказалася справай нерэальнай. Адносна спрыяльны перыяд так званай беларусізацыі закончыўся фізічным вынішчэннем маладой нацыянальнай інтэлігенцыі, у тым ліку гісторыкаў. Пад час крызісу Савецкага Саюза і пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі (27 ліпеня 1990 г.) гістарыяграфія палітычнай і ваеннай гісторыі ВКЛ зноў пачыналася тут з прац публіцыстычнага і навукова-папулярнага характару[103].

### 1.2.3. 40-я гады - канец 20 ст.

На гэтым этапе практычна нічога канцэптуальна новага створана не было. Пасля 2-й сусветнай вайны працягвалася далейшая разбудова канцэпцыі генезы ВКЛ, якая прадстаўляла працэс дзяржаваўтварэння як справу балтаў.

Найбольш значнай падзеяй стала выдадзеная ў 1959 г. буйная манаграфія Уладзіміра Пашуты "Утварэнне Летувіскай дзяржавы". З першага ж погляду гэтая праца стварае ўнушальнае ўражанне шматлікасцю выкарыстаных крыніц і аб'ёмным гістарыяграфічным аналізам. Пашута адмовіўся ад традыцыйнай расійскай інтэрпрэтацыі ВКЛ як **летувіска-рускай дзяржавы ад самых яго пачаткаў** і прыняў польскую канцэпцыю **балцкай**, а менавіта **летувіскай** дзяржавы з характэрным для яе атаясамленнем сярэднявечнай Літвы з сучаснай Летувай.

У межах гэтай канцэпцыі даследчык прапанаваў уласную рэканструкцыю працэсу дзяржаваўтварэння, якая не супадала з польскай версіяй у некаторых важных дэталях.

---

[103] Гл., напрыклад: Насевіч В.Л. Пачаткі Вялікага княства Літоўскага: Падзеі і асобы. Мн., 1993.

Адным з галоўных пастулатаў традыцыйнай польскай канцэпцыі генезы ВКЛ да моманту выхаду ў свет працы Пашуты з'яўлялася ідэя аб цеснай узаемасувязі працэсу ўтварэння дзяржавы з тэрытарыяльнымі летувіскімі захопамі на Русі. Пашута не прыняў гэтую тэзу і храналагічна аддзяліў фармаванне летувіскай (монаэтнічнай - балцкай) дзяржавы ад тэрытарыяльных набыткаў на Русі (ці Беларусі, паводле Уладзіміра Пашуты). Даследчык прадставіў генезу ВКЛ як трохфазавы працэс: "Палітычны лад Летувы прайшоў наступныя этапы развіцця: **канфедэрацыя** земляў, потым іх **саюз**, узначалены князямі Аўкштоты, і, нарэшце, адносна адзіная **раннефеадальная манархія**" (выдзелена мною. - *А.К.*)[104].

Канфедэрацыя земляў бачылася даследчыку, "як пераходная форма ад патрыярхальна-абшчыннага ладу да дзяржаўнага". Потым з асяроддзя нобіляў выдзяліліся мацнейшыя "і канфедэрацыя летувіскіх земляў змянілася іх саюзам, які дзейнічаў пад кіраўніцтвам набілітэту на чале з больш моцнымі князямі". Саюз, на думку Пашуты, выразна паказаны ў дамове 1219 г. валынскіх князёў з летувіскімі. Адсюль вынікае высновa даследчыка: "Наўрад ці выкліча пярэчанне, што адлюстраваная ў дамове вялікакняская ўлада ("старъшеи"), якая абапіраецца на залежных ці саюзных князёў, сведчыць аб наяўнасці ў Летуве адносна адзінай дзяржавы"[105].

Такім чынам, у Пашуты канфедэрацыя - пераходная форма, а наступная стадыя - саюз - ужо дзяржава. Паводле Пашуты, атрымліваецца, што яна мела ажно пяцёра вялікіх князёў. Апошні трэці этап - раннефеадальная манархія - то ўжо ўласна ВКЛ. На гэтай фазе адбылася заваёва беларускіх земляў. Галоўная ідэя канцэпцыі Пашуты заключаецца ў наступнай сентэнцыі: "**захоп Беларусі летувіскімі феадаламі паклаў пачатак пераўтварэнню невялікай Летувіскай дзяржавы ў Летувіскае вялікае княства"** (выдзелена мной. - *А.К.*)[106].

---

[104] Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. С. 364.
[105] Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. С. 339.
[106] Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. С. 368.

Трохфазавая канструкцыя Пашуты выглядае не надта зграбна: выдзеленыя даследчыкам этапы не маюць выразных сутнасных і храналагічных адрозненняў. Найперш гэта тычыцца дзвюх першых фаз: канфедэрацыі і саюза. Лаўмяньскі, ацэньваючы высновы Пашуты, заўважыў, што "паміж паняццем канфедэрацыі і саюза ў даным кантэксце не бачна істотнай розніцы"[107]. Відавочна таму, у пазнейшай гістарыяграфіі першыя дзве фазы пачалі лічыцца за адну, называную ці саюзам плямёнаў, ці канфедэрацыяй земляў[108].

Варта зрабіць невялікае адступленне, каб удакладніць дэфініцыю самога паняцця дзяржавы. Уладзімір Пашута карыстаецца прынятай у савецкай гістарыяграфіі класавай тэорыяй дзяржавы, аўтарства Леніна, менавіта: "**дзяржава - апарат улады аднаго класа над другім**"[109]. Аднак у сусветнай навуцы прынята больш універсальная класічная, т.зв. трохкампанентная дэфініцыя, паводле якой для дзяржавы неабходна наяўнасць **насельніцтва, тэрыторыі, публічнай улады**. Яна сфармулявана Георгам Еллінекам: "Як прававое паняцце дзяржава ёсць, такім чынам, *карпарацыя насяляючага пэўную тэрыторыю народа, якая валодае першаснай вярхоўнай уладай*, ці, ужываючы пашыраны ў навейшы час тэрмін, *тэрытарыяльная карпарацыя, якая валодае першаснай уладай*"[110]. А вось яе разгорнутае трактаванне: **дзяржава - гэта палітычная, прымусовая, тэрытарыяльная, забяспечаная спецыяльным апаратам арганізацыя, якая ахоплівае ўсё грамадства і выконвае акрэсленыя функцыі**[111]. Гэтая арганізацыя канцэнтруецца на

---

[107] Łowmiański H. Uwagi o genezie państwa litewskiego // Przegląd Historyczny. 1961. T. 52. S. 143.

[108] Гл., напрыклад: История Литовской ССР с древнейших времен до наших дней. Вильнюс, 1978. С. 32; Gudavičius E. Dél lietuvių žemių konfederacijos susidarimo laiko // Lietuvos TSR Aukštųjų Mokyklų Mokslo darbai. Istorija. Vilnius, 1984. T. 24. P. 12-28; Ochmański J. Historia Litwy. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1990. S. 44.

[109] Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. С. 188.

[110] Еллинек Г. Право современного государства. Т. 1: Общее учение о государстве. СПб., 1903. С. 114; гл. таксама: Jellinek G. Ogólna nauka o państwie. Warszawa, 1921. S. 19-20.

[111] Bohdanowicz J., Dzięcielski M. Zarys geografii historycznej i politycznej cywilizacji. Gdańsk, 1994. S. 42-46.

кіраванні грамадствам, таму яна **палітычная**; прымае рашэнні і выконвае іх, ужываючы пры неабходнасці апарат прымусу, адсюль яна **прымусовая**; валодае пэўнай тэрыторыяй (**тэрытарыяльная**); забяспечана **спецыяльным апа-ратам**, створаным з людзей, якія прафесійна займаюцца кіраваннем і ўжываннем прымусу. Функцыі дзяржавы: **унутраная** - падтрыманне праравога парадку і **знешняя** - абарона перад знешняй небяспекай.

У люстэрку такой дэфініцыі група старэйшых літоўскіх князёў, пералічаных у дамове 1219 г., не выглядае на кіраўнікоў адной дзяржавы. З такой жа верагоднасцю (аднолькава малой) можна гаварыць пра існаванне на той час у Летуве некалькіх (па колькасці старэйшых князёў) дзяржаў (Якубоўскі, Заянчкоўскі)[112]. Хутчэй можна пагадзіцца з Лаўмяньскім, лічыўшым гэтую групу "самымі моцнымі правадырамі дружын" ці "папросту правадырамі рабаўнічых бандаў"[113]. Ніякіх слядоў летувіскай дзяржавы не знойдзем і ў важнейшай тагачаснай крыніцы - "Хронікі Лівоніі" Генрыха Латвійскага.

З'яўляецца відавочным, што афіцыйная савецкая дэфініцыя дзяржавы абмяжоўвала свабоду навуковага пошуку. Даследчыку не заставалася нічога іншага, як працаваць у рамках гэтай дэфініцыі і тлумачыць вытокі ВКЛ праз фармаванне класаў. Адсюль вынікае парадаксальная, здавалася б, блізкасць канцэпцыі Пашуты да поглядаў польскіх даследчыкаў 19-1-й паловы 20 ст. Польская версія ўнутранай эвалюцыі летувіскага грамадства да дзяржавы выпадкова аказалася бліжэй да пастулатаў камуністычнай ідэалогіі, чым погляды традыцыйнай расійскай гістарыяграфіі.

З'яўленне манаграфіі Уладзіміра Пашуты закончыла на карысць польскай версіі векавую расійска-польскую дыскусію аб генезе ВКЛ. Працы польскіх даследчыкаў Пашута крытыкаваў з пазіцыі марксісцкай ідэалогіі, уносіў свае папраўкі ў канцэпцыю, але пагаджаўся з галоўнай яе тэзай: ВКЛ - прадукт унутранай эвалюцыі

---

[112] Pamiętnik V Powszechnego Zjazdu Historyków Polskich. Lwów, 1930. T. 2 (protokoły). S. 77, 80.

[113] Łowmiański H. Studia nad początkami... T.2. S. 190, 329.

балцкай Летувы. Відавочна, найперш з гэтай прычыны, а не толькі з палітычных меркаванняў можна тлумачыць зычлівую рэакцыю на працу Пашуты аднаго са "стаўпоў" польскай гістарыяграфіі Генрыка Лаўмяньскага[114].

Праца Пашуты на некалькі дзесяцігоддзяў акрэсліла накірунак развіцця гістарыяграфіі ВКЛ у Савецкім Саюзе і краінах-сатэлітах. Заяўленыя ў ёй метадалагічныя падыходы аўтаматычна станавіліся ўзорам для гістарыяграфіі іншых краін "сацыялістычнага лагера". Універсальны метад гістарычнага аналізу (Пашута называе яго "марксісцкі параўнаўча-гістарычны метад")[115], які, увогуле, не пярэчыць прынцыпу навуковасці, у дадзеным выпадку быў скажоны палітычнай ідэалогіяй. У выніку буйная і складаная гістарычная з'ява аказалася ўціснутай ў пракруставага ложа ідэалагічнай догмы.

Ва ўмовах таго часу сур'ёзна крытыкаваць савецкага гісторыка магчыма было толькі з-за межаў краін савецкага блока. З крытычным разборам канцэпцыі Пашуты (канцэпцыя была выкладзена ў шэрагу публікацый яшчэ да з'яўлення асноўнай манаграфіі)[116] выступіў заходнегерманскі гісторык Манфрэд Хэльман[117]. Аб'ектам крытыкі сталі якраз высновы, зробленыя на аснове марксісцкай метадалогіі. Паводле назірання Хэльмана, Пашуце ад пачатку патрэбна было давесці, што летувісы перажылі тыя ж фазы развіцця, якія савецкая гістарыяграфія лічыць абавязковымі для ўсіх іншых еўрапейскіх народаў. Калі адкінуць ідэалагічныя інтэрпрэтацыі і бяздоказныя палажэнні, то, на думку Хэльмана, аснова створанай Пашутам карціны гісторыі старажытных летувісаў, нямнога розніцца ад поглядаў Генрыка Пашкевіча[118]. Хэльман назваў

---

[114] Łowmiański H. Uwagi o genezie państwa litewskiego. S. 127-146.

[115] Пашуто В.Т. Против некоторых буржуазных концепций образования Литовского государства // Вопросы истории. 1958. № 8. С. 40.

[116] Гл. спіс літаратуры, напрыклад: О возникновении Литовского государства // Известия АН СССР. Серия истории и философии. М., 1952. Т. 9. № 1. С. 29-49.

[117] Hellman M. Zu den Anfängen des litauischen Reiches // Jahrbücher fur Geschichte Osteuropas. Neue Folge. Band 4. 1956. München, 1956/1957. S. 159-165.

[118] Ibidem. S. 160, 165.

"няўдалай" спробу тлумачэння генезісу дзяржавы як выніку ўнутранага летувіскага развіцця на аснове сацыяльнаэканамічнага базісу і палічыў "чыстай тэорыяй" разважанні Пашуты аб развіцці летувіскіх вытворчых сіл, паколькі гэтыя разважанні не падмацаваны крыніцамі[119].

У адказе на крытыку Пашута пацвердзіў вернасць усім сваім высновам і ў сваю чаргу пакрытыкаваў Хэльмана, а заадно і польскіх ды летувіскіх гісторыкаў-эмігрантаў Пашкевіча, Халецкага, Неверавічуса, Шапоку і інш. за прыверажанасць "буржуазным канцэпцыям", а астатніх яшчэ за "рэакцыйную эміграцкую прапаганду"[120]. Вернасць сваім поглядам канца 50-х гадоў Уладзімір Пашута захаваў і пазней[121].

Працамі Пашуты пачалася і фактычна закончылася расійская савецкая гістарыяграфія генезы ВКЛ. У навуковым сэнсе да вырашэння праблемы яна нічога новага практычна не ўнесла.

Дзеля цікавасці прывяду арыгінальны погляд на генезу ВКЛ нетрадыцыйнага расійскага гісторыка Льва Гумілёва. Па ходу аповяду аб паўстанні сённяшняй Расіі ён закранае гэтую праблему і вырашае яе праз сваю універсальную тэорыю этнагенезу. Паводле даследчыка, усё пачалося дзякуючы пасіянарнаму штуршку, меўшаму месца ў пачатку 13 ст. Паводле Гумілёва, такія пасіянарныя штуршкі выступаюць як глабальныя планетарныя з'явы і ахопліваюць вузкія палосы зямной паверхні працягласцю ў тысячы кіламетраў. На гэтых палосах адначасова пачынаюцца этнагенезы розных народаў. У зоне штуршка пачатку 13 ст.,акрамя Маскоўскай Русі апынуліся даліна Прыпяці і Прыдняпроўе. Штуршок адрадзіў да жыцця некалькі летувіскіх плямёнаў. Пачаў справу Міндоўг, стварыўшы з тых плямёнаў адзіную Летуву, а давяршыў Гедымін[122].

Як бачым, арыгінальны погляд Льва Гумілёва дакладна ўкладаецца ў традыцыйную савецкую канцэпцыю

---

[119] Ibidem. S. 164, 161.

[120] Пашуто В.Т. Против некоторых буржуазных концепций... С. 62.

[121] Пашуто В.Т., Флоря Б.Н., Хорошкевич А.Л. Древнерусское наследие... С. 28-29.

[122] Гумилёв Л.Н. От Руси к России: Очерки этнической истории. М., 1992. С. 7-8, 136, 142.

ўтварэння ВКЛ. Не стасуецца толькі адна геаграфічная дэталь. На пачатку 13 ст. басейн Прыпяці і Прыдняпроўе засялялі не летувісы, а ўсходнія славяне. Чаму ж не яны, а летувісы прыйшлі ў этнагенетычны рух? На жаль, тлумачэння гэтай "дробязі" Гумілёў не прыводзіць.

У пасляваеннай Польшчы над праблемай генезісу ВКЛ ніхто спецыяльна не працаваў. Маўкліва прызнавалася, што яна прынцыпова вырашана. Некаторыя дэталі сваёй канструкцыі змяняў Генрык Лаўмяньскі[123]. Яго вучань Ежы Ахманьскі працягваў працу настаўніка. Рэканструкцыя генезы ВКЛ Ахманьскага ўяўляе сабой своеасаблівы сінтэз даваенных поглядаў Лаўмяньскага і пасляваенных Пашуты. Ад першага даследчык пераняў "дружынную" тэорыю ўтварэння дзяржавы (замяніўшы тэрмін "дружыны" на "арыстакраты"). Услед за Пашутам Ахманьскі разумее дзяржаву як класавую арганізацыю[124]. Паводле Ахманьскага, пануючы клас - арыстакраты (wieszpacowie) ствараюць дзяржаву, але робяць гэта не праз падпарадкаванне сваіх суайчыннікаў ("гэта прыводзіла да вострых класавых канфліктаў"), а шляхам тэрытарыяльных захопаў на Русі. Хітрасць арыстакратыі заключалася ў тым, каб завабіць сваё грамадства перспектывай багатай ваеннай здабычы і "ў ходзе ваеннай акцыі навязаць яму акрэсленыя фіскальныя абавязкі на карысць дзяржавы"[125].

Увогуле справа выглядае так, быццам Ахманьскі ўзяў на сябе задачу, не змяняючы сутнасных момантаў канцэпцыі Лаўмяньскага, прыстасаваць яе да рэалій камуністычнай Польшчы. У асноўных момантах сваёй рэканструкцыі генезы ВКЛ Ахманьскі захоўваў вернасць традыцыям польскай гістарыяграфіі. Ён лічыў, што ў выніку летувіскай экспансіі на Русь "нацыянальная летувіская дзяржава вельмі рана, ужо з першай паловы 13 ст.,

---

[123] Łowmiański H. Agresja zakonu krzyżackiego na Litwę w wiekach 13-15 // Przegląd Historyczny. 1954. T.45. S. 345; Łowmiański H. Geneza ziemi połockiej // Z polskich studiów slawistycznych. Seria 3. Historia. Warszawa, 1968. S.18.

[124] Ochmański J. Historia Litwy. S. 43.

[125] Ochmański J. Historia Litwy. S. 43.

пачала пераўтварацца ў біэтнічную, летувіска-рускую - Вялікае Княства Літоўскае, у якім летувісы былі этнасам пануючым і прывілеяваным, а русіны - залежным і абмежаваным у сэнсе праўна-палітычным"[126].

Важным крокам на шляху стварэння дзяржаўнай арганізацыі Ахманьскі лічыў летувіскі племянны саюз (канфедэрацыю, у адрозненне ад Пашуты, не ўпамінае). Даследчык выказвае дапушчэнне, што памянуты саюз у 1219 г., абяцаючы мір і саюз Валынскаму княству, вымагаў ад таго згоду на заняцце Чорнай Русі з Наваградкам. З гэтага дапушчэння ён выводзіць наступную выснову аб пераўтварэнні рабаўнічых летувіскіх нападаў на Русь ў палітычна-заваявальную экспансію. Выснова надзвычай важная, але, на жаль, выведзеная праз элементарную лагічную памылку. Паводле фармальнай логікі нельга на недаказанай пасылцы-дапушчэнні абапіраць новую выснову, якая ад гэтага становіцца яшчэ менш даказанай. Ахманьскі вывеў таксама, што перад сярэдзінай 13 ст. акрамя Літвы існаваў яшчэ адзін дзяржаватворчы асяродак - на Жамойці. Лідэр жамойцкага цэнтра Вікінт, аднак, саступіў у барацьбе свайму швагру Міндоўгу. Уладу над усёй Аўкштотай Міндоўг запэўніў сабе каля 1240 г.[127]

Ежы Ахманьскі шмат папрацаваў над стварэннем панарамнай карціны шматвяковай балта-ўсходнеславянскай канфрантацыі. Працэс утварэння ВКЛ даследчык разглядаў выключна праз прызму гэтай канфрантацыі. У спецыяльнай працы, прысвечанай балта-ўсходнеславянскай мяжы, ён трактуе адносіны між балтамі (летувісамі) і ўсходнімі славянамі (русінамі) з 7 па 13 ст. як непарыўнае змаганне за тэрыторыі. Напачатку перавагу мелі русіны, потым адбыўся "трыумф Літвы", якая аб'яднала этнічныя летувіскія землі і заняла прылеглыя заселеныя русінамі тэрыторыі.

Між тым аб'ёмная гістарыяграфія працэсу балта-славянскіх кантактаў (найперш археалагічная і лінгвістычная) на Панямонні, як і па ўсёй Беларусі, кардынальна

[126] Ochmański J. Litewski ruch narodowo-kulturalny w 19 wieku (do 1890 r.). Białystok, 1965. S. 47.

[127] Ochmański J. Historia Litwy. S. 45-46.

супярэчыць тэзе канфрантацыі гэтаксама, як і выснове пра "трыумф Літвы". Спецыяльныя даследаванні паказваюць, што адносіны былі пераважна мірнымі і існавала вялікая кантактная зона са змешаным балта-славянскім насельніцтвам. Працэс мірнага прасоўвання ўсходніх славян на балцкія землі працягваўся і пасля ўтварэння ВКЛ. Этнаграфічныя даследаванні сведчаць аб беларусізацыі летувісаў на этнічнай мяжы яшчэ ў 20 ст., што, дарэчы, было вядома самому Ахманьскаму[128]. Сам даследчык прыводзіць таксама шматлікія факты мірнага суіснавання беларусаў і летувісаў на Панямонні ў 16 ст.

Намаганнямі Уладзіміра Пашуты летувіская савецкая гістарыяграфія атрымала (падобна як даваенная атрымала ад польскай) гатовую, афіцыйна прызнаную канцэпцыю і магчымасць развіваць яе далей у духу традыцый перыяду незалежнасці 20-30-х гадоў. Манаграфія Пашуты была перакладзена і надрукавана ў Летуве (з невялікімі дапаўненнямі і значнымі скарачэннямі, найперш у крыніцазнаўчай і гістарыяграфічнай частках)[129]. Летувіская гістарыяграфія пасляваеннага часу занялася разбудовай і канкрэтызацыяй схемы Пашуты. Яна прадстаўлена галоўным чынам артыкуламі па розных аспектах працэсу дзяржаваўтварэння. Трохфазавая схема Пашуты (канфедэрацыя - саюз - манархія) была спрошчана. Засталіся дзве фазы: саюз (або канфедэрацыя) і дзяржава. Ромас Батура выказаўся па пытанню сталіцы Міндоўга[130], месца якой ён бачыў у Вільні. Погляд гэты, аднак, не прыжыўся ў навуцы. Той жа аўтар стварыў працу аб удзеле Літвы ў барацьбе з татарамі ад другой чвэрці 13 ст. да ча-

---

[128] Ochmański J. Litewska granica etniczna na wschodzie od epoki plemiennej do 16 wieku. Poznań, 1981. S. 80; Kamieniecki W. Geneza Państwa Litewskiego. S. 45; Brückner A. Polacy a Litwini. Język i literatura // Polska i Litwa w dziejowym stosunku. Warszawa; Lublin; Łódź; Kraków, 1914. S 363; Jakubowski J. Studia nad stosunkami narodowościowymi na Litwie ... S. 2-3; M. F. Witebsk i Witebszczyzna // Ziemia. Warszawa, 1912. S. 516-518; Ochmański J. Litewski ruch narodowo-kulturalny... S. 59, 62; гл. таксама раздзел 2. 1.

[129] Pašuta V. Lietuvos valstybės susidarymas. Vilnius, 1971.

[130] Batūra R. XIII a. Lietuvos sostinės klausimu // Lietuvos TAR Mokslų Akademijos darbai, A serija. 1(20). 1966. P. 141-165.

соў Альгерда. Аб дзейнасці Міндоўга шмат пісаў у эміграцыі Зянонас Івінскіс[131].

Па розных праблемах ранняй гісторыі дзяржавы выступалі Варакаўскас і Гудавічус. Першы выказаў меркаванне, што палітычнае аб'яднанне летувіскіх земляў у адну дзяржаву адбывалася ў канцы 12 - пачатку 13 ст. Працы Эдвардаса Гудавічуса таксама прысвечаны канкрэтным праблемам, аб чым сведчаць іх назвы, напрыклад: "Да пытання аб цэнтры і часе ўтварэння Летувіскай дзяржавы", "Аб часе ўтварэння канфедэрацыі летувіскіх земляў", "Літва Міндоўга" і інш.[132] Гудавічус падтрымаў лакалізацыю старажытнай Літвы, прапанаваную ў пачатку 30-х гадоў Лаўмяньскім, - міжрэчча Нёмана і Віліі. Як арыгінальную можна ацаніць спробу даследчыка лакалізаваць уладанні літоўскіх князёў 13 ст. па тапонімах, галоўным чынам 16-20 стст. Гудавічус склаў нават нешта накшталт палітычнай карты Аўкштоты і Жамойці 13 ст.[133]

Абагульненнем даследаванняў Гудавічуса стала буйная манаграфія "Міндоўг"[134]. Гэтая праца вытрымана ў традыцыйных схемах летувацэнтрысцкай канцэпцыі генезы ВКЛ (эвалюцыя летувіскага грамадства да дзяржавы, заваёва суседніх беларускіх земляў). На аснове шырокага выкарыстання крыніц і спецыяльных прац даследчык разглядае праблему фармавання дзяржавы ў старажытных літоўцаў, палітычную геаграфію балцкіх земляў, падае дэталёвую біяграфію Міндоўга з уласнай інтэрпрэтацыяй тагачасных палітычных выдарэнняў.

Даволі важкі ўклад у распрацоўку праблемы ўнеслі і летувіскія археолагі, якія падвялі пад існуючую канцэпцыю генезы ВКЛ падмурак у выглядзе тэорыі аб утварэнні летувіскай народнасці. Вытокі яе акрэслены ў культуры штрыхаванай керамікі пачынаючы ад сярэдзіны 1-га тыс. н.э.[135] На месцы

---

[131] Гл. напрыклад: Ivinskis Z. Mindaugas und seine Krone // Zeitschrift für Ostforschung. 3. Jahrgang. 1954. Heft 3. S. 360-386; гл. таксама спіс літаратуры.

[132] Гл. спіс літаратуры.

[133] Gudavičius E. Kryžiaus karai Pabaltijyje ir Lietuva XIII amžiuje. Vilnius, 1989. P. 96.

[134] Gudavičius E. Mindaugas. Vilnius, 1998.

[135] Волкайте-Куликаускиене Р.К. Образование литовской народности (по данным археологии) // Советская этнография. 1979. № 3. С. 45.

адной з груп гэтай культуры з канца 4-5 ст. фармуецца культура ўсходнелітоўскіх курганоў, якая і была ядром летувіскай народнасці[136]. У 11-12 стст. такая народнасць ужо існавала, але працягвала фармавацца далей "сумесна з фармаваннем летувіскай дзяржавы"[137]. Такім чынам была створана жорстка звязаная ў часе і прасторы схема "вырастання" летувіскай дзяржаўнасці яшчэ з жалезнага веку. Часам летувіскія даследчыкі прызнаюць уплыў на працэс існуючых побач дзяржаўных утварэнняў усходніх славян. Археолагі выказвалі таксама свае меркаванні адносна лакалізацыі сярэднявечнай Літвы, прычым часта нязгодныя між сабой і амаль заўсёды нязгодныя з гісторыкамі (гл. раздзел 2.2).

Беларуская гістарыяграфія генезы ВКЛ не існавала як самастойная з'ява да канца 80-х гадоў 20 ст. (да т.зв. перабудовы). Палітычная гісторыя ВКЛ была табуіраванай тэмай для беларускіх савецкіх гісторыкаў. Пабудову гэтай дзяржавы афіцыйна прызналі справай летувісаў[138]. Дазволенай (а таму і найбольш распрацаванай) тэмай з гісторыі ВКЛ на Беларусі сталі аграрныя адносіны, найперш гісторыя беларускага сялянства. Працы беларускіх гісторыкаў у эміграцыі (напрыклад, Яна Станкевіча, Паўлы Урбана) не аказалі ўплыву на развіццё гістарычнай навукі ў Беларусі, яны тут былі практычна невядомыя.

З'яўленне ў канцы 80 - пачатку 90-х гадоў і незвычайная папулярнасць прац Міколы Ермаловіча[139] тлумачацца спецыфікай развіцця беларускай гістарычнай навукі ва ўмовах адсутнасці незалежнай дзяржавы. Польскі і летувіскі вопыт на працягу двух міжваенных дзесяцігоддзяў паказаў, якое важнае значэнне для фармавання нацыянальнай гістарыяграфіі мае ўласная дзяржаўнасць. Калі ў Польшчы і Летуве актыўна распрацоўваліся кан-

---

[136] Лухтан А., Ушинскас В. К проблеме становления Литовской земли в свете археологических данных // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988. С. 96.

[137] Волкайте-Куликаускиене Р.К. Образование литовской народности... С. 45-46.

[138] Як прыклад можна прывесці забарону ў 70-я гады выдання зборнай працы пра Беларусь у складзе ВКЛ 13-16 стст.

[139] Асноўная праца "Па слядах аднаго міфа" выдавалася два разы: ў 1989 і ў 1991 гг. накладам у 6 і 11 тыс. асобнікаў.

цэпцыі нацыянальнай гісторыі, фармаваліся ўласныя гістарычныя школы, то на Беларусі адбывалася нешта зусім іншае. Кароткі перыяд росквіту гістарычнай навукі ў 20-я гады, выкліканы да жыцця ўведзенай Масквой палітыкай "беларусізацыі", закончыўся фізічным знішчэннем выбітных гісторыкаў у выніку сталінскіх рэпрэсій. Гістарычная навука фактычна была ператворана ў служку камуністычнай ідэалогіі. Акрамя Ермаловіча ніхто не пісаў "у шуфляду", і пасля развалу Савецкага Саюза яго творы аказаліся адзінымі ў наяўнасці, адпавядаючымі актуальным патрэбам беларускага грамадства. Відавочна, у гэтым крыецца прычына іх папулярнасці.

Паводле Ермаловіча, утварэнне ВКЛ - справа рук наваградскіх феадалаў. Яны запрасілі на наваградскі стол літоўскага князя-перабежчыка Міндоўга, пацярпеўшага паражэнне ў міжусобнай барацьбе і вымушанага ўцякаць у Наваградак[140] (у апошняй працы даследчык гаворыць аб паходжанні Міндоўга з роду полацкіх князёў[141]). Атрымаўшы ад наваградчан грошы і войска, Міндоўг заваяваў Літву – востраў балцкага насельніцтва ў беларускім абшары, падпарадкаваўшы яе сабе, гэта значыць Наваградку. Выснова гісторыка: ВКЛ ад самых пачаткаў было беларускай дзяржавай.

Моцным бокам працы Ермаловіча бачыцца яго крытыка тэзы аб заваёве летувісамі беларускіх земляў, а адным са слабейшых - спроба лакалізацыі летапіснай Літвы (гл. раздзел 2.2). Выклікае пярэчанні таксама ўпэўненасць у імкненні паказаць Міндоўга ў статусе ўцекача; выснова гэтая не мае ніякага падмацавання ў крыніцах. Аднак Мікола Ермаловіч з яго версіяй аб запрашэнні Міндоўга на наваградскі стол блізка падышоў да ідэі саюза між двума этнічнымі чыннікамі, саюза які, на мой погляд, даў пачатак працэсу дзяржаваўтварэння.

Канцэпцыя Ермаловіча была негатыўна ўспрынята ў Летуве, аб чым сведчыць эмацыйная і рэзка адмоўная

---

[140] Ермаловіч М.І. Па слядах аднаго міфа. Мн., 1991. С. 58-60; Ён жа. Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды. Мн., 1990. С. 316-318.

[141] Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд. Мн., 1994. С. 8; Практычна без зменаў усе тэзы М.Ермаловіча ўвайшлі ў ягоную апошнюю, выдадзеную пасмяротна працу - Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. Мн.: "Беллітфонд", 2000.

рэцэнзія Эдвардаса Гудавічуса на яго асноўную працу "Па слядах аднаго міфа"[142].

З лакалізацыяй Літвы, прапанаванай Ермаловічам, не згадзіўся беларускі даследчык Вячаслаў Насевіч, які следам за летувіскімі археолагамі атаясаміў яе з арэалам культуры ўсходнелітоўскіх курганоў. Спаслаўшыся на Лаўмяньскага, Насевіч характарызуе Літву як сукупнасць некалькіх этнічна родных пляменаў: "Дзяволтву, Нальшану, Упіту" (у Лаўмяньскага яшчэ ёсць "Літоўская зямля". - *А.К.*), якія кіраваліся самастойнымі дынастыямі. У першых дзесяцігоддзях 13 ст. у гэтай Літве існаваў, паводле даследчыка, "агульналітоўскі палітычны саюз", на першае месца ў якім каля 1235 г. высунуўся Міндоўг.

Добраахвотнае далучэнне да Літвы ўсходнеславянскіх земляў было выклікана імкненнем славянаў унікнуць залежнасці ад татараў шляхам выхаду з палітычнай сістэмы Русі. Прыняўшы літоўскіх князёў, славяне парывалі з дынастычнай лініяй Рурыкавічаў, уладанні якіх былі падпарадкаваны Залатой Ардзе.

Як развіццё поглядаў Пашуты пра сінтэз летувіскіх і беларускіх грамадскіх элементаў[143] выглядае тэза Насевіча аб балта-славянскім сімбіёзе, які рэалізаваўся ў стварэнні двухэтнічнай дзяржавы - ВКЛ. У гэтай дзяржаве балты дамінавалі ў палітычнай сферы, славяне - у культурнай. Аднак далейшыя разважанні даследчыка супярэчаць яго ідэі сімбіёзу. Паводле Насевіча, летувісы выкарысталі вышэйшую палітычную ўладу, каб спыніць славянскую асіміляцыю; у дзяржаве захоўвалася небяспека міжэтнічных супярэчнасцей. Навідавоку традыцыйны погляд на дзяржаву як на механізм рэалізацыі этнічных інтарэсаў. Такое разуменне нацыянальнай дзяржавы, уласцівае новаму і навейшаму часу, далёка не заўсёды адпавядае сярэднявечнай сітуацыі (як і ў нашым выпадку).

Тэза Насевіча аб далучэнні панямонскіх славянскіх земляў да аб'яднанай Літвы не зусім стасуецца з прапанаванай даследчыкам рэканструкцыяй разгортвання працэсу дзяржаваўтварэння. Каля 1248 г. Міндоўг становіцца наваградскім

---

[142] Gudavičius E. "Vieno mito pėdsakais". Slon to slon, a byl li on? // Atgimimas. 1994, liepos 27 d. N 29. P. 7, 10. liepos 27 d. N 30. P. 10-11, rugpjūčio 3 d. N 31. P. 10-11; тая ж праца на англійскай мове: Gudavičius E. Following the Tracks of a Myth // Lithuanian Historical Studies. 1. Vilnius, 1996. S. 38-58.

[143] Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. С. 318-324.

князем як "уладар Літвы", а пазней, у 1252 г., ён выпраўляе на Смаленск пляменнікаў, каб пад час іх адсутнасці "захапіць аднаасобную ўладу ў Літве". Атрымліваецца, што пачынальнік дзяржавы стаў наваградскім князем не як гаспадар усёй Літвы, а, напэўна, толькі нейкай яе часткі[144]. Звесткі пісьмовых крыніц (гл. раздзел 3.2.1) супярэчаць меркаванню Вячаслава Насевіча пра ўключэнне ў пачатковую тэрыторыю дзяржавы ўсёй Аукштоты (даследчык называе яе "ўласна Літоўскай зямлёй") і Жамойці. Таму падлікі плошчы гэтай пачатковай тэрыторыі нельга прызнаць дакладнымі[145].

Абвяшчэнне незалежнасці Беларусі паставіла беларускую гістарычную навуку перад неабходнасцю фармавання ўласнай канцэпцыі нацыянальнай гісторыі[146]. У гэтай канцэпцыі важнейшае месца, несумненна, павінна належаць ВКЛ - дзяржаве, у якой адбылося фармаванне беларускага народа. Асноўныя прынцыповыя падыходы да вывучэння гісторыі ВКЛ на Беларусі былі сфармуляваны на міжнародным "круглым стале" пад назвай "Беларусь у Вялікім Княстве Літоўскім", які адбыўся ў Менску 6-7 красавіка 1992 г. У падсумаванні вынікаў дыскусіі ўдзельнікі гэтага навуковага збору (беларускія, польскія, англійскія, італьянскія гісторыкі і філолагі-славісты) адверглі канцэпцыю афіцыйнай савецкай гістарыяграфіі 30 - 80-х гадоў, якая адмаўляла існаванне беларускай дзяржаўнасці ў эпоху сярэднявечча, і аднеслі вытокі гэтай дзяржаўнасці да часу ўтварэння Полацкага і Тураўскага княстваў, а пазней Гарадзенскага, Наваградскага, Смаленскага ды іншых.

Вялікае Княства Літоўскае "круглы стол" акрэсліў як федэрацыю, у якую ўваходзілі беларускія, летувіскія і ча-

---

[144] Насевіч В.Л. Працэс утварэння Вялікага княства Літоўскага (13-14 стст.) // Актуальныя пытанні гісторыі Беларусі ад старажытных часоў да нашых дзён. Мн., 1992. С. 54-63.

[145] Насевіч В. Да пытання аб нацыянальным характары Вялікага княства Літоўскага //Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь (новыя канцэпцыі і падыходы): Усебеларуская канферэнцыя гісторыкаў. Мінск, 3-5 лютага. Мн., 1993. С. 55-58.

[146] Гл., напрыклад: Лойка П. Вялікае Княства Літоўскае паміж Усходам і Захадам // Усебеларуская канферэнцыя гісторыкаў. Мн., 1993. Ч. 1. С. 58-60.

стка ўкраінскіх земляў. Была таксама выпрацавана сціслая фармулёўка пачаткаў ВКЛ: "**Ва ўмовах барацьбы з крыжацкай агрэсіяй і пад пагрозай мангола-татарскага нашэсця ў першай палове 13 ст. у верхнім Панямонні ўзнікла беларуска-літоўскае гаспадарства з цэнтрам у Навагрудку, якое стала ядром магутнай еўрапейскай дзяржавы - Вялікага Княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага**" (выдзелена мною. - *А.К.*).

У гэтай фармулёўцы зроблены акцэнт на важнай ролі знешнепалітычных фактараў і біэтнічнасці пачаткаў ВКЛ, злагоджаны канфрантацыйныя моманты розных версій дзяржаваўтварэння. У ёй не ўпамінаецца аб існаванні балцкай дзяржавы - папярэдніцы ВКЛ, адсутнічае тэза аб заваёве летувісамі беларусаў ці наадварот. Такому разуменню генезісу ВКЛ цалкам адпавядаюць вынікі, атрыманыя аўтарам гэтай працы.

Беларускія гісторыкі ўзгаднілі сваю пазіцыю таксама і з летувіскімі калегамі. На сустрэчы ў мястэчку Гервяты Астравецкага раёна 19-20 чэрвеня 1992 г. былі выпрацаваны агульныя падыходы да вывучэння гісторыі ВКЛ. Даследчыкі дзвюх краін дамовіліся, што "з сённяшняга гледзішча ВКЛ можна вызначыць як літоўска-беларускую, ці - раўназначна - беларуска-літоўскую дзяржаву, улічваючы пры гэтым важкі ўклад, які ў палітычнае і культурнае развіццё ВКЛ працяглы час уносіў украінскі народ"[147].

Новыя канцэптуальныя погляды беларускай гістарыяграфіі на гісторыю ВКЛ (прадстаўленыя ў значнай частцы працамі навукова-папулярнымі і публіцыстычнымі) атрымалі спакойна-ўзважаную ацэнку на Украіне[148]. Укра-

---

[147] Беларусь у Вялікім Княстве Літоўскім: Стэнаграма пасяджэнняў Міжнароднага круглага стала, якія адбыліся ў Мінску 6-7 красавіка 1992 г. Мн., 1992. С. 121-124.

[148] Яковенко Н. У пошуках витоків: проблеми білоруської історіографії Великого князівства Литовського з перспективи 1991-1992 рр. // Історія, історіософія, джерелознавство. Історичний збірнік. (Статті, розвідки, замітки, есе). Київ, 1996. С. 112-137; Шевченко Н.В. Білорусько-Литовська держава: нові концептуальні засади сучасної білоруської історіографії // Український історичний журнал. Київ, 1997. № 2 (413). С. 55-67.

інскія калегі з разуменнем і адабрэннем паставіліся да імкнення беларускіх гісторыкаў ствараць уласную канцэпцыю гісторыі Беларусі, узгадняючы асноўныя канцэптуальныя падыходы з гісторыкамі суседніх краін.

Некаторыя іншыя гістарыяграфіі, найперш нямецкая і ў меншай ступені латвійская і эстонская, адыгралі ў фармаванні канцэпцыі генезы ВКЛ пэўную дапаможную ролю. Галоўнай заслугай нямецкай гістарычнай навукі ў нашай справе з'яўляецца публікацыя і апрацоўка сярэднявечных пісьмовых крыніц, створаных у нямецкіх калоніях над Балтыкай (гл. раздзел 1.1.1). Акрамя таго, нямецкія гісторыкі дэталёва распрацавалі гісторыю адносін ВКЛ з гэтымі калоніямі, у тым ліку і ўдзел лівонцаў у генезе гэтай дзяржавы[149]. У асноўных канцэптуальных поглядах нямецкая гістарыяграфія следавала за польскай. Пасля 2-й сусветнай вайны найбольшы ўклад у гістарыяграфію ВКЛ унёс упамянуты Манфрэд Хэльман. Акрамя спецыяльнага раздзела ў абагульняючай працы, яго пяру належыць шэраг артыкулаў, звязаных з ранняй гісторыяй ВКЛ.

У апошнія гады новыя падыходы да гісторыі ВКЛ абазначыліся ў расійскай гістарыяграфіі. Сутнасць іх заключаецца ў адмове ад некаторых стэрэатыпаў ідэалагічнага характару, уласцівых традыцыйнай расійска-савецкай гістарыяграфіі, напрыклад тэзы аб імкненні беларусаў да злучэння з Расіяй ці аб русінска-летувіскай канфрантацыі ўнутры ВКЛ. У гэтым сэнсе знамянальнай з'явай выглядае праца Міхала Крома аб барацьбе між ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай за валоданне шэрагам пагранічных земляў[150]. Разуменне пачаткаў ВКЛ, выказанае расійскім гісторыкам Думіным, найбольш блізкае да поглядаў, выказаных у маёй працы. Гэты даследчык лічыць, што ўзнікненне ВКЛ "з'явілася вынікам кампрамісу, пагаднення паміж летувіскай знаццю і мясцовым усходнеславянскім баярствам". На думку Думіна, такі кампраміс не мог быць магчымым без

---

[149] Гл. у спісе літаратуры працы на імёны: Schlözer A., Conce W., Fortstreuter K., Benninghoven F., Jablonowski H., Hellman M.

[150] Кром М. Меж Русью и Литвой: Западно-русские земли в системе русско-литовских отношений конца 15-первой половины 16 в. М., 1995.

падтрымкі насельнікаў мясцовых гарадоў, якія ў палітычных справах мелі рашаючы голас[151].

Такім чынам, сёння паўсюдна прынята традыцыйная канцэпцыя генезы ВКЛ, якая сягае сваімі вытокамі ў 16 ст., а ўпершыню навукова сфармулявана ў канцы 19 ст. Яе яшчэ можна назваць балцкай ці летувіскай (яна ж і афіцыйная савецкая). Знамянальнай рысай традыцыйнай канцэпцыі з'яўляецца стабільнасць яе галоўнай тэзы. Большасць гісторыкаў канца 20 ст., як і іх калегі з канца 19 ст., бачаць утварэнне ВКЛ як вынік унутранага развіцця балцкага этнасу, пад назвай "летувісы". За гэты час па прычыне частага паўтарэння тэза стала пастулатам. Галоўную ролю ва ўтварэнні гэтай канцэпцыі адыграла польская літуаністыка, якая найбольшы плён атрымала ў першай палове 30-х гадоў нашага стагоддзя намаганнямі найперш Лаўмяньскага і Пашкевіча. Канцэптуальныя падыходы да аналізу генезы ВКЛ былі перанятыя ад польскіх даследчыкаў летувіскай, нямецкай, а пазней і савецкай гістарыяграфіяй, кожная з якіх дадала да агульнай справы нешта сваё.

Паводле гэтай версіі, спачатку ўтварылася раннелетувіская дзяржава (называюць яе саюзам або канфедэрацыяй), якая сфармавалася незалежна (ці амаль незалежна) ад славянскіх суседзяў на тэрыторыі, населенай балцкімі плямёнамі. Цэнтрам дзяржавы стала адна з балцкіх земляў, меўшая назву "Літва". Апошняя лакалізуецца ў агульных рысах па сярэдняму цячэнню ракі Віліі, дзе з 4 па 13 ст. існавала культура ўсходнелітоўскіх курганоў. Гэтая культура вырасла з часткі культуры штрыхаванай керамікі (датуецца 1-й паловай 1 тыс. н.э.). Толькі пасля з'яўлення гэтай дзяржавы пачынаецца ўтварэнне ВКЛ праз заваёву суседніх усходнеславянскіх земляў. На грунце прыведзенай схемы будуецца ўся ідэалогія навукі аб ВКЛ не толькі ў Летуве, але па ўсім свеце.

Такі падыход даволі распаўсюджаны і на Беларусі, дзе ў сілу аб'ектыўных прычын не была створана ўласная на-

---

[151] Думин С.В. Другая Русь (Великое княжество Литовское и Русское) //История Отечества: люди, идеи, решения. М., 1991. С. 83.

вуковая гістарыяграфія генезы ВКЛ[152]. Напрыклад, погляды Вячаслава Насевіча ўяўляюць сабой як бы "злагоджаны" варыянт балцкай канцэпцыі генезісу ВКЛ з акцэнтаваннем добрай волі ўсходніх славян пры пераходзе іх да падданства летувіскай дынастыі на стадыі ўтварэння летувіскай "цэнтралізаванай раннекласавай дзяржавы"[153].

Аднак папулярнасць разумовай канструкцыі не абавязкова з'яўляецца доказам яе навуковай непагрэшнасці. Узнікаюць пытанні. Што гэта за ранняя летувіская дзяржава, аб якой нічога невядома? Дзе была яе сталіца? Якая сістэма адміністрацыйнага падзелу, сістэма кіравання: права, падаткаабкладанне і г.д.? Калі такая дзяржава існавала і мела ўласную сістэму кіравання, чаму ў ВКЛ была прынята сістэма іншая - усходнеславянская? Адказу на гэтыя пытанні мы не знойдзем ні ў Пашкевіча, ні ў Лаўмяньскага, ні ў Пашуты, ні ў саміх летувісаў. У асноўным названыя даследчыкі аперыруюць аналагамі з грамадскім ладам насельнікаў Прусіі, апісаным нямецкімі аўтарамі 14 ст. Але і ў прусаў не было ўласнай дзяржаўнасці. На момант прыходу крыжакоў яна знаходзілася на стадыі ўтварэння[154].

Такі аўтарытэтны аўтар, як Генрых Латвійскі, у першыя дзесяцігоддзі 13 ст. тытулуе князя палачан каралём, а балтаў называе проста "літоўцы", "куры" і г.д. На думку Любаўскага, "разнастайнасць назваў (dux, nobilis, magistratis, castellanus, capitaneus і г.д. - *А.К.*), якія немцы надаюць мясцовым літоўскім правадырам і прадстаўнікам, тлумачыцца, відавочна, разнастайнасцю іх фактычнага значэння: у адных выпадках гэта былі правадыры па народнаму абранню і згодзе, у іншых - традыцыйныя спадчынныя кіраўнікі, князі або царкі"[155]. Паводле таго ж Лаўмяньскага, старэйшыя літоўскія князі,

---

[152] Гл., напрыклад: Станкевіч Я. Савецкае хвальшаваньне гісторыі Беларусі //Інстытут дасьледаванняў СССР: Досьледы і матар'ялы. Мюнхэн, 1958. Серыя 2. Вып. 51.

[153] Насевіч В. Л. Пачаткі Вялікага княства Літоўскага... С. 59-60, 78.

[154] Кулаков В.И. Земля пруссов и "прусские земли" //Балтославянские исследования 1985 г. М., 1987. С. 95-101; Ён жа. Пруссы (V-XIII вв.). М., 1994. С. 161-164.

[155] Любавский М.К. Очерк истории... С. 10.

названыя ў вядомай дамове 1219 г. з Валынскім княствам, не могуць лічыцца манархамі ці кіраўнікамі земляў[156].

Малаверагодна, што з'яўленне новай дзяржавы засталося незаўважаным сучаснікамі. Для параўнання варта прыгадаць, колькі ўвагі крыніцы ўдзялілі пачатку ВКЛ; часы Міндоўга аказаліся лепш асветленымі, чым папярэднія і наступныя дзесяцігоддзі 13 ст. Такім чынам можна вывесці, што раннефеадальная летувіская дзяржава – папярэдніца ВКЛ - то міф, мроя, паўстаўшая праз пераламленне гістарычнага працэсу ў прызме палітычна ангажаванай метадалогіі.

Мікола Ермаловіч прапанаваў альтэрнатыўны варыянт, які сёння ў той ці іншай ступені прыняты беларускай гістарыяграфіяй: літоўскі князь-перабежчык, запрошаны наваградчанамі на княжанне, заваяваў для іх сваю радзіму - Літву - востраў балцкага насельніцтва ў беларускім абшары. Таму ВКЛ з самага пачатку было беларускай дзяржавай.

Пры ўсёй няпоўнасці аргументацыі, суб'ектыўнасці ў аналізе крыніц версія Ермаловіча, здаецца, характарызуецца прыблізна такім жа ўзроўнем тэндэнцыйнасці, як і традыцыйная канцэпцыя. Нягледзячы на выразную супярэчлівасць, гэтыя дзве версіі маюць шмат агульнага. Папершае, у іх назіраецца блізкая храналагічная (13 ст.) і геаграфічная (басейн Нёмана) лакалізацыя працэсаў дзяржаваўтварэння. Па-другое, пачатак уласна ВКЛ звязваецца з адной і той жа гістарычнай асобай - Міндоўгам (толькі Пашкевіч лічыў Міндоўга не стваральнікам, а аднавіцелем адзінства дзяржавы, якая склалася ўжо ў апошняй чвэрці 12 ст.) Па-трэцяе, абедзве канцэпцыі маюць выразную ідэалагічную афарбоўку, якая бачна ў імкненні давесці канкрэтную этнічную прыналежнасць дзяржавы (летувіскую ці беларускую) з самага яе пачатку. Тут навідавоку механічны перанос на сярэднявечча канцэпцыі дзяржавы, уласцівай новаму і навейшаму часу, менавіта разуменне дзяржавы як механізма рэалізацыі нацыянальных інтарэсаў. Па-чацьвёртае, у абедзвюх версіях прысутнічае **тэза аб балта-славянскай канфрантацыі на тэрыторыі Панямоння.**

[156] Łowmiański H. Studia nad początkami... T. 2. S. 329.

Менавіта гэтая апошняя тэза з'яўляецца іх асновай, падмуркам.

Магчымасць іншых поглядаў на генезіс ВКЛ бачыцца ў новых метадалагічных падыходах і выкарыстанні эмпірычных даных, сабраных археолагамі за апошнія тры дзесяцігоддзі. Менавіта апошняя падмуркавая тэза знаходзіцца ў супярэчнасці з вынікамі дэталёвых спецыяльных даследаванняў археолагаў і мовазнаўцаў, якія звяртаюць увагу на пераважна мірны характар балта-славянскіх адносінаў на тэрыторыі Беларусі (гл. раздзел 2.1.2.).

З дыскусіямі гісторыкаў аб пачатковым этнічным характары дзяржавы напрамую звязана праблема першай сталіцы ВКЛ. Яна дыскутуецца ўжо стагоддзе і мае нават сваю гістарыяграфію. Сучасныя гісторыкі схільныя бачыць сталіцай, месцам хрышчэння і каранацыі Наваградак, важнейшы на той час горад Панямоння[157]. Частка даследчыкаў лічыла сталіцай дзяржавы радавы замак Міндоўга, месцазнаходжанне якога дакладна не ўстаноўлена. На гэтую ролю прапаноўваўся названы аднойчы ў Галіцка-Валынскім летапісе "град" Варута (ці Рута, па іншай версіі), дзе Міндоўг у 1251 г. бараніўся ад валынска-яцвяжска-жамойцкага войска. У гістарыяграфіі прадстаўлена некалькі (каля дзесяці) варыянтаў лакалізацыі Варуты, аднак ніводзін з іх не выпадае прызнаць надзейна абгрунтаваным. Некаторыя даследчыкі лічаць, што хрышчэнне і каранацыя Міндоўга маглі адбывацца і не ў сталіцы (аналогія - каранацыя Данілы Раманавіча ў Драгічыне). Частка летувіскіх даследчыкаў прызнае верагоднай сталіцай Міндоўга Вільню[158].

Першае выданне кнігі "Стварэнне ВКЛ" выклікала дыскусію падчас абароны яе ў якасці доктарскай дысертацыі (Інстытут гісторыі НАН Беларусі, 4.12.1998) і ў навуковай перыёдыцы. У Вільні выйшла рэцэнзія Артураса

---

[157] Гл., напрыклад: Kosman M. Pompa funebris w Wilnie doby przedrozbiorowej // Lituano-Slavica Posnaniensia. Studia Historica. VI. 1994. S. 131; Ochmański J. Historia Litwy. S. 48.

[158] Гістарыяграфію аб пошуках Варуты гл.: Zabiela G. Kur stovėjo Vorutos pilis? // Lietuvos istorios metraštis. 1991. Vilnius, 1993. P. 5-22; Ён жа. Lietuvos medinės pilys. Vilnius, 1995. P. 171-175.

Дубоніса, у якой маёй канцэпцыі генезы ВКЛ, змешчанай у гэтай кнізе, прыпісваюцца "усе найгоршыя атрыбуты нацыяналізму" (зразумела, беларускага - *А.К*)[159]. Гэтая і іншыя падобныя ацэнкі ў рэцэнзента не падмацоўваюцца навуковымі аргументамі, таму дыскутаваць у такой танальнасці напэўна, няма сэнсу.

Крытычныя заўвагі пад час абароны выказалі Вячаслаў Насевіч і Міхаіл Спірыдонаў, якія потым апублікавалі свае тэксты ў часопісах, а аўтар выступіў з адказамі[160]. В.Насевіч не пагадзіўся з групаваннем поглядаў розных даследчыкаў у адну канцэпцыю, наракаў на непавагу аўтара да папярэднікаў (у тым ліку В. Насевіча), закідваў яму "свядомае стварэнне міфа"[161]. Аднак урэшце высветлілася, што ў рэцэнзента з аўтарам "Няма сутнасных разыходжанняў" (так В. Насевіч назваў сваю апошнюю публікацыю з гэтай дыскусіі).

З энергічнай крытыкай аўтарскай канцэпцыі выступіў М.Спірыдонаў. Адметнасцю навуковай творчасці гэтага даследчыка з'яўляецца вернасць поглядам, засвоеным са школьнай лавы, нават калі яны знаходзяцца ў спрэчнасці з вынікамі ягонай асабістай навуковай працы. Асабліва выразна гэта відаць на прыкладзе з лакалізацыяй гістарычнай Літвы. М.Спірыдонаў даволі грунтоўна паказаў яе біэтнічнасць, прычым з перавагай этнічна беларускіх земляў, аднак усіх баяраў з гэтай Літвы 16 ст., ён у духу "лепшых" традыцый савецкай гістарыяграфіі лічыць этнічнымі летувісамі. Як непрымальныя для навуковай дыскусіі можна ацаніць выказаныя М.Спірыдонавым абвінавачванні ў стварэнні

---

[159] Dubonis A., Naujosios baltarusių istoriografijos aklaviete [у:] Musų praetis. Vilnius, 1999. Т. 6. P. 207-213.

[160] Насевіч В. Пытанняў больш чым адказаў // Беларускі гістарычны агляд. Менск, 1998. Т. 5. Сш. 1(8). С. 210-226; Краўцэвіч А. Да праблемы генезісу ВКЛ // Беларускі гістарычны агляд. Менск, 1998. Т. 5. Сш. 2(9). С. 448-454; Насевіч В. Няма сутнасных разыходжанняў // Там жа. С. 455-456; Выступленне М.Ф.Спірыдонава // Гістарычны альманах. Гародня, 1999. Т. 2. С. 98-102; Краўцэвіч А. Адказ М.Ф.Спірыдонаву // Там жа. С. 103-106.

[161] Пратакол пасяджэння Савета па абароне дысертацый на атрыманне вучонай ступені доктара навук пры Інстытуце гісторыі НАН Беларусі ад 4 снежня 1998 г. С. 13-17.

міфа як адпачатковай задачы маёй працы. Для такіх высноваў патрэбны важкія аргументы, якіх у рэцэнзента няма.

У беластоцкім "Беларускім гістарычным сшытку" у 1999 г. паказаліся два артыкулы, звязаныя з праблемамі закранутымі ў кнізе[162]. Сяргей Піваварчык па слядах маіх артыкулаў у гэтым выданні разважае пра сярэднявечныя этнічныя працэсы на Панямонні. Падцвердзіўшы асноўныя высновы аўтара, даследчык удакладніў ход працэсу міжэтнічных кантактаў на Панямонні ў першых стагоддзях 2 тыс. Першыя сутыкненні балтаў і славянаў у гэтым рэгіёне, на думку С.Піваварчыка, мелі канфліктны характар, аднак пазней (з сярэдзіны 12 ст.) узаемаадносіны сталі пераважна мірнымі[163].

Другі артыкул (Генадзя Семянчука і Аляксея Шаланды) напрамую звязаны з праблемай генезісу ВКЛ. Падтрымаўшы асноўныя канцэптуальныя палажэнні гэтай кнігі, ягоныя аўтары прапанавалі ўласную рэканструкцыю падзеяў, звязаных з утварэннем дзяржавы. На іх думку "Утварэнне ВКЛ адбывалася шляхам аб'яднання Наваградскага княства ("рускай Літвы") і ўладанняў Літоўскага князя Міндоўга ("уласнай Літвы") у выніку магчымага шлюбу апошняга з дачкой Ізяслава Наваградскага; іншымі словамі, шляхам славянска-балцкай дынастычнай уніі"[164]. Нажаль доказаў гэтаму ў крыніцах няма ніякіх. Адзінае, што вядома пра наваградскага князя - ягонае імя. Таму наступныя высновы, збудаваныя на дапушчэнні памянёнага шлюбу (невядома, ці былі ўвогуле дзеці ў Ізяслава Наваградскага), на дапушчэнні, што Вайшэлк нарадзіўся ў выніку гэтага шлюбу і г.д. належаць хутчэй да фантазій на гістарычную тэму, чым да навуковага даследавання.

---

[162] Семянчук Г. Шаланда А. Да пытання аб пачатках Вялікага княства Літоўскага ў сярэдзіне XIII ст. (яшчэ адна версія канструявання мінуўшчыны) // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 1999. № 11. С. 18-44; Піваварчык С. Да этнічных працэсаў на Панямонні ў раннім сярэднявеччы // Там жа. С. 235-245.

[163] Піваварчык С. Да этнічных працэсаў... С. 245.

[164] Семянчук Г. Шаланда А. Да пытання аб пачатках Вялікага княства Літоўскага... С. 42-43.

Напрамую супярэчаць версіі Ермаловіча летапісныя апісанні паходаў галіцка-валынскіх войск на Наваградак у 1251/52 і 1275 гг.[283], якія вызначаюцца падрабязнасцю і дакладнасцю геаграфічных дэталяў. У паходзе 1251/52 г. валынскія князі разлічвалі нечакана заявіцца з войскам на Панямонні, але каля возера Зьята сутыкнуліся з ліцвінскім дазорам. Тады валыняне хуткім маршам прайшлі праз балоты да ракі Шчары (якая была, паводле Ермаловіча, мяжой Літвы), склікалі ваенную раду, а "наутръя же плъниша всю землю Новогородьскую"[284]. Возера Зьята лакалізуецца па дакуменце 16 ст. у басейне ракі Ясельды (ваколіцы вёскі Калонск - сённяшні Івацэвіцкі раён)[285]. Адсюль вынікае, што там, дзе Ермаловіч бачыць Літву (як востраў балцкага насельніцтва), у сапраўднасці знаходзілася Наваградская зямля (у сярэдзіне 13 ст. Наваградская зямля, напэўна, ужо была часткай хароніма "Літва"). Бліжэйшым да месца гэтай падзеі горадам з'яўляецца Слонім, але ў летапісе гаворка пра Наваградскую зямлю, што можна лічыць сведчаннем прыналежнасці да апошняй Слоніма і яго ваколіцы. Гэтую летапісную інфармацыю, напэўна, можна разглядаць таксама як сведчанне аб наваградска-пінскай мяжы па Шчары.

У 1275 г. валынскае войска хуткім маршам ідзе каля Турава да Слуцка, потым, "не дошедше ръкы Сырьвячъ" (каля 25 км ад Наваградка. - *А.К.*) стала на ноч. Гэта значыць, яны праходзілі дакладна пасярэдзіне Літвы М.Ермаловіча і нават заначавалі ў ёй. Назаўтра яшчэ да світання перайшлі раку і пайшлі далей на Наваградак. Захапіўшы вакольны горад, валынскія князі "сдумали... тоже потомъ пойти въ землю Литовьскую", але не пайшлі, а вярнуліся дадому. Гэта значыць, удзельнікі паходу бачылі Літву не ў тым месцы, дзе яе лакалізуе Ермаловіч. З'яўленне гіпотэзы Ермаловіча яшчэ раз сведчыць аб тым, што нешматлікія і ўскосныя пісьмовыя звесткі па лакалізацыі Літвы часам можна інтэрпрэтаваць даволі свабодна і з рознымі вынікамі.

---

[283] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 818-819, 872-874.

[284] ПСРЛ. Т.2. Стб. 819.

[285] Непокупный А.П. Лингвогеографические связи... С. 152.

Як бачым, у лакалізацыі пачатковай Літвы назіраецца нязгода гісторыкаў між сабой гэтаксама, як і між археолагамі і гісторыкамі. Між тым даволі лёгка параўнаць інфармацыю пісьмовых і археалагічных крыніц і прапанаваць лакалізацыю, якая не пярэчыць ні тым, ні другім. Як ужо ўпаміналася, даследчыкі згаджаюцца, што пісьмовыя крыніцы дазваляюць размясціць Літоўскую зямлю на поўдні, Нальшанскую зямлю - на паўночным усходзе, а Дзяволтву - у цэнтры Аўкштоты. Археалогія паказвае, што ўся гэтая тэрыторыя пакрывалася культурай усходнелітоўскіх курганоў. Калі прыняць за Літву паўднёвую частку Аўкштоты (ці арэала ўсходнелітоўскіх курганоў), то яна сапраўды межавала і з Менскай і з Наваградскай землямі.

Такім чынам, актуальным застаецца прыблізнае стогадовай даўнасці акрэсленне Літвы, зробленае Любаўскім, - "вобласць правых прытокаў Нёмана, пераважна ракі Віліі". Гудавічус, прааналізаваўшы пісьмовыя і археалагічныя сведчанні аб размяшчэнні асобных земляў Аўкштоты, прыйшоў да высновы: "сукупнасць памянутых даных дазваляе ў нейкай ступені размежаваць паўднёвую і паўночна-ўсходнюю Аўкштоту і звязаць першую з Літвой у вузкім сэнсе, а другую - з Нальшай"[286]. На думку Гудавічуса, пытанне аб больш дакладных межах Нальшанаў і Літоўскай зямлі нельга лічыць вырашаным, асабліва, што датычыцца мяжы падзелу між гэтымі землямі.

У сваёй апошняй працы Мікола Ермаловіч паўтарыў без зменаў усе ягоныя меркаванні пра месцапалажэнне старажытнай Літвы, дадаўшы трохі палемікі з прыведзенымі вышэй крытычнымі заўвагамі[287]. Ён не прызнаў выкарыстаныя ім пісьмовыя сведчанні ўскоснымі, хоць усе тыя звесткі пра кірункі вяртання літоўцаў з паходаў, пра манастыр на мяжы Літвы і Наваградка і г.д. можна з такім жа поспехам аднесці і да лакалізацыі, прапанаванай аўтарам у гэтай кнізе (карта № 4). Нельга лічыць выпадковым супадзенне паўднёвай і усходняй мяжы "Літвы Ермаловіча" з граніцай паміж харонімам "Літва" і аналагічнымі рэгіё-

---

[286] Гудавичюс Э. "Литва Миндовга". С. 225.

[287] Ермаловіч М. Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. С. 27-33.

намі ВКЛ "Палессем" і "Руссю", добра даследаванымі на 16 ст. Тапонімы "Літва", размешчаныя на гэтай граніцы, Ермаловіч выкарыстаў для сваёй лакалізацыі, пры гэтым без усялякіх падставаў і аргументаў аднёсшы названыя тапонімы выключна да 12-13 стст., хоць не меньш, а нават больш верагодна лічыць іх паказчыкамі мяжы між рэгіёнамі ВКЛ (пазней яна выступае як мяжа паміж гісторыка-этнаграфічнымі рэгіёнамі).

Археалагічныя аргументы (супадзенне прапанаванай мною паўднёвай мяжы летапіснай Літвы і арэалу культуры ўсходнелітоўскіх курганоў) даследчыкам ігнаруюцца, гэтаксама як і прыведзенае вышэй сведчанне крыніцы (з 1275 г.), спрэчнае з выкладкамі Ермаловіча. Дадам яшчэ, што для археолагаў размяшчэнне Літвы Ермаловічам у раёне бедным на ўмацаваныя паселішчы - гарадзішчы выглядае непераканаўча, паколькі не згаджаецца са значнай мілітарнай сілай гэтай вобласці, зафіксаванай пісьмовымі крыніцамі.

Часам Ермаловіч дэманструе элементарнае неразуменне сэнсу крыніцы. Так, каментуючы звестку летапісу пра паход галіцка-валынскага войска на Наваградак у 1253 г. (дакладней, гэта было ў 1251/52 г.), ён сцвярджае, што не валыняне гналіся за ліцвінскім дазорам да Шчары, а, наадварот, "ліцвінская "сторожа"... гнала варожае войска да гэтай ракі"[288].

Верагодна, ў выпадку Міколы Ермаловіча неадэкватна зразумелы патрыятызм, выражаны, у прыватнасці, імкненнем знайсці летапісную Літву абавязкова на сучаснай тэрыторыі Беларусі (каб паказаць, што ВКЛ - то "унутраная справа" беларускай гісторыі), прычыніўся да вартай лепшага ўжытку настойлівасці ў абароне яўна памылковых палажэнняў.

У 16 ст. з'явіўся яшчэ цікавы харонім, вывучэннем якога дэталёва займаўся Збыслаў Вайткавяк. Менавіта гэты гісторык выдзеліў харонім "Завілейская Літва", які размяшчаўся ў паўночнай частцы Віленскага ваяводства (карта № 4). Даследчык высветліў, што гэты тэрмін з'явіўся ў вялікакняскай канцылярыі на пачатку 16 ст. і "быў прыпісаны рэгіёну, адміністрацыйна-тэрытарыяльная асаблівасць

---

[288] Ермаловіч М. Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. С. 27.

якога ўжо тады была заўважана"[289]. З прыведзеных даследчыкам дакументальных сведчанняў вынікае, што для акрэслення паўночнай часткі Віленскага ваяводства ў дзяржаўнай дакументацыі ўжывалася спецыяльная назва - "Завілейская старана", "Завілле". Тэрмін гэты выкарыстоўваўся адначасова і ва ўзаемасувязі з назвай "Ашмянская старана", якая абазначала паўднёвую частку Віленскага ваяводства. За пункт адліку прымалася сталічная Вільня. Фармулёўку "Завілейская Літва" ("Litwa Zawilejska") Збыслаў Вайткавяк падобна пераняў ад Мацея Стрыйкоўскага. Апошні з дапамогай гэтай назвы адрозніваe землі на поўнач ад Віліі ад "Павілейскай Літвы" ("Litwa Powilejska"), размешчанай на поўдзень ад гэтай ракі[290]. Вайткавяк прыйшоў да высновы, што падставу для рэгіянальнай адметнасці гэтай тэрыторыі стварылі тапаграфічныя асаблівасці, менавіта спецыфіка тэрыторыі, выдзеленай воднай артэрыяй. Паняцце "Завілле" праз ужыванне ў вялікакняскай канцылярыі стала імем уласным. Даследчык адзначыў палітычна-этнічнае значэнне названага паняцця ў гістарыяграфіі 16 ст., што магло абапірацца на сляды сапраўднай асаблівасці Завілля ў больш ранні перыяд. Вайткавяк ідэнтыфікуе "Ашмянскую старану" з Руссю і ў асцярожнай форме высоўвае тэзу аб Віліі як этнічнай граніцы між Літвой ("старана Завілейская") і Руссю ("старана Ашмянская")[291]. Асцярожнасць у дадзеным выпадку яўна апраўданая, бо Ашмяны ў 16 ст., несумненна, знаходзіліся ў Літве, а не на Русі. Тым не менш назіранне даследчыка аб Віліі як магчымай этнічнай мяжы заслугоўвае ўвагі. Відавочна, раку Вілію ў яе сярэднім цячэнні можна прызнаць, са значнай доляй умоўнасці, за мяжу між дзвюмя этнічна адрознымі часткамі харонімa "Літва" (уласна Літва). "Старана Завілейская" (за выключэннем Браслаўшчыны) - пераважна балцкая (Аўкштота), "старана Ашмянская" - пераважна ўсходнеславянская. Тут дарэчы будзе сведчанне сучасніка – Стрыйкоўскага. У геаграфічных рэканструкцыях гэтага аўтара з 16 ст.

---

[289] Wojtkowiak Z. Litwa Zawilejska w XV i pierwszej połowie XVI w. Poznań, 1980. S. 16.

[290] Stryjkowski M. Kronika... T.1. S. 240, 244, 247, 248.

[291] Wojtkowiak Z. Litwa Zawilejska ... S. 12, 16.

выразна прыкметна разуменне "Літвы Павілейскай" як усходнеславянскай тэрыторыі, а "Літвы Завілейскай" як балцкай. Першая ў Стрыйкоўскага цесна звязана з "Навагрудкам" і "Руссю", другая - з Жамойцю[292]. У заключэнні свайго даследавання Вайткавяк адзначае, што "Завілле" ў 16 ст. не выдзяляецца сярод іншых тэрыторый спецыфічнымі геаграфічнымі, гаспадарчымі ці адміністрацыйнымі прыкметамі[293].

Усё вышэйсказанае дазваляе прыйсці да высновы, што тэрміны "Завілейская старана" і "Ашмянская старана", нават з улікам іх пэўнай этнічнай спецыфікі, нельга паставіць на адзін узровень з назвамі "Жамойць", "Літва", "Падляшша", "Русь" і г.д. Адметнасць першых двух тэрмінаў у тым, што гэтыя тэрытарыяльныя назвы паўсталі ў рамках дзяржаўна-адміністрацыйнай адзінкі, але не сталі часткай адміністрацыйнага падзелу.

Механічны перанос сучаснага разумення Літвы як Летувы (Літва = Аўкштота + Жамойць) на сярэднявечча выклікае блытаніну ва ўзаемаадносінах паняццяў "Літва" і "Аўкштота". Гісторыкі не могуць пагадзіць між сабой балцкую Аўкштоту і балта-славянскую Літву, патлумачыць, дзе яны размяшчаліся і што сабой абазначалі. Выходзіла так, што Літва адначасова была часткай Аўкштоты (Літоўская зямля) і ў той жа час уключала ў сябе Аўкштоту разам з Жамойцю. Аналагічныя цяжкасці маюць археолагі. Напрыклад, Ваўкайтэ-Кулікаўскіене ў адной працы паказвае на карце (пачатак 2 тыс. н.э.) тэрыторыі жамойтаў і аўкштайтаў, аб'ядноўваючы іх агульнай назвай "літоўцы". На другой карце, храналагічна сумешчанай з першай (9-12 стст.), аўкштайтаў ужо няма, паказаны толькі жамойты і літоўцы. У Таўтавічуса на адной карце (6-12 стст.) прысутнічае ўся тройка (літоўцы, жамойты і між імі

---

[292] Stryjkowski M. Kronika... T. 1. S. 240, 244, 247, 248; гл. таксама: Хроника Быховца // ПСРЛ. Т.32. С. 151: "Witolt... y wsiu żomoyt kazal chrystyty z wery pohanskoie u weru chrystyianskuiu, y wsiu zemlu Zawelskuiu ochrestyl"; Там жа. Хроника Литовская и Жмойтская. С.17: "Потым, гды в Литвъ люду великая личба розмножилася, почали переходити ръку Вилию в Завилийскую землю."

[293] Wojtkowiak Z. Litwa Zawilejska ... S. 126.

аўкштайты), на другой (6-8 стст.) прамежкавая група названа "злітоўшчанымі пражамайтамі ці заходнімі аўкштайтамі"[294].

Падобнай блытаніны ў назвах балцкіх плямёнаў можна пазбегнуць, калі прыняць наступны тэзіс: **Аўкштота - назва, якой ад 2-й паловы 13 да 20 ст. на Жамойці абазначалася паўночная - балцкая частка хароніма "Літва".**

Можна меркаваць, што Літва ("уласна Літва", "Літоўская зямля") напачатку была паўднёвай, пагранічнай з усходнімі славянамі вобласцю Аўкштоты. Усходнія славяне, а за імі палякі і немцы пачалі называць імем гэтай пагранічнай балцкай зямлі суседнія ёй і этнічна блізкія тэрыторыі. Назва "Аўкштота" выкарыстоўвалася на Жамойці, адкуль пра яе даведаліся нямецкія храністы з суседняй Прусіі. У ходзе славянскай каланізацыі, а потым працэсу ўтварэння ВКЛ назва "Літва" пашырылася на ўсю кантактную балта-славянскую зону, стаўшую ядром дзяржавы. Паколькі ў гэтае ядро ўвайшлі і астатнія землі Аўкштоты, назва "Літва" распаўсюдзілася таксама на іх.

Такім чынам Аўкштота стала часткай Літвы і захавалася як харонім у мове насельнікаў Жамойці. Вялікі князь Вітаўт пісаў: "А на Жамойці Літву называюць Аўкштотай". Лаўмяньскі заўважыў, што ўсходнеславянскія крыніцы ўвогуле не ведаюць назвы "Аўкштота"[295], можа быць таму, што ўсходнеславянскія землі межавалі непасрэдна з Літвой, а не з Жамойцю. Дадамо яшчэ, што паняцце "Аўкштота" не выкарыстоўвалася і ў дзяржаўных дакументах ВКЛ. Упершыню назва "Аўкштота" сустракаецца ў хроніках Тэўтонскага ордэна, меўшага агульную мяжу і пастаянныя кантакты з Жамойцю.

Пазней, у 16 ст., у вялікакняскай канцылярыі для абазначэння земляў на поўнач ад Віліі ўзнік тэрмін "Завілейская старана" (Завілле), ці (паводле Вайткавяка) "Літва Завілейская". У 19 - пачатку 20 ст. у ходзе фармавання (галоўным чынам на аснове Жамойці) новага этнасу - летувісаў, да "Завілейскай стараны" вярнулася жамойцкая назва "Аўкштота".

Уласны погляд на праблему лакалізацыі Аўкштоты мае Павал Урбан. Прааналізаваўшы звесткі крыжацкіх хронік

[294] Volkaitė-Kulikauskienė R. Lietuviai 9-12 amžiais. Vilnius, 1970. P. 39; Lietuvių etnogenezė. P. 186, 130; Lietuvos TSR archeologijos atlasas. Kn. 3: Pilkapynai ir senkapiai.

[295] Łowmiański H. Geografia polityczna Bałtów ... S. 60.

У гістарыяграфіі распаўсюджана думка, што тэрытарыяльнае пашырэнне хароніма "Літва" адбылося праз далучэнне да яго суседніх усходнеславянскіх тэрыторый, якія цалкам страцілі сваю адметнасць і з сярэдзіны 13 ст. пачалі лічыцца Літвой[302]. Апошняя тэза ўяўляецца памылковай, бо, як добра вядома, у складзе Літвы адметнасць трацілі балцкія, а не ўсходнеславянскія землі. Балцкая частка гістарычнай Літвы падвяргалася ўсходнеславянскай асіміляцыі. Дзяржаўныя ўлады ў ВКЛ яшчэ больш узмацнілі гэты працэс, хоць кіруючая дынастыя і частка вышэйшай арыстакратыі былі балцкага паходжання. На балцкай тэрыторыі ўстанаўлівалася сістэма кіравання па ўзору ўсходнеславянскіх земляў і ў якасці дзяржаўнай уводзілася русінская (старабеларуская) мова.

Пераўтварэнне пачатковай балцкай Літвы ў балтаславянскую, па ўсёй верагоднасці, праходзіла двума шляхамі: праз каланізацыйны рух усходніх славян на балцкія землі і праз дзейнасць у змешанай балта-славянскай зоне новай дзяржавы, узнікшай каля сярэдзіны 13 ст. - Вялікага Княства Літоўскага.

---

302 Halecki O. Litwa, Ruś i Żmudź ... S. 216; Pociecha W. Królowa Bona ... S. 1; Ochmański J. Litewska granica... S. 73.

# Частка 3. КРАІНА ЛЕСУ.

## Аб працэсе ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага

### 3.1. Пачаткі (карта № 5)

У 13 ст. каля 70 ці больш працэнтаў тэрыторыі Верхняга Панямоння было занята лясамі[303]. Астатнія няпоўныя 30% складаліся з балот і адкрытых месцаў – палян сярод бясконцых лясных абшараў. Тут сутыкаліся два паясы расліннасці: шыльнікавыя (хваёвыя) лясы мяшаліся з гаямі высакародных ліставых дрэў (пояс мяшаных лясоў займае ўсю тэрыторыю Беларусі)[304]. Тут было месца сустрэчы двух буйных этнічных масіваў - балтаў са славянамі: крывічоў з аўкштайтамі і дрыгавічоў з яцвягамі. Менавіта гэтая сустрэча ў краіне лесу аказалася самай значнай падзеяй яе гісторыі за апошнія паўтары тысячы гадоў. Адным з наступстваў той сустрэчы стала ўзнікненне на Панямонні ў сярэдзіне - другой палове 13 ст. балта-славянскай дзяржавы, якая ўвайшла ў гісторыю Еўропы пад назвай "Вялікае Княства Літоўскае".

Доўгі час навука аб утварэнні ВКЛ распачыналася з пастулата аб адвечнай балта-славянскай канфрантацыі, ці "змагання за тэрыторыі". Гісторыкі канца 19-20 ст. аналізавалі сітуацыю 13 ст. зыходзячы з рэалій сваёй эпохі - часу разгортвання еўрапейскіх нацыянальна-вызваленчых рухаў. З гэтай, напэўна, прычыны Панямонне 13 ст. уяўлялася ім арэнай барацьбы між двумя буйнымі этнічнымі групамі. Падобна як мастак-баталіст з пазіцыі на вяршыні пагорка стварае панараму бітвы, так і гісторык з

[303] Холев С.Б. Физико-географические условия Верхнего Понеманья в прошлом по данным топонимики //Топонимика на службе географии. М., 1979. С. 33-34.

[304] Смоліч А. Географія Беларусі. Мн., 1993. С. 95-98.

вяршыні сваёй эпохі маляваў панарамную карціну балта-славянскага змагання за жыццёвую прастору. Утварэнне новай дзяржавы бачылася яму як вынік перамогі аднаго з сапернікаў над другім.

Аднак сучасная навука (найперш археалогія і лінгвістыка) выявіла, што на тым месцы, дзе гісторыкі доўгі час малявалі полымя ваенных пажараў, у сапраўднасці дыміліся мірныя печы як балцкіх, так і славянскіх хат, раскіданых уперамешку па ўсяму Верхняму і Сярэдняму Панямонню. Гэтае адкрыццё, якое грунтуецца на некалькіх дзесяцігоддзях скрупулёзнай працы многіх даследчыкаў, прымушае зусім па-іншаму глядзець на гісторыю рэгіёна на працягу ўсяго 2 тыс., у тым ліку і на працэс утварэння ВКЛ. Яно таксама тлумачыць немалаважны для нас факт, чаму на працягу некалькіх стагоддзяў, дастаткова надзейна прадстаўленых пісьмовымі крыніцамі (пачынаючы ад 15 ст. і да пачатку 20 ст.), не зафіксавана выпадкаў беларуска-летувіскіх міжэтнічных канфліктаў.

Тэза аб спрадвечнай **балта-славянскай канфрантацыі** на Панямонні - першы з двух даўніх і надзвычай трывалых стэрэатыпаў, ад якіх лічу неабходным адмовіцца ў сваім даследаванні.

Другім трывалым і не менш шкодным стэрэатыпам гістарычнага мыслення з'яўляецца **этнічны імператыў у матывацыі дзейнасці арганізатараў ВКЛ.** Інакш кажучы, ад пачатку прымаецца, што Міндоўг і яго наступнікі мелі мэтай стварыць дзяржаву абавязкова **этнічна балцкую** ці **этнічна славянскую**. Аднак шматлікія гістарычныя аналагі і само далейшае развіццё ВКЛ паказваюць памылковасць такога падыходу. Арганізатары ВКЛ будавалі дзяржаву ў **біэтнічным балта-славянскім рэгіёне**, карыстаючыся даступнымі матэрыяламі і сродкамі. Этнічнае паходжанне дынастыі і падданых у такой справе істотнага значэння не мела. На першым і найбольш складаным этапе пабудовы дзяржавы самымі надзейнымі саюзнікамі балта Міндоўга і яго сына Вайшэлка аказаліся славянскія гарады Панямоння (потым яшчэ Пінск збройнай рукой падтрымаў Вайшэлка), а этнічна блізкія жамойты, яцвягі і некаторыя аўкштоцкія кунігасы ваююць супраць Міндоўга на баку славянскай Галіцка-Валынскай дзяржавы.

Кіруючая дынастыя была балцкага паходжання, гэтаксама як і частка вышэйшай арыстакратыі. Аднак феадалы русінскага паходжання (праваслаўныя і каталікі) складалі пераважную па колькасці частку шляхты ды значную частку магнатэрыі, і ўся дзяржаўная арганізацыя будавалася па ўсходнеславянскаму ўзору[305]. Невядома ніводнага дзяржаўнага інстытута ў ВКЛ, які б можна было лічыць летувіскім па паходжанню. Летувіская арыстакратыя, якая быццам бы заваявала Русь, не мела нават уласнай назвы і прыняла русінскую - баяры, нават дзяржаўны герб насіў беларускую назву "Пагоня".

Адмова ад памянутых вышэй стэрэатыпаў дазваляе зняць шэраг яўных супярэчнасцей у рэканструкцыі працэсу пабудовы дзяржавы і, здаецца, стварае магчымасць распрацоўкі версіі, якая па меншай меры не супярэчыць вядомым сённяшняй навуцы гістарычным фактам.

У пачатку 13 ст., напярэдадні ўзнікнення ВКЛ, на Панямонні актыўна развіваўся працэс мірнага балта-славянскага ўзаемадзеяння, аб якім шмат гаварылася ў папярэднім раздзеле. Характар працэсу быў нязменны ўжо больш двух стагоддзяў: усходнія славяне пранікалі на землі балтаў і паступова іх асімілёўвалі, аднначасова самі шмат чаго пераймаючы ад абарыгенаў. Усходнеславянскія землі (Полаччына, Міншчына, Піншчына), на якіх працэс асіміляцыі балтаў закончыўся ці быў блізкі да завяршэння, ахоплівалі тэрыторыю Панямоння вялізнай дугой-падковай з паўночнага ўсходу да паўднёвага захаду. Прыблізна пасярэдзіне дугі знаходзіўся Менск. Землі між канцамі падковы (Віленшчына, Гарадзеншчына, Наваградчына і частка Міншчыны) уяўлялі сабой кантактную зону са змешаным балта-славянскім насельніцтвам. Працягваўся паступовы рух усходніх славян на поўнач і паўночны захад.

Выказаныя ў гістарыяграфіі меркаванні аб рэзкіх пераменах у 13 ст., менавіта аб спыненні славянскага руху і

---

[305] Грицкевич А.П. Распределение магнатских и шляхетских владений... С. 94-105; Ochmański J. Ruskie wzory organizacyjne w państwie litewskim 14-15 wieku //Ochmański J. Dawna Litwa. Studia historyczne. Olsztyn, 1986. S. 76, 82.

"адваёве" балтамі ранейшых тэрыторый, не знаходзяць пацвярджэння ў крыніцах, гэтаксама як і ў пазнейшых праявах працэсу. У прасторы між Менскам і Вільняй (каля 200 км) у кантактнай зоне мірна суіснавалі ўсходнеславянскія гарады-дзяржавы (галоўным чынам у паўднёвай частцы зоны) і племянныя аб'яднанні балтаў (паўночная частка). Найбольш заглыбленымі ў балцкую этнічную тэрыторыю былі гарады Гародня на Нёмане і Вільня на Віліі. Вясковую ваколіцу ўсходнеславянскіх гарадоў, гэтаксама як і ўмацаваных сядзіб балцкіх кунігасаў, складалі змешаныя балцкія і славянскія паселішчы. Можна меркаваць, што балцкае насельніцтва было больш шчыльным на поўначы зоны, а славянскае - на поўдні.

Да пачаткаў ВКЛ усходнія славяне і балты мелі на Панямонні ўжо больш чым двухвекавы вопыт мірнага супрацоўніцтва. Уразіўшы нават спецыялістаў-археолагаў высокі ўзровень эканамічна-культурнага жыцця панямонскіх гарадоў, на маю думку, быў спавадаваны менавіта гэтым супрацоўніцтвам. Хаця ўдзел у гарадскім жыцці балтаў даследчыкі ацэньваюць як намнога меншы за славянскі, самі панямонскія гарады: Наваградак, Гародня, Ваўкавыск, Слонім і іншыя выступалі як эканамічна-адміністрацыйныя і ваенна-абарончыя цэнтры ўсёй змешанай балта-славянскай ваколіцы. У той жа час энклавы славянскага сельскага насельніцтва маглі ўваходзіць у склад балцкай тэрытарыяльна-племянной арганізацыі[306].

Самым значным горадам рэгіёна ў 13 ст., па ўсёй верагоднасці, быў Наваградак. На другім месцы знаходзілася Гародня. Пісьмовыя крыніцы (усходнеславянскія летапісы), найперш кіеўскага паходжання (Іпацьеўскі летапіс), зрэдку ўпаміналі Гародню ў сувязі з падзеямі 12 ст. і ўвогулеміналі ўвагай Наваградак і іншыя панямонскія гарады. Гарадзенскія князі выразна знаходзіліся пад палітычным уплывам Кіева і неаднаразова па выкліку кіеўскага князя прымалі ўдзел у яго ваенных прадпрыемствах.

Сітуацыя памянялася ў 13 ст. Галіцка-Валынскі летапіс значна часцей упамінае Наваградак, чым Гародню.

---

[306] Łowmiański H. Początki Polski. T. 3. S. 82.

Гэтая ўвага выклікана разгортваннем на Панямонні дзяржаватворчага працэсу, які Галіцка-Валынскае княства спрабавала спыніць у самым пачатку і ў якім Наваградак адыгрываў далёка не апошнюю ролю. Менавіта з Галіцка-Валынскага зводу паходзіць першая дакладная пісьмовая звестка аб існаванні Наваградка, Слоніма і Ваўкавыска, якая датуецца 1249/50 г. (недакладная храналогія Іпацьеўскага летапісу - 1252 г.)[307]. Летапісец падае інфармацыю вельмі сцісла, часцей за ўсё то проста згадка ці ўпамінанне мімаходам. Па сутнасці старажытныя гарады Панямоння былі па-сапраўднаму адкрыты археолагамі толькі ў 20 ст. Аказалася, што Гародня, Наваградак, Ваўкавыск (магчыма, і Слонім) былі заснаваныя ўсходнімі славянамі ў канцы 10 ст., гэта значыць, што апошнія тры паселішчы на момант узгадкі ў Галіцка-Валынскім летапісе існавалі ўжо больш двух з паловай стагоддзяў.

Напэўна, найлепей даследаваны археалагічна якраз Наваградак. Тут больш дваццаці гадоў (з 1956 да 1980 г.) працавала экспедыцыя пецярбургскіх даследчыкаў пад кіраўніцтвам Фрыды Гурэвіч. Яна выявіла, што паселішча, ўзнікшае ў канцы 10 ст. на найвышэйшых вяршынях Наваградскага ўзвышша, у 12-13 стст. перажывала незвычайны росквіт. Сапраўдным адкрыццём стала выяўленне на вакольным горадзе багатага жылога квартала 12-13 стст., будынкі якога былі, па ўсёй верагоднасці, двухпавярховымі і мелі шкляныя вокны (вялікая раскоша на той час), а ў адной пабудове адкрыты нават фрэскавы роспіс. Фрыда Гурэвіч прыйшла да высновы, што гэты квартал не быў нейкім чужародным элементам у горадзе, а ўзнік у выніку развіцця мясцовай культуры[308]. Асабліва ўразіла даследчыкаў шырыня і багацце гандлёвых сувязей горада. Наваградскія купцы актыўна гандлявалі з Прыбалтыкай, Заходняй Еўропай, Прычарнамор'ем, Візантыяй, Блізкім Усходам, не кажучы ўжо пра землі ўсходнеславянскага арэала: Полацкую, Кіеўскую і інш.

---

[307] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 816; Грушевський М. Хронольогія подій Галіцько-Волинської літописи. С. 1-72;

[308] Гуревич Ф.Д. Древний Новогрудок. Л., 1981. С. 125.

Шматгадовыя скрупулёзныя даследаванні як самога горада, так і ваколіц здабылі каштоўную інфармацыю аб этнічным складзе яго жыхароў[309]. Асноўнымі насельнікамі горада і яго бліжэйшай ваколіцы былі ўсходнія славяне з племяннога аб'яднання дрыгавічоў. Акрамя таго, пэўныя асаблівасці матэрыяльнай культуры сведчаць аб прысутнасці тут выхадцаў з Валыні, Мазовіі і, натуральна, з суседніх балцкіх земляў. Побач з горадам яшчэ ў 19 ст. былі раскапаны курганы з пахавальным інвентаром, уласцівым для ўсходнелітоўскіх пахавальных помнікаў. Значная частка ювелірных вырабаў мясцовай наваградскай вытворчасці мела яўны прыбалтыйскі характар, што, на думку Гурэвіч, магло адлюстроўваць знаходжанне ў Наваградку рамеснікаў - выхадцаў з суседняй Літвы ці, дадам, можа быць сведчаннем арыентацыі наваградскіх рамеснікаў на балцкі рынак.

Археалагічныя даследаванні засведчылі высокі ўзровень матэрыяльнай і духоўнай культуры Гародні ў 12-13 стст.[310] Буйнейшай культурнай з'явай рэгіёна стала ўзнікненне ў гэтым горадзе ў другой палове 12 ст. унікальнай па сваіх будаўнічых і мастацкіх вартасцях архітэктурнай школы. Яна прадстаўлена сёння шасцю муранымі помнікамі (тры царквы, княскі церам, участак абарончай сцяны ў самой Гародні і адзін недабудаваны храм у Ваўкавыску). Амаль усе гэтыя помнікі, за выключэннем знакамітай Барысаглебскай царквы (Каложы), адкрыты археолагамі. Ёсць падставы меркаваць аб існаванні ў горадзе яшчэ двух мураваных храмаў 12 ст.[311] Археалагічныя раскопкі пацвердзілі высокі ўзровень эканамічна-культурнага жыцця таксама ў Ваўкавыску і Слоніме[312].

---

[309] Гуревич Ф.Д. Об этническом составе населения древнего Новогрудка. С. 219-222.

[310] Воронин Н.Н. Древнее Гродно. М., 1954; Трусаў А.А., Собаль В.Е., Здановіч Н.І. Стары замак у Гродне 11-18 стст. Мн., 1993.

[311] Краўцэвіч А.К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння. С. 71.

[312] Зверуго Я.Г. Древний Волковыск. Мн., 1975; Зверуго Я.Г. Археологические работы в Слониме // Беларускія старажытнасці. Мн., 1972. С. 248-289.

Такім чынам, шматгадовыя даследаванні археолагаў адназначна засведчылі высокі эканамічна-культурны патэнцыял панямонскіх гарадоў 13 ст., што, несумненна, адыграла сваю важную ролю ў працэсе пабудовы ВКЛ. Усходнеславянская частка Панямоння па тэрытарыяльным абсягу, матэрыяльных і людскіх рэсурсах, агульнаму эканамічна-культурнаму ўзроўню значна перавышала Аўкштоту, не меўшую сваіх гарадоў, не ведаўшую пісьменства, мураванай архітэктуры і г. д.

За некалькі стагоддзяў балта-славянскага ўзаемадзеяння ў рэгіёне ўсталявалася адносна стабільная этна-культурна-палітычная сістэма, спецыфікай якой была яе біэтнічная аснова. Дынамічная раўнавага ў сістэме трымалася на мірным суіснаванні ўсходнеславянскіх гарадоўдзяржаў і балцкіх тэрытарыяльна-племянных аб'яднанняў. Гэты сімбіёз у сваю чаргу быў часткай велізарнай палітычнай сістэмы Усходняй Еўропы. У рэгіёне дамінуе ўсходнеславянская культура і адбываецца паступовая асіміляцыя балцкага насельніцтва, якая з пазіцыі сённяшняга дня бачыцца як праява працэсу этнагенезу беларускага народа. Менавіта гэтая тэрыторыя (балта-славянская кантактная зона) стала ядром ВКЛ - гістарычнай Літвой, утрымлівала назву "Літва" да пачатку 20 ст. і захоўвае пэўную адметнасць да сённяшняга дня.

Стабільнасці панямонскай сістэмы не змагла парушыць успышка ваяўнічасці балцкіх плямёнаў, названых у летапісах "літвой", зафіксаваная пачынаючы ад 80-х гадоў 12 ст. Раўнавага захавалася найперш па той прычыне, што ваяўнічы рух балтаў быў накіраваны за межы сваёй панямонскай сістэмы.

Аднак сам факт гэтай актыўнасці стаў важнейшай падставай для ўзнікнення тэзы аб заваёве Беларускага Панямоння (як і ўсёй Беларусі) летувісамі і ацэнкі ВКЛ як балцкай дзяржавы. Зыходзячы з рэальнага факта літоўскіх паходаў на ўсходнеславянскія землі, некаторыя гісторыкі высунулі тэзу аб перарастанні рабаўнічых нападаў на Русь у тэрытарыяльна-захопніцкія. Тым не менш прыхільнікам гэтай тэзы не ўдалося выявіць ніводнага факта захопу літоўцамі якога-небудзь горада ці зямлі на тэрыторыі будучай Беларусі. Пісьмовыя крыніцы зафік-

савалі выпадкі супрацоўніцтва, а канфрантацыі – ніводнага. Вядома некалькі выпадкаў мірнага - па запрашэнню - усталявання князёў-балтаў ва ўсходнеславянскіх гарадах-дзяржавах і ніводнага - шляхам захопу.

Ды і самі літоўскія напады не былі настолькі магутным фактарам, каб разбурыць або сур'ёзна парушыць усходнеславянскую культурна-палітычную сістэму. Іх уплыў на жыццё тагачаснай Русі можна параўнаць з уплывам печанегаў ці полаўцаў. Спецыяльныя даследаванні паказваюць, што ў пазнейшыя часы, пасля так званай заваёвы, працэс прасоўвання славян у балцкія землі не спыняецца, гэтаксама як асіміляцыя мясцовых балтаў. Несумненна, ваенна-рабаўнічая актыўнасць паскорыла сацыяльную дыферэнцыяцыю балцкага познеродавага грамадства і была прадвеснікам новага ладу - дзяржаўнага. Аднак на эвалюцыю патрэбны час, якога якраз не было.

Другой не менш важнай часткай традыцыйнай канцэпцыі з'яўляецца тэза аб утварэнні яшчэ ў канцы 12 - пачатку 13 ст. папярэдніцы ВКЛ - раннефеадальнай летувіскай (балцкай) дзяржавы на балцкай тэрыторыі (саюз ці канфедэрацыя). Гісторыкі паклалі шмат намаганняў, каб выявіць сляды той дзяржавы. Аднак пошукі гэтыя нельга прызнаць удалымі. Надзейна ўстаноўлены толькі факт сацыяльнай дыферэнцыяцыі балцкіх плямёнаў, у тым ліку літоўцаў. Яе паскарала ваенна-рабаўнічая дзейнасць. Асобныя ўдачлівыя правадыры-арганізатары рабаўнічых паходаў засяроджвалі ў сваіх руках значныя матэрыяльныя багацці. Выдзяляецца праслойка т.зв. нобіляў, што пацвярджаюць археалагічныя матэрыялы. Аднак з'яўленне племянной арыстакратыі яшчэ не доказ існавання дзяржавы.

Фактычна адзіным пісьмовым сведчаннем, якое маюць у сваім распараджэнні адэпты ранняй балцкай (у сэнсе летувіскай) дзяржавы, менавіта канфедэрацыі (саюза) летувіскіх земляў, з'яўляецца ўпамінанне "старэйшых" князёў у вядомай дамове 1219 г. Гэтыя пяць князёў: Жывібунд, Даўят, Даўспрунк, яго брат Міндоўг, брат Даўята Вілікайл называюцца (як саюзнікі - Пашута ці як манархі - напрыклад, Заянчкоўскі) уладарамі аб'яднаных Аўкштоты і Жамойці (Летувы - у сённяшнім разуменні).

Аднак гэтая версія аб аб'яднанай ужо ў першых дзесяцігоддзях 13 ст. пад уладай адной ці некалькіх асоб Летуве не вытрымлівае праверкі з дапамогай іншых крыніц. Важнейшай і надзейнейшай з іх лічыцца "Хроніка Лівоніі" Генрыха Латвійскага. Князі, пералічаныя ў дамове 1219 г., у тым ліку і старэйшыя, зусім невядомы айцу Генрыху, сучасніку той падзеі, пісаўшаму сваю Хроніку каля 1227 г. У сваю чаргу Генрых паведамляе аб цесцю князя Усевалада з Герсікі, магутным літоўскім кунігасе Даугерутэ[313], аб якім нічога не ведае Галіцка-Валынскі летапіс. Характэрна, што літоўцы ў творы Генрыха ў адрозненне ад полацкіх князёў, тытулаваных каралямі, называюцца проста "літоўцы", гэтаксама як лівы, эсты, земгалы, куры[314].

Крыніцы зафіксавалі факты дзейнасці літоўскіх кунігасаў цалкам незалежна адзін ад другога ў наступных дзесяцігоддзях 13 ст. У 1238 г. Даніла навёў "Літву Міндоўга" на Конрада Мазавецкага, гэта значыць быў у саюзе з апошнім. А праз тры гады ў 1241 г. брат Данілы Васілька застаўся сцерагчы зямлю "ад Літвы", можа іншых несаюзных Раманавічам плямёнаў? У 1243/44 г. літоўцы нападаюць на Валынь на чале з Айшўна Рушкавічам (род Рушкавічаў названы ў дамове 1219 г.), пасля 1244 г. зноў адбыўся напад пад кіраўніцтвам на гэты раз Лонькогвена. Амаль у той жа час (1245 г.) Даніла з Васількам пасылаюць па дапамогу ў Літву для вайны з Расціславам Галіцкім і атрымліваюць яе ад Міндоўга. Цікавы запіс: "Данило же и Василко посласта въ Литву помощи просяща, и послана бысть отъ Миндога помощь"[315]. Такім чынам, выглядае, што еднасці ў Літве не было яшчэ і ў сярэдзіне 40-х гадоў 13 ст. Адны кунігасы ваююць з Валынню (прычым не "старэйшых" родаў), другі - Міндоўг выступае як актыўны саюзнік - дасылае туды ваенную дапамогу.

З Ноўгарадскага летапісу вядома, што ў 1245 г. князь Аляксандр Яраслававіч (вядомы як Неўскі) забівае пад

---

[313] Генрих Латвийский. Хроника Ливонии. С. 113, 149.

[314] Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. С. 132-133; Hellman M. Burgen und Adelsherrschaft... S. 41-42.

[315] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 801..

Тарапцом 8, а потым яшчэ некалькі літоўскіх князёў ("княжиць")[316]. Нобіль Лінгевін, падтрыманы Міндоўгам, змагаецца з трыма "багатымі братамі" - Тушэ, Мільгерынам і Гінгейкам[317]. Апісваючы смерць Міндоўга, летапісец сведчыць, што ён быў адным з кунігасаў у Літоўскай зямлі ("бысть княжящю ему въ земли Литовьской"), а потым у выніку пэўных падзей "нача княжити одинъ во всей землъ Литовьской"[318].

Найверагодней, што пасольства 1219 г. - прыклад часовага аб'яднання групы правадыроў для вырашэння канкрэтнай ваенна-дыпламатычнай мэты. Падобныя дамовы ў 13 ст. не былі рэдкасцю. Генрых Латвійскі паведамляе, што ў 1201 г. перад нападам на землі земгалаў літоўцы заключылі мір з Рыгай. У 1212 г. пасольства літоўцаў прыйшло ў Кокнесе прасіць міра, каб прайсці да зямлі эстаў. Лаўмяньскі дэталёва і даволі пераканаўча паказаў, што Аўкштота не мела над сабой адзінай улады яшчэ ў першых гадах пасля каранацыі Міндоўга. Падпарадкаванне Аўкштоты каралём даследчык адносіць толькі да 1254-1258 гг.[319] Сучасны летувіскі гісторык Гудавічус піша аб "чыста намінальнай" уладзе Міндоўга над іншымі кунігасамі да канца 40-х - пачатку 50-х гадоў 13 ст.[320] Заўважу, што крыніцы не дазваляюць сцвердзіць нават гэтага намінальнага адзінаўладдзя.

Лічу, што няма надзейных падстаў да высновы аб існаванні ўжо ў першых дзесяцігоддзях 13 ст. (і наступных таксама) палітычнага аб'яднання балцкіх плямёнаў Аўкштоты і Жамойці - канфедэрацыі пад верхавенствам аднаго са "старэйшых" князёў. Слядоў адзінай дзяржавы няма. Моцных людзей, вялікіх правадыроў (könig gros - Старэйшая рыфмаваная хроніка) у балтаў было шмат. Аднак узгодненыя дзеянні групы кунігасаў для вырашэння пэўных дыпламатычных (як дамова з Галіцка-Валынскім княствам) ці ваенных (сумесныя паходы) за-

---

[316] НПЛ. С. 79, 304.
[317] LR. S. 63-65. V. 2753-2755, 2830.
[318] ПСРЛ. Т. 2 Стб. 858.
[319] Łowmiański H. Studia nad początkami... T.2. S. 334-346.
[320] Gudavičius E. Kryžiaus karai... P. 92-166, 171.

дач - таксама яшчэ не дзяржава. Узнікненне новай дзяржавы наўрад ці магло быць не заўважаным сучаснікамі. Успомнім, наколькі выразна пісьмовыя крыніцы 13 ст. зафіксавалі дзейнасць Міндоўга ў справе пабудовы ВКЛ.

Даследчыкі неаднаразова звярталі ўвагу на яўную сувязь генезы ВКЛ са знешнепалітычнай сітуацыяй ва Усходняй Еўропе. Панямонская сістэма магла існаваць яшчэ доўгі час у працэсе паступовай эвалюцыі. Аднак важныя знешнія падзеі зрабілі гэты шлях немагчымым. Палітычная сістэма Усходняй Еўропы аказалася разбуранай у сярэдзіне 13 ст. падзеямі надзвычайнага маштабу і важнасці. Уся паўднёвая і ўсходняя частка ўсходнеславянскага арэала была зруйнавана мангола-татарамі. Татарская навала знішчыла існуючыя там дзяржавы, перасекла традыцыйныя гандлёвыя шляхі. Пагроза з паўднёвага ўсходу пастаянна адчувалася і на Панямонні. Акрамя таго, знешняя небяспека пагражала з поўначы і з захаду: немцы з пачатку 13 ст. усталяваліся ў ніжнім цячэнні Дзвіны. Тэўтонскі ордэн, заваяваўшы Прусію, з 1283 г. распачаў актыўную агрэсію на Панямонне. На чатыры дзесяцігоддзі раней, у 1245 г., Ордэн атрымаў ад імператара прывілей на валоданне будучымі тэрытарыяльнымі набыткамі ў Літве.

У такіх умовах наступнай ступенню эвалюцыі балтаславянскага сімбіёзу на Панямонні стала стварэнне арганізацыі для абароны сваёй жыццёвай прасторы. Выглядае цалкам лагічным, што на чале арганізацыі стаў мацнейшы, правераны ў баях і паходах ваенны правадыр. Яго этнічнае паходжанне істотнага значэння не мела, асабліва ў рэгіёне, дзе два этнасы вякамі жылі ўперамешку.

Гісторыі вядома некалькі выпадкаў мірнага - па запрашэнню - прыходу балцкіх князёў на сталы ўсходнеславянскіх гарадоў і ніводнага - шляхам ўзброенага нападу. Пскоўскі летапіс у паведамленні пра выгнанне з Пскова ў 1213 г. князя Уладзіміра Тарапецкага называе яго "літоўскім князем"[321]. У 1248 г. папа піша ліст да "новаахрышчанага" князя Полацка (выказвалася думка,

---

[321] Псковские летописи. Вып. 2 С. 77.

што адрасатам папы быў Таўцівіл[322]). "Новаахрышчаны" стан князя ўсходнеславянскага горада з'яўляецца доказам яго паганскага (балцкага) паходжання і адначасова сведчаннем мірнага прыходу на полацкі стол. Дэталёва апісана ў летапісах з'яўленне ў Пскове князя Даўмонта ў 1265г.[323] У гэтым выпадку ніяк не выпадае казаць, што, уцёкшы ад помсты Вайшэлка, выгнанец збройнай сілай прымусіў пскавічоў выклікнуць сябе князем. Для Пскова, як і для Полацка і іншых усходнеславянскіх гарадоў, не так важна было этнічнае паходжанне служылага князя, як яго ваенныя здольнасці ды вернасць дзяржаве. Даўмонт са сваім статусам выганца наўрад ці мог спадзявацца на лепшую кар'еру дзе-небудзь у іншым месцы. Не дзіўна, што гэты здольны вайсковы кіраўнік старанна даводзіў вернасць сваёй новай радзіме і найперш у баях са сваімі былымі этнічна блізкімі суайчыннікамі.

Пісьмовыя крыніцы, дапоўненыя аналізам працэсу балта-славянскіх кантактаў і пераліchанымі вышэй аналогіямі, паказваюць, што, найверагодней, таксама было і на Панямонні. Даволі цікавай бачыцца ідэя Міколы Ермаловіча аб запрашэнні Міндоўга на пасаду наваградскага князя. Няма толькі падстаў лічыць, як гэта робіць Ермаловіч, Міндоўга ізгоем. Крыніцы сведчаць аб адваротным, ды і палітычная логіка ў даным выпадку дыктавала наваградцам саюз з мацнейшым.

Такім чынам, у першых дзесяцігоддзях 13 ст. на Панямонні назіраем лакальную палітычную сістэму, якая з'яўляецца часткай буйной сістэмы - усходнееўрапейскай. Вядомы прычыны, якія разбурылі вялікую сістэму і рэальна пагражалі малой. Гэта ваенная пагроза звонку. Менавіта яна, на думку даследчыкаў, справакавала пачатак працэсу дзяржаваўтварэння. Іншымі словамі, панямонская палітычная сістэма атрымала штуршок звонку. Адпаведна другому пачатку тэрмадынамікі (закон эн-

---

[322] Taube M. Russische uhd litauische Fürsten an der Düna zur Zeit Eroberung Livlands (12. und 13. Jahrhundert) // Jahrbücher für Kultur und Geschichte der Slaven. N.F. 1935. Band. XI. Heft 3/4. S. 405-406.

[323] Охотникова В.И. Повесть о Довмонте (исследования и тексты). Л., 1985.

трапіі) сістэма атрымлівае першасны штуршок-імпульс і потым растрачвае атрыманую энергію на пераадоленне супраціву знешняга асяроддзя, пакуль зноў не прыйдзе да раўнавагі. Але гэта ўжо будзе іншая якасць, іншая сістэма.

Нас найбольш цікавяць панямонскія **ўнутрысістэмныя працэсы, якія ў гістарычнай літаратуры выступаюць пад назвай "генезіс ВКЛ".** Ведаючы вытокі знешняга штуршка, заканамерна паставіць наступнае пытанне: што было самым пачаткам, адпраўным пунктам унутрысістэмнага працэсу? Ці канкрэтней: што парушыла дынамічную палітычную раўнавагу на Панямонні і прывяло мясцовую сістэму ў рух?

Аналіз наяўных пісьмовых звестак у комплексе з данымі археалогіі і лінгвістыкі дазваляе адказаць на гэтыя пытанні наступным чынам: **пачаткам ВКЛ стаў палітычны саюз двух галоўных рэгіянальных сіл - усходнеславянскіх гарадоў-дзяржаў з некаторымі найбольш моцнымі правадырамі балцкіх плямёнаў.** Калі яшчэ больш канкрэтызаваць, то пачаткам быў саюз важнейшага горада рэгіёна - Наваградка з мацнейшым з суседніх кунігасаў Міндоўгам. Менавіта гэты саюз парушыў дынамічную раўнавагу сіл на Панямонні, даў саюзнікам перавагу і пры адпаведных знешніх абставінах паклаў пачатак працэсу дзяржаваўтварэння. Прыняцце версіі балта-славянскага саюза, здаецца, дае магчымасць лагічна вытлумачыць і ўвязаць між сабою самыя розныя палітычныя падзеі, звязаныя з працэсам стварэння ВКЛ.

Пісьмовыя крыніцы не зафіксавалі фармальны акт гэтага саюза, гэтаксама як і час яго ўтварэння. Вельмі верагодна, што па прычыне адсутнасці звычаю складання падобных дакументаў названы акт увогуле не быў аформлены пісьмова. Яшчэ ў 14 і пачатку 15 ст. пісаны дакумент у ВКЛ выкарыстоўваўся амаль выключна пры міжнародных кантактах. Вельмі рэдка вялікія князі карысталіся ім у адносінах з прадстаўнікамі сваёй дынастыі[324].

[324] Pietkiewicz K. Wielkie Księstwo Litewskie pod rządami Aleksandra Jagiellończyka. Studia nad dziejami państwa i społeczeństwa na przełomie XV i XVI wieku. Poznań, 1995. S. 13.

На жаль, не захаваліся тагачасныя ўласна панямонскія летапісы. Галіцка-Валынскі летапіс (найбольш каштоўная крыніца) паказаў галоўным чынам знешнія праявы працэсу, ды і то не ўсе. Тым не менш наяўныя летапісы, хронікі і актавыя матэрыялы выразна адлюстравалі дзейнасць саюза, паколькі гэтая дзейнасць далёка выходзіла за рамкі рэгіянальных маштабаў. Па шэрагу летапісных звестак можна вывесці, што ў саюзе з Наваградчынай была не ўся Аўкштота, і нават не ўся Літоўская зямля, а толькі яе частка, падуладная Міндоўгу, а пазней, у 70-х гадах - літоўскае ўладанне Трайдэна (карта № 5).

Нам невядома, хто быў ініцыятарам, у чыёй галаве саспела рашэнне як адказ на надзённыя патрэбы і трывогі часу. Ці сам Міндоўг прыслаў да наваградчанаў прапанову злучыць свае сілы, ці наваградскія моцныя людзі, усвядоміўшы раптоўны абрыў усіх багатых гандлёвых сувязей на паўднёвым усходзе, паслухаўшы ўцекачоў, паслалі запрашэнне мацнейшаму з суседніх кунігасаў да сябе на княжанне.

На падставе вядомай сённяшняй навуцы інфармацыі няма магчымасці даведацца, у якой форме адбыўся акт утварэння саюза, але здаецца магчымым дастаткова надзейна зафіксаваць яго ў часе з дакладнасцю да дзесяцігоддзя ці нават года. З дастатковай верагоднасцю можна назваць таксама месца падзеі - Наваградак. Утварэнне ВКЛ - Адказ на Выклік Гісторыі, які быў зроблены ў форме значных і надзвычайна пагрозлівых для рэгіёна міжнародных падзей. Адказ стаў магчымым дзякуючы шчасліваму збегу многіх акалічнасцей. Да апошніх належыць найперш спрыяльнае геаграфічнае размяшчэнне рэгіёна - будучага ядра дзяржавы. Дарэчы прыйшоўся больш чым двухвекавы вопыт балта-славянскага супрацоўніцтва, які паспрыяў таксама росквіту на Панямонні эканамічнага і культурнага жыцця, наяўнасць на месцы гатовых узораў дзяржаўнасці і развітых дзяржаўных структур, энергічных военачальнікаў у асобах літоўскіх кунігасаў і г.д.

Тэрыторыя Сярэдняга Панямоння, а таксама Падзвіння засталася ў баку ад галоўнага кірунку татарскага прышэсця. Аддаленасць ад узбярэжжа Балтыйскага мора на

нейкі час уратавала Панямонне ад экспансіі з боку тутэйшых нямецкіх дзяржаўных утварэнняў. Татары прайшлі на захад - праз Польшчу і Венгрыю. Прусы, яцвягі і жамойты да 1283 г. стрымлівалі Тэўтонскі ордэн. Рыжскае арцыбіскупства і Лівонскі ордэн былі занятыя ўмацаваннем сваёй улады ў Лівоніі, Эстоніі, разборкамі між сабой і з суседнімі ўсходнеславянскімі дзяржавамі. Лівонскія немцы доўга не маглі аправіцца пасля паражэння Ордэна мечаносцаў ад жамойтаў у 1236 г. пад Сауле. Мечаносцы былі разгромлены разам з дапаможнымі атрадамі эстаў і пскавічоў, страцілі забітымі каля пяцідзесяці рыцараў, у тым ліку магістра. Паміж 1236-1240 і 1283 гг. Панямонне мела адносна спакойны час, якога аказалася дастаткова для фармулёўкі Адказу.

Галоўным праціўнікам на шляху пабудовы панямонскай дзяржавы ў гэты час стаў паўднёвы сусед - Галіцка-Валынскае княства. У першай палове 13 ст. Верхняе і Сярэдняе Панямонне ўваходзіла ў сферу ўплыву астатняга. Мясцовыя гарады-дзяржавы ўдзельнічаюць у валынскіх палітычных справах. У канцы 1228 ці ў 1229 г. у кааліцыі супраць валынскага князя Данілы Раманавіча прымаюць удзел разам з куранамі, пінянамі і тураўцамі таксама навагародцы[325]. Відочны таксама і культурны ўплыў, напрыклад, у Наваградку і Гародні, магчыма, у Вільні будуюцца абарончыя мураваныя вежы т.зв. валынскага тыпу. Падобныя пабудовы былі ўзведзены яшчэ на Палессі: у Бярэсці, Пінску і Камянцы.

Праз адносіны з Галіцка-Валынскай дзяржавай, пакладзеныя на фон іншых міжнародных падзей, можна ў пэўнай ступені аднавіць развіццё сітуацыі на Панямонні ў 20-70-х гадах 13 ст., прывёўшых да ўтварэння новай дзяржавы. У нашым даследаванні ўжо не раз упаміналася адна цікавая падзея: аб'яднанае пасольства балцкіх князёў на Валынь з прапановай міру ў 1219 г. Валынскі летапісец перадаў, па ўсёй верагоднасці, найбольш важныя, на яго думку, дэталі гэтай падзеі[326]. Летапісны запіс утрымлівае імёны 21 балцкага князя, якія ўсе (у тым ліку

[325] ПСРЛ. Т.2. Стб. 753.
[326] Там жа. Стб. 735-736.

жамойцкія і дзяволцкія) аб'яднаны назовам літоўскіх. Яны абяцаюць Раманавічам мір і сапраўды, як паведамляе летапіс, "и бъ земля покойна".

Гэтае пасольства шматкратна і па-рознаму інтэрпрэтавалася гісторыкамі. У ім бачылі сведчанне аб'яднання Летувы, наяўнасці канфедэрацыі летувіскіх земляў з вярхоўнай уладай у асобах "старэйшых" князёў - тую міфічную балцкую дзяржаву, аб якой мы гаварылі вышэй. Генрык Пашкевіч угледзеў тут нават наяўнасць вялікага князя ў асобе названага першым Жывібунда (дыскусія аб значку над "и"). Той жа аўтар палічыў, што гэтае пасольства было выклікана "жаданнем (Летувы. - *А.К.*) выкарыстаць цяжкую сітуацыю Данілы і Васількі для сваіх дзяржаўных мэт"[327]. Ежы Ахманьскі невядома адкуль вывеў, што ў абмен за мір для Валыні кунігасы захацелі і атрымалі ў сваё валоданне т.зв. Чорную Русь (гэты недаказаны факт у даследчыка стаў падставай для высновы аб перарастанні рабавання ў тэрытарыяльныя захопы і ўвогуле паўстання ВКЛ)[328].

Далейшыя падзеі паказваюць, што пра еднасць Летувы на гэты час гаварыць нельга. Ужо ўпаміналася, што аб аб'яднанай Летуве нічога не ведаюць іншыя крыніцы, у тым ліку надзейны Генрых Латвійскі, хоць такая значная падзея, як утварэнне новай дзяржавы, не праходзіць незаўважанай. У творы Генрыха на паўночна-ўсходнім кірунку дзейнічаюць літоўскія князі з зусім іншымі імёнамі, чым пералічаныя ў тэксце дамовы.

У інспіраваным валынскімі князямі паходзе 1238 г. супраць Конрада Мазавецкага прымаў удзел князь Ізяслаў Наўгародскі: Даніла "возведе на Кондрата Литву, Минъдога (трэба чытаць без коскі - Літву Міндоўга. - *А.К.*), Изяслава Новгородьского"[329]. Адсюль выводзім, што Міндоўг меў уладанні ў Літве, а ў Наваградку сядзеў праваслаўны князь-славянін (ці хрышчаны балт), які выступаў цалкам самастойна. Гэтая дата - важная веха ў

---

[327] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 42.

[328] Ochmański J. Historia Litwy. S. 45-46.

[329] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 776.

вывучэнні дзяржаватворчага працэсу, апошняя, бачная нам перад утварэннем саюза Міндоўга з Наваградкам.

Наступны, даступны нашаму погляду знак - то ўжо канстатацыя адзінства (саюза) - 1248 г., калі Міндоўг выганяе пляменнікаў Таўцівіла і Эрдзівіла (яны лічацца сынамі брата Міндоўга - Даўспрунка). Раманавічы іх прымаюць, рыхтуюцца да вайны з Міндоўгам і ў 1249/50 г. вядуць войска супраць яго ў Літву, а менавіта на... Наваградак![330] Адсюль маем ужо першы зафіксаваны выпадак атаясамлення (г.зн. саюза) Міндоўга з Наваградкам[331].

Такім чынам, можна з вялікай доляй верагоднасці вывесці, што ўтварэнне балта-славянскага палітычнага саюза на Панямонні адбылося менавіта ў гэты адрэзак часу - 10 гадоў між 1238 і 1248 гг. Валынскі летапісец успрымае названы саюз як ужо звыклую справу, для яго цалкам натуральна лічыць аблогу Наваградка эпізодам вайны з Літвой. Калі нават прыняць пад увагу, што гэта погляд чалавека, пісаўшага ў канцы 13 ст., то ўсё роўна істотным чынам справа не змяняецца.

Здаецца, можна паспрабаваць, не выходзячы за межы праўдападобнасці, яшчэ больш звузіць поле пошуку і ўдакладніць час знамянальнай падзеі. Усведамленне неабходнасці яднацца дзеля абароны мусіла праявіцца найвыразней пасля 1240-1241 гг., калі мангола-татарская небяспека стала рэальнасцю. Мангольскія войскі апустошылі Паўднёвую Русь, захапілі Кіеў, а ля недалёкага Бярэсця Даніла і Васілька "не возмогоста в поле ити смрада ради множьства избъеных". Ордэн яшчэ не мог пачаць шырокае наступленне на Панямонне з боку Прусіі, але ў 1245 г. ён ужо атрымаў ад германскага імператара прывілей на будучыя зямельныя набыткі ў Літве.

Яшчэ ў 1245 г. Раманавічы знаходзяцца ў саюзе з Міндоўгам (атрымліваюць ад яго ваенную дапамогу). Гэтыя саюзныя адносіны маюць ужо трывалую традыцыю (летапісныя сведчанні аб іх 1219, 1238, 1245 гг.). Калі ў 1248 г. Міндоўг просіць не падтрымліваць прыбегшых на

---

[330] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 815-816.

[331] Акрамя таго, гэта першае сведчанне пашырэння хароніма "Літва" на славянскія землі.

Валынь сваякоў, то гэта выглядае цалкам натуральна - ён звяртаецца да сваіх сталых саюзнікаў.

Аднак Раманавічы ідуць на парыў даўняга (амаль 30 гадоў) саюза, падтрымліваюць выгнанцаў, ствараюць супраць Міндоўга магутную кааліцыю ў складзе Лівонскага ордэна, жмудзінаў, яцвягаў і распачынаюць вайну. Сямейны, здавалася б, канфлікт нечакана набірае характар вялікай палітыкі. Затым галіцка-валынскія князі ў 1249-1250 г. ідуць супраць Міндоўга на Навагрудак. Такім чынам, гэты паход у Літву на Навагрудак - першая фіксаваная звестка аб еднасці ці балта-славянскім саюзе. У выніку названага саюза ўтварыўся новы дзяржаватворчы цэнтр. Рэакцыя валынскіх князёў паказвае, што яны цалкам усведамлялі небяспеку гэтага саюза для сваіх пазіцый на Панямонні, таму і распачалі такое актыўнае і маштабнае супрацьдзеянне.

Падобна, першай рэальнай праявай балта-славянскага саюза, першым крокам да стварэння новай дзяржавы (заўважаным і ацэненым у суседніх краінах) была аперацыя, праведзеная пад кіраўніцтвам Міндоўга, у выніку якой, па словах летапісца, "поимана бъ вся земля Литовьская". Таму час правядзення гэтай акцыі - **1248 г.**[332] **прапануецца прыняць за пачатак генезы ВКЛ.**

Створаная Раманавічамі кааліцыя пагражала задушыць працэс дзяржаваўтварэння ў самым пачатку ці па меншай меры прыпыніць яго на неакрэслены час. Распачатыя для выйсця з цяжкай сітуацыі дзеянні засведчылі буйны дзяржаўны талент неардынарнай асобы Міндоўга і здабылі яму рэпутацыю пачынальніка ВКЛ. Адрэзак часу трохі больш за дзесяцігоддзе - 50-я - пачатак 60-х гадоў 13 ст. (да смерці Міндоўга) багацей прадстаўлены дакументамі, лепей вывучаны гісторыкамі, чым усе папярэднія і наступныя дзесяцігоддзі, што яшчэ раз паказвае значнасць самой падзеі і важнасць гэтага перыяду ў генезе ВКЛ. Паўстаўшая дзяржаватворчая сіла ў выглядзе саюза Міндоўга з Навагрудкам правяла першую акцыю і выклікала, зразумела, варожую і жорсткую рэакцыю не-

---

[332] Па недакладнай храналогіі Іпацьеўскага летапісу - 1251 г. Гл.: Грушевський М. Хронольогія подій Галіцько-Волинської літописи.

каторых суседніх дзяржаў. Поспех справы ў многім залежаў ад выніку гэтага першага цяжкага выпрабавання. Вынік аказаўся ўдалым, малады дзяржаўны арганізм давёў сваю жыццястойкасць і набыў запас трываласці, якога аказалася дастаткова, каб перажыць наступны крызіс, на гэты раз узнікшы ў самой сістэме.

Вельмі цяжка разабрацца ў складаным клубку буйных і менш значных падзей, праз якія нараджалася новая дзяржава. Часта ў дакуменце якое-небудзь важнае здарэнне апісваецца адной фразай ці ўпамінаецца толькі мімаходзь і з-за адсутнасці іншых крыніц немагчыма правесці карэкцыю суб'ектыўнай ацэнкі аўтара. Таму ход падзей даводзіцца рэканструяваць вельмі асцярожна, прымаючы за верагодныя найперш даныя, пацверджаныя іншай крыніцай ці адпаведныя агульнай логіцы працэсу.

Значны ўдзел у працэсе ўтварэння ВКЛ прыняла суседняя з Панямоннем Піншчына. У 13 ст. Турава-Пінская зямля знаходзілася ў палітычнай залежнасці ад Галіцка-Валынскага княства, але пры зручным выпадку імкнулася ўмацаваць сваё незалежнае становішча. У 1227 г. пінчукі забіраюць Чартарыйск пасля смерці яго гаспадара Івана Мсціслававіча, і ў наступным годзе Даніла і Васілька Раманавічы сілай яго адбіраюць. У той жа час князь Расціслаў пінскі, па словах валынскага летапісца, "не престаяше клевеща, бъша бо дъти его изыманы"[333]. У канцы 1228 ці ў 1229 г. пінчукі і тураўцы разам з куранамі і наваградцамі ваююць супраць Данілы Раманавіча. Аднак у тым жа годзе князь Уладзімір пінскі выступае як васал Раманавічаў. Ідучы ў Польшчу, браты пакінулі яго ў Бярэсці сцерагчы свае землі ад яцвягаў. Якраз каля Бярэсця паходам на Польшчу накіроўваўся літоўскі атрад. Літоўцы лічылі, што ідуць па мірнай з імі зямлі (відавочна, рабілі гэта не першы раз), аднак Уладзімір выйшаў з берасцейцамі з горада і разбіў літоўцаў[334]. Гэтае здарэнне - адзіны факт сутыкнення берасцейцаў з літоўцамі, прычым не па ініцыятыве апошніх.

Са звестак Галіцка-Валынскага летапісу вынікае, што Пінск стараўся захоўваць мірныя адносіны з насельнікамі

[333] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 753.
[334] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 754.

Панямоння і падтрымліваў мясцовы дзяржаватворчы асяродак. Відавочна, імкненне Пінска да ВКЛ тлумачылася жаданнем выйсці з-пад залежнасці ад Галіцка-Валынскай дзяржавы. Аднак піняне мусілі дзейнічаць асцярожна, каб не ствараць для сябе лішняй пагрозы. Валынскі летапіс выразна паказвае гэтую дваіснасць пінскай палітыкі. Каля 1245 г. пінскі князь патаемна папярэджвае літоўскі атрад аб надыходзе валынскага войска[335]. Аднак пінскія войскі некалькі разоў "няволяю" змушаны прымаць удзел у паходах галіцка-валынскіх князёў на Літву. Пад час крызісу ў ВКЛ, выкліканага забойствам Міндоўга, піняне рашуча ўмяшаліся ў панямонскія справы: спачатку прынялі ўцёкшага з Літвы Вайшэлка, а ў 1264 г. іх войска пайшло з ім наводзіць парадак у Аўкштоце.

Полацкая зямля ў 13 ст. прытрымліваецца традыцыйнай палітыкі мірных адносін з літоўцамі. Полацк не прымае ўдзелу ні ў адной выправе, скіраванай супраць панямонскай дзяржавы. Выказваліся розныя меркаванні аб часе ўваходу Полацкай зямлі ў сферу палітычнага ўплыву ВКЛ. Той факт, што Полацк не ўступаў ва ўзброеныя канфлікты з літоўцамі, даследчыкі часам расцэньвалі (у духу традыцыйнай канцэпцыі) як сведчанне яго залежнасці ад Літвы (Аўкштоты). Маўляў, раз палачане з літвой не ваявалі, а прапускалі яе на ноўгарадскія і смаленскія землі, то, значыць, баяліся і залежалі ад літоўцаў.

Але большасць гісторыкаў выказваецца на карысць полацка-літоўскага пагаднення. Заўважана таксама, што Полацк выкарыстоўваў літоўскую рабаўнічую актыўнасць супраць Ноўгарада і Смаленска - сваіх адвечных сапернікаў у барацьбе за панаванне над дзвінскім гандлёвым шляхам (гэтаксама як, напрыклад, Пскоў выкарыстоўваў Лівонскі ордэн супраць Ноўгарада). У барацьбе за матэрыяльныя жыццёвыя інтарэсы на другі план адсоўвалася ўсведамленне этнічнай роднасці (як, дарэчы, і кроўнай). Палачане прапускалі літву пустошыць ноўгарадскія і смаленскія воласці, а пры зручным выпадку і самі бралі ў тым удзел, як тое был о ў 1198 ці 1258 г. Маг-

---

[335] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 798.

чымы быў іншы варыянт наладжвання адносін: у 1239 г. полацкі князь Брачыслаў выдае сваю дачку замуж за ноўгарадскага князя Аляксандра Яраслававіча (Неўскага)[336].

Першая дакладная інфармацыя аб князі балцкага паходжання на полацкім стале датуецца 1262 г. Восенню гэтага года ноўгарадскае войска ідзе пад Юр'еў і сярод яго саюзнікаў называецца полацкі князь Таўцівіл, "с ним полочанъ и Литвы 500"[337]. Дакладны час усталявання Таўцівіла ў Полацку невядомы. Выказанае Таубэ меркаванне (Пашута палічыў яго верагодным), што адрасатам ліста папы ад 15 верасня 1248 г. да "новахрышчанага" князя Полацка быў Таўцівіл[338], выглядае сумніўна. Яшчэ ў 1253 г. Таўцівіл знаходзіўся пры двары Данілы Раманавіча на Валыні і прымаў удзел у паходзе таго ў Сілезію[339]. Відавочна, Таўцівіл стаў полацкім князем пасля 1258 г. і ўжо як саюзнік Міндоўга і Вайшэлка. Якраз у 1258 г. Даніла Раманавіч спрабаваў захапіць у Ваўкавыску Вайшэлка і Таўцівіла. Такім чынам, Таўцівіл у Полацк прыйшоў між 1253 і 1262 гг. У пачатку 50-х гадоў ён разам з Вікінтам ваяваў супраць дзядзькі (Міндоўга), потым замірыўся і, стаўшы полацкім князем, працягваў традыцыйную мясцовую палітыку саюза з Літвой.

У Ноўгарадскім летапісе ёсць указанне, што Таўцівіл быў прыняты на княжанне самімі палачанамі, а не навязаны ВКЛ. Калі ў 1263 г. Транята забіў Таўцівіла і пажадаў ("просиша", - піша летапісец) ад палачанаў выдачы яго сына, то апошні ўцёк са сваімі прыбліжанымі да Ноўгарада. "Тогда Литва посадиша **свои (своего) князъ** в Полотьскъ; а полочан пустиша, которыхъ изъимали с **княземь ихъ** (выдзелена мной. - *А.К.*), и мир взяша"[340]. Гэта азначае, што аб трывалым уваходзе Полацка пад палітычны ўплыў ВКЛ можна казаць толькі ад 1263 г.

---

[336] НПЛ. С. 44, 238; 82, 310; 77, 289.

[337] НПЛ. С. 83, 311.

[338] Taube M. Russische uhd litauische Fürsten... S. 405-406; Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. С. 378.

[339] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 821-822.

[340] НПЛ. С. 84, 313.

Пасля гібелі Таўцівіла нейкі час у Полацку сядзеў князь са славянскім імем, які мог быць яго сынам[341]. Пазней тут кіруе Ердзень, які, акрамя таго, як вядома з граматы 1264 г., валодаў і Віцебскім княствам[342]. Пасля яго смерці ў Полацку зноў сядзяць князі з усходнеславянскімі імёнамі - васалы Вайшэлка[343]. Пасля ўсталявання ў ВКЛ новай дынастыі Полацк, гэтаксама як Віцебск і Менск, стала знаходзіўся з ёй у трывалай палітычнай сувязі[344]. Полацкая зямля ўсё мацней звязваецца з панямонскай дзяржавай, каб урэшце канчаткова ўвайсці ў ВКЛ, забяспечыўшы сабе шырокую аўтаномію. Багатыя полацкія традыцыі дзяржаўнага і культурнага жыцця аказалі значны ўплыў на фармаванне ўнутранага ладу ВКЛ.

## 3.2. Выпрабаванне на трываласць

### 3.2.1. Міндоўг і першы ўнутраны крызіс (1248-1270 гг.)

Вялікую заслугу ў стварэнні дзяржавы і пераадоленні яе першага (знешняга) крызісу навука прыпісвае Міндоўгу. Асабістых звестак аб гэтым чалавеку захавалася мала: невядомы дакладны час і месца нараджэння, імя бацькі, дакладнае месцазнаходжанне яго родавага ўладання ў Літве і г.д. З наяўных крыніц можна вывесці, што гэты кунігас паходзіў з Аўкштоты, дакладней, з Літоўскай зямлі, верагодна, той яе часткі, дзе яшчэ не так моцна адчувалася славянская асіміляцыя. Ён належаў да балцкага арыстакратычнага роду, аднаго з мацнейшых у Літоўскай зямлі, а можа, і ва ўсёй Аўкштоце.

Першая ўзгадка аб Міндоўгу адносіцца да 1219 г., калі ў Галіцка-Валынскім летапісе ён называецца адным са "старэйшых" князёў у Літве. Адсюль вынікае, што ў гэты час Міндоўг ужо знаходзіўся ў свядомым узросце. Ведаючы дату смерці нашага героя (1263 г.), можам прыняць, што нарадзіўся ён дзесьці на мяжы 12-13 стст.

---

[341] Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. С. 385.
[342] Русско-Ливонские акты. СПб., 1868. С. 13. № 25 а.
[343] Русско-Ливонские акты. № 25 в.
[344] Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. С. 392.

Нягледзячы на сціпласць звестак аб жыцці Міндоўга, яму прысвечана вялікая колькасць навуковых прац і мастацкіх твораў. Папулярнасць гэтай асобы на працягу некалькіх стагоддзяў выклікана, несумненна, славай стваральніка ВКЛ. Значнасць падзеі - стварэнне новай дзяржавы, выклікала зразумелую ўвагу сучаснікаў да асобы яе першага кіраўніка. Пры ўсёй сціпласці інфармацыі крыніц аб Міндоўгу мы ўсё-такі ведаем значна больш, чым пра ўсіх наступных вялікіх князёў, кіраваўшых у 13 ст.

Па адрывачных звестках пісьмовых крыніц (найперш Галіцка-Валынскага летапісу) мы можам у агульных рысах прасачыць ход яго кар'еры. У дамове 1219 г. Міндоўг, нягледзячы на тое, што быў у далёкім да сталага ўзросце[345], названы на чацвёртым месцы сярод пяці старэйшых князёў. Пераказваючы дамову, летапісец (у канцы 13 ст.) дадае, што ён пазабіваў братоў Булевічаў і забраў у аднаго з іх - Вішымунта - жонку[346]. Той жа летапіс паведамляе пра аналагічны ўчынак Міндоўга (праўда, без забойства) праз чатыры дзесяткі гадоў, які, урэшце, каштаваў жыцця вялікаму князю.

Не даводзіцца здзіўляцца, што малады чалавек з такімі задаткамі і стартавымі магчымасцямі (прыналежнасць да моцнага роду, бацька - "магутны кароль"[347]) здолеў зрабіць галосную кар'еру. Вайна - вось спосаб, магчымасць выдзеліцца сярод такіх жа дробных мясцовых правадыроў, павялічыць уласную дружыну і аўтарытэт. Вайна, несумненна, паскарала працэс дыферэнцыяцыі ў асяроддзі мясцовых аўкштайцкіх нобіляў. Ад асабістых якасцей правадыра вельмі значна залежаў поспех у такой небяспечнай справе, як ваенны напад. Удачлівасць у падобнага роду прадпрыемствах моцна павышала як матэрыяльны, так і маральны статус іх арганізатара. За 3-4 дзесяцігоддзі некаторыя літоўскія кунігасы (а потым іх дзеці) сталі рэальнай ваенна-палітычнай сілай. З масы

---

[345] Бо скончыў жыццё праз больш чым чатыры дзесяцігоддзі і не сваёй смерцю.

[346] Князь па імю Вішымонт загінуў у 1251 г. у бітве з войскам Міндоўга.

[347] LR. S. 146-147. V. 6383-6385. "Din vater was ein konig groz, bie den ziten sinen genoz", - кажуць жамойты Міндоўгу.

нобіляў выдзяліліся найбольш здольныя і ўдачлівыя ў вайне. Некаторых з іх летапіс называе старэйшымі. Рускія князі родняцца з імі (Усевалад з Герсіке, Даніла Раманавіч Валынска-Галіцкі). Такога кшталту кар'еру зрабіў і Міндоўг.

Але гісторыя паказвае, што патрэбны час, праходзіць не адно пакаленне, пакуль знойдзецца асоба, здольная пры спрыяльных абставінах ажыццявіць справу аб'яднання. Такое раней ці пазней, напэўна, адбылося б у Аўкштоце ды іншых балцкіх землях. Паўсталі б уласныя дзяржаўныя арганізацыі, як раней на Русі ці Польшчы. Але часу на эвалюцыю якраз не хапала.

Дзейнасць Міндоўга ў ролі кіраўніка дзяржавы, склаўшую першы і самы важны этап генезісу ВКЛ, дзеля зручнасці выкладання прапаноўваю падзяліць на некалькі храналагічных адрэзкаў:

- 1248-1254 гг. - канфлікт з Галіцка-Валынскай дзяржавай;
- 1251-1260 гг. - саюз ВКЛ з Лівонскім ордэнам;
- 1254-1258 гг. - залежнасць ад Галіцка-Валынскага княства;
- 1258-1263 гг. - аднаўленне і ўмацаванне незалежнасці ВКЛ.

Пасля падзей 1248 г. (захопу ўладанняў выгнаных з Літвы сваякоў) Міндоўгу давялося вырашаць праблемы ўзроўню вялікай міжнароднай палітыкі. А сітуацыя сапраўды склалася складаная і цяжкая для Панямоння. Даніла і Васілька Раманавічы стварылі ваенную кааліцыю, у склад якой увайшлі амаль усе суседзі Літвы і Наваградчыны. Землі яе ўдзельнікаў ахоплівалі Панямонне амаль замкнутым кальцом, адзіным прарывам у якім была традыцыйна мірная Полацкая зямля. Жамойцкі князь Вікінт прыцягнуў да саюзнікаў "сребромъ и дарми многими Ятвязъ и полъ Жемоити"[348]. Да кааліцыі далучыўся Лівонскі ордэн. У ваенных дзеяннях прымалі ўдзел таксама палавецкія войскі. Дапамогу Галіцка-Валынскаму княству абяцалі польскія князі, але войскаў не прыслалі.

[348] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 815-816.

У 1249/50 г. адбылося першае ваеннае выпрабаванне маладой дзяржавы - паміцаны ўжо паход Данілы і Васілька Раманавічаў на Наваградак, Ваўкавыск, Слонім і Здзітаў. Значных вынікаў гэты паход не прынёс, напэўна, не ўдалося захапіць ніводнага з названых гарадоў, інакш бы летапіс абавязкова паведаміў пра такі поспех. Летапісец жа абмежаваўся традыцыйнай фразай: "поимаша грады многы и взвратишася въ домы"[349].

У 1250 г. адбыўся новы паход саюзнікаў на Панямонне. На гэты раз ён праводзіўся ўзгоднена з лівонцамі. Таўцівіл выступіў з Валыні на чале валынскага войска і полаўцаў. Адначасова з Лівоніі да замка Міндоўга выйшаў лівонскі атрад, якім камандаваў ландмайстар Андрэй фон Сцірланд. Лівонскае войска ішло праз Нальшаны проста на ўмацаванае паселішча (burg) Міндоўга[350]. Далейшы ход гэтага паходу нам невядомы. Пасля яго заканчэння Таўцівіл накіраваўся ў Рыгу, дзе быў прыняты з пашанай і неўзабаве хрысціўся па каталіцкаму абраду.

З гэтага сапраўды цяжкага становішча панямонская дзяржава выйшла дзякуючы заключэнню саюза з Лівонскім ордэнам. Міндоўгу ўдалося перацягнуць рыцараў на свой бок, пераканаўшы ландмайстра "дарми многими", а галоўнае - згодай прыняць хрысціянства праз пасрэдніцтва (што вельмі важна) Лівонскага ордэна. Магчыма, гэты ўдалы дыпламатычны манеўр і ўратаваў дзяржаву ў яе першым цяжкім выпрабаванні.

Справа была арганізавана за кароткі тэрмін, абрад хрышчэння адбыўся ў пачатку 1251 г.[351] Праз прыняцце хрысціянства Міндоўгу ўдалося не толькі нейтралізаваць, але і перацягнуць на свой бок аднаго з асноўных удзельнікаў варожай кааліцыі. Наступныя дзесяць гадоў Міндоўг знаходзіўся ў саюзных адносінах з Лівонскім ордэнам і падтрымліваў ажыўленыя кантакты з каталіцкім першасвятаром. Але аб гэтым гаворка трохі пазней

---

[349] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 815-816.

[350] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 816; LR. S. 75-78.

[351] ПСРЛ. Т. Стб. 816-817; LR. S. 80-82; Liv-, Est- und Curländisches Urkundenbuch. T. 2. N 687. P. 140-141, N 703. P. 172; Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 67.

У 1251 г. Таўцівіл са жмудзінамі свайго дзядзькі Вікінта, яцвягамі і дапаможным атрадам ад Данілы Раманавіча (у тым ліку полаўцамі) зноў аблягае (і зноў без асаблівага поспеху) Міндоўга ў яго "градзе". Лівонскія войскі на гэты раз змагаюцца ўжо на баку панямонскай дзяржавы і прымаюць удзел у абароне замка Міндоўга. Галіцка-Валынскі летапіс паведамляе, што Міндоўг замкнуўся ва ўмацаваным паселішчы ("градъ, именемъ Ворута"; некаторыя даследчыкі чытаюць "во Рута"), дзе паспяхова вытрымаў аблогу[352]. Напэўна, дзякуючы новаму раскладу сіл, Міндоўг мог ужо праводзіць наступальныя дзеянні. Сабраўшы вялікае войска, ён ідзе ў Жамойць на замак Вікінта. Тут падчас адной з сутычак палавецкі воін параніў, здаецца, самога Міндоўга[353], і той завярнуў дамоў.

Пераход на бок Міндоўга аднаго з удзельнікаў варожай кааліцыі не спыніў ваенныя дзеянні з паўднёвым суседам. Аказалася, што Галіцка-Валынская дзяржава можа паспяхова працягваць вайну і пасля адыходу не толькі лівонцаў, але і іншых саюзнікаў. У 1251-1252 гг. браты Раманавічы з полаўцамі зноў накіроўваюцца на Наваградак. Па дарозе яны прыпыніліся ў Пінску і змусілі да ўдзелу ў паходзе мясцовых князёў: "князи же Пинсцъи имъяху лесть, и поя ъ со собою неволею на войну". Паход гэты выглядаў хутчэй як рабаўнічы набег, валыняне разлічвалі з'явіцца на Панямонні нечакана, але дзесьці на мяжы Піншчыны і Наваградчыны сутыкнуліся з ліцвінскім дазорам (ля возера Зьята). Прайшоўшы хуткім маршам праз балоты да ракі Шчары, князі правялі ваенны савет. Войска не хацела ісці далей, бо ў Наваградку ўжо было вядома аб яго прыходзе. Аднак Даніле Раманавічу ўдалося ўгаварыць вояў працягнуць паход. Летапісец аб яго выніках паведамляе стандартнай фразай: "наутръя же плъниша всю землю Новогородьскую"[354].

Абодва бакі ўжывалі звычайную тактыку: кароткія нечаканыя напады з мэтай спусташэння варожай тэрыторыі. Паводле сціслай летапіснай інфармацыі, у 1252 г.

---

[352] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 817-818.
[353] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 818.
[354] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 819.

валынскае войска пад камандай Васількі Раманавіча і яго пляменніка Рамана Данілавіча захапіла Гародню (па ўсёй верагоднасці, ненадоўга і толькі пасады). Неўзабаве войскі Данілы нападаюць на Літоўскую зямлю (дакладны кірунак паходу невядомы), а сын Міндоўга, напэўна Вайшэлк, ваяваў у ваколіцы Турыйска на Валыні.

У тым жа годзе дайшло да перамоў аб міры: Міндоўг прыслаў паслоў, прапаноўваючы прыняць мір і замацаваць яго шлюбам сваёй дачкі з сынам Данілы. Важкасць мірнай прапанове надаваў чарговы дыпламатычны поспех Міндоўга. Яму ўдалося вывесці з кааліцыі Жамойць і Яцвезь: "убъди я серебром многимъ". Таўцівіл быў змушаны ўцякаць з Жамойці на Валынь, і Даніла "гнъвъ имъющю на нъ"[355]. Аднак прапанова аб міры была адвергнута, магчыма, па той прычыне, што на Валыні стала вядома аб нейкіх унутраных канфліктах на Панямонні. Дзесьці ў канцы 1252 г. Даніла зноў "пошедшу на войну на Литву, на Новъгородок, бывшю роскалью (расколу)"[356]. Па ўсёй верагоднасці, паход Данілы меў характар ранейшых - спусташэнне варожага краю на працягу некалькіх дзён ці тыдняў і адыход на сваю тэрыторыю. Што за "раскол" узнік на Панямонні, невядома (магчыма, звязаны з увядзеннем каталіцтва і саюзам з лівонскімі рыцарамі), але ў Міндоўга, напэўна, была яўная патрэба ў міры з Раманавічамі.

Такім чынам, Галіцка-Валынская дзяржава праводзіла наступальныя дзеянні на тэрыторыі праціўніка і мела дастаткова сілы, каб і ў адзіночку ствараць сур'ёзную пагрозу для маладой панямонскай дзяржавы. Аб гэтым сведчаць вынікі вайны, якая закончылася пагадненнем 1254 г. Паслом Міндоўга на мірных перамовах быў яго сын Вайшэлк.

Праз апісанне ўмоў пагаднення і іншыя звесткі летапісу мы можам прааналізаваць палітычную сітуацыю на Панямонні напярэдадні міру 1254 г. Кіраўнік дзяржавы Міндоўг меў у непасрэдным валоданні нейкую частку, а можа, і ўсю Літоўскую зямлю і разам з сынам Вайшэлкам

---

[355] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 820.

[356] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 828-829.

кіраваў славянскімі гарадамі Панямоння. У адным месцы летапіс паведамляе, што Вайшэлк быў князем у Наваградку[357], а ў 1254 г. па ўмовах міру аддае валынскім князям "Новогородъкъ отъ Миндога и отъ себе Вослонимъ и Волковыескъ, и всѣ городы"[358].

Вынікі пяцігадовай вайны значна змянілі палітычны расклад на Панямонні. Раманавічам не ўдалося зліквідаваць мясцовы дзяржаватворчы цэнтр, аднак свае ўплывы на Панямонні яны не толькі аднавілі, але і ўзмацнілі. Па ўмовах пагаднення сын Данілы Раман атрымаў у валоданне Нав採градак, Слонім, Ваўкавыск і іншыя землі на Панямонні, акрэсленыя летапісцам як "всѣ городы". Сам Вайшэлк адышоў ад свецкага жыцця, прыняў манаскі сан і накіраваўся ў паломніцтва на Святую Гару (Афон). Мірная дамова была замацавана шлюбам другога сына Данілы Раманавіча Шварна з дачкой Міндоўга.

На Панямонні ўстанаўліваецца складаная, але дастаткова тыповая для сярэднявечча сістэма феадальных адносін. Раман з'яўляецца ўладальнікам славянскай часткі Панямоння, пад яго верхавенствам знаходзяцца ўдзельныя князі-славяне. Князі гэтыя, па ўсёй верагоднасці, паходзяць з мясцовых дынастый, здаўна звязаных з Валынню, потым адсунутых ад кіравання ў выніку балтаславянскага саюза і цяпер вернутых на ранейшыя месцы. Летапіс разам з Глебам Ваўкавыскім - цесцем Рамана Данілавіча, называе яшчэ Ізяслава Свіслацкага. Міндоўг захоўвае верхавенства над усім Верхнім Панямоннем, у тым ліку над уладаннямі Рамана Данілавіча, якое мае хутчэй намінальны характар. Напрыклад, Даніла, сабраўшыся на яцвягаў, напрамую звязваецца з сынам, і той прыходзіць з навагрaдцамі і названымі вышэй князямі[359]. Але праз паўгода ў падобнай сітуацыі Рамана і навагрaдцаў да Данілы прысылае ўжо Міндоўг.

Поўнай інкарпарацыі Панямоння ў склад Галіцка-Валынскай дзяржавы не адбылося, але можна казаць аб

---

[357] Хоць запіс датуецца 1263 г., гаворка ідзе пра часы, калі Вайшэлк яшчэ быў язычнікам.

[358] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 830-831.

[359] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 831..

умацаванні тут валынскага ўплыву. У новастворанай ці, дакладней, адноўленай палітычнай сістэме не знайшлося месца сыну Міндоўга - Вайшэлку. Прыняўшы манаскі сан, Вайшэлк, паводле тагачаснага светапогляду, выключаўся з палітычнага жыцця і не мог быць прэтэндэнтам на княскую пасаду. Аднак гэты нестандартна арганізаваны адыход, як высветлілася, не перашкодзіў яму праз некалькі гадоў вярнуцца да актыўнай палітычнай дзейнасці і працягнуць справу бацькі.

Адначасова з гэтымі важнымі падзеямі літоўска-валынскіх адносін на працягу 1251-1260 гг. развіваліся прыязныя кантакты панямонскай дзяржавы з Лівонскім ордэнам і каталіцкім першасвятаром. Дзесяцігадовы перыяд саюзных адносін Міндоўга з Захадам стаў першай у гісторыі ВКЛ спробай палітычнай арыентацыі новай дзяржавы на заходнееўрапейскі гісторыка-культурны арэал. Відавочны таксама культурны ўплыў Захаду на пагранічных з ім усходнеславянскіх і балцкіх землях (Панямонне, Полацкая зямля, Галіцка-Валынская дзяржава, Ноўгарадская і Пскоўская рэспублікі). Найбольш выразна гэты ўплыў заўважны на матэрыяльнай культуры. У канцы 13 - пачатку 14 ст. на Заходняй Украіне і Беларусі з'яўляюцца новыя заходнееўрапейскія ўзоры ўзбраення, кафляныя печы, вялікапамерная гатычная цэгла, дахоўка і г. д. Спачатку ў Галіцка-Валынскай зямлі, а потым на Палессі і Панямонні ў важнейшых гарадах у другой палове 13 ст. будуюцца т. зв. вежы валынскага тыпу (у Наваградку, Гародні, Бярэсці і Пінску).

Перамовы аб хрышчэнні ў каталіцызм Міндоўг распачаў непасрэдна з лівонскім ландмайстрам Андрэем фон Сцірландам. Той аднёсся да справы з поўнай сур'ёзнасцю і асабіста прыбыў да Міндоўга ў суправаджэнні світы, складзенай з рыцараў і духоўных асоб. Міндоўг хрысціўся разам з жонкай Мартай, двума малодшымі сынамі - Руклем і Рэпеклем і ўсім дваром. Абрад праводзіў Хрысціян - прэсвітэр Лівонскага ордэна[360]. Месца хрышчэння крыніцы не называюць, але гісторыкі схіляюцца

[360] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 816-817; LR. S. 80-82; Liv-, Est- und Curländisches Urkundenbuch. T. 2. N 687. P. 140-141; N 703. P. 172.

бачыць яго ў Навaградку. Адразу пасля хрышчэння Міндоўг накіраваў пасольства да папы, а па дарозе, у Рызе, да яго далучыліся прадстаўнікі Лівонскага ордэна. Аб'яднанае пасольства накіравалася ў Мілан, дзе ў гэты час знаходзіўся папа, і перадало першасвятару лісты ад Міндоўга. Вялікі князь пісаў, што стаў хрысціянінам і прасіў прыняць яго пад апеку рымскай царквы. Папа выканаў просьбу, выставіўшы спецыяльную булу.

Разам з Міндоўгам хрысціянства прынялі падуладныя яму балты-язычнікі - папская була паведамляе аб "вялікай колькасці" неафітаў (numerosa paganorum multitudo sibi subdita[361]), - аднак далёка не ўсе[362]. Далейшыя дзеянні Міндоўга паказалі, што прыняцце каталіцтва было чыста дыпламатычным крокам. Валынскі летапісец паведаміў, што "крещение же его льстиво бысть", а, дазволіўшы сябе абхітрыць, ландмайстар Андрэй быў пазбаўлены пасады[363]. Рыфмаваная хроніка таксама інфармуе аб пазнейшым адыходзе Міндоўга ад хрысціянства. Ландмайстар Андрэй фон Сцірланд, паводле гэтай крыніцы, пакінуў сваю пасаду па стану здароўя.

Дэкларацыя аб жаданні прыняць хрысціянства па каталіцкаму абраду аказалася добрым дыпламатычным ходам у барацьбе з Тэўтонскім ордэнам. Гэты прыём, упершыню скарыстаны Міндоўгам, кіраўнікі ВКЛ ужывалі яшчэ не адзін раз. Палітычная гульня на той акалічнасці, што афіцыйнай падставай існавання Ордэна было хрышчэнне язычнікаў, вялася вялікімі князямі з адной і той жа мэтай - стрымаць крыжацкую экспансію. Прыняць каталіцтва дакляраваў пазней Віцень, яго брат Гедымін і сыны апошняга Альгерд і Кейстут[364].

Далейшым крокам Міндоўга да збліжэння з Заходняй Еўропай было прыняцце каралеўскага тытула. Ліцвінскія паслы прасілі ў папы рымскага дазволу на каранацыю свайго князя і сустрэлі з боку першасвятара поўнае разу-

---

361 Vetera monumenta Poloniae et Lithuaniae. T. 1. N 102. P. 49.

362 Łowmiański H. Studia nad początkami... T. 2. S. 341.

363 ПСРЛ. Т. 2. Стб. 817.

364 Chodynicki K. Próby zaprowadzenia chrześcijaństwa na Litwie przed r. 1386 // Przegląd Historyczny. 1914. T. 18. S. 215-319.

менне. Аднак завяршыць справу ў бліжэйшы час (1251-1252 гг.) не было магчымасці: ішла вайна Літвы з Валынню. Да каранацыі дайшло толькі ў 1253 г. Прызначаны папай прадстаўнік апостальскай сталіцы - хельмінскі біскуп Генрых правёў цырымонію па прынятаму ў Заходняй Еўропе рытуалу з усёй належнай урачыстасцю. Рыфмаваная хроніка паведамляе, што, як толькі паслы прывезлі ў Рыгу папскія булы з дазволам на каранацыю, ландмайстар адразу ж загадаў зрабіць дзве кароны (другая - для жонкі Міндоўга), упрыгожыўшы іх каштоўнымі камянямі. Калі ў Рызе з'явіўся выкліканы ландмайстрам хельмінскі біскуп, то яны разам адразу накіраваліся ў Літву[365].

Цырымоніі каранацыі заходнееўрапейскіх манархаў арганізоўваліся адной інстытуцыяй - папствам і ўсюды праводзіліся па аднаму ўзору. Таму, ведаючы пра загад папы выканаць абрад ад яго імя, аказалася магчымым зрабіць верагодную рэканструцыю гэтай працэдуры[366]. Пасля ўзвядзення манарха на трон адбылося памазанне яго асвечаным алеем, потым убранне ў цырыманіяльны строй (каранацыйныя сандалі, белыя шаты), уручэнне меча, фібулы для каралеўскай мантыі, пярсцёнка і г. д. Каранацыя Міндоўга азначала працяг саюзных адносін з Лівонскім ордэнам і, адпаведна ўзмацненне заходнееўрапейскай арыентацыі ВКЛ.

Міндоўг захацеў каранаваць на дзяржаву аднаго са сваіх сыноў і звярнуўся з адпаведнай просьбай да папы. Гэты клопат аб працягу дынастыі цалкам зразумелы - кароль быў ужо чалавекам сталага веку. Папа Аляксандар IV выказаў сваю згоду булай ад 6 сакавіка 1255 г.[367] Адначасова асобным лістом папа ад імя апостальскай сталіцы зацвярджаў за Міндоўгам усе яго ўладанні. Імя каралевіча ў дакуменце не называецца, але, напэўна, гаворка не ішла аб старэйшым - Вайшэлку, паколькі ён у гэты час быў манахам. Найверагодней, меўся на ўвазе наступны па старшынству сын Рукль. Невядома, ці адбылася каранацыя, бо ніякіх звестак аб ёй не захавалася.

---

[365] LR. S. 81-82. V. 3535-3543.
[366] Ivinskis Z. Mindaugas und seine Krone. S. 360-386.
[367] Vetera monumenta Poloniae et Lithuaniae. T. 1. N 123. P. 60-61.

У сувязі з апісанымі вышэй падзеямі ўзнікае наступная важная праблема: якой была афіцыйная назва дзяржавы і як выглядаў тытул яе кіраўніка? У 14-15 стст. канчаткова ўсталявалася назва, адпаведная ўсходнеславянскай традыцыі - Вялікае Княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае і г.д. Паўстае пытанне: калі ўпершыню панямонская дзяржава і яе гаспадар пачалі карыстацца фармулёўкай: "Вялікае Княства" і "Вялікі Князь"? Міндоўг у сваіх прывілеях з 1253-1260 гг., напісаных па-латыні, называе сябе "кароль Літвы" ("rex Littowiae"). Як гучаў яго тытул па-русінску, невядома, бо ніякіх актавых дакументаў, напісаных на гэтай мове не захавалася. У папскіх булах Міндоўг тытулуецца каралём як да каранацыі, так і пасля яе правядзення. Але ў адным лісце папы, менавіта буле да куронскага і эзэльскага біскупаў, дзе гаворка ідзе пра арганізацыю каранацыі, ужыты тытул "super faciem regem Luthawiae". Фрыдрых Бунге, які апублікаваў названую булу, перакладае гэты выраз як "Вялікі Князь"[368]. Ноўгарадскі летапіс, апісваючы смерць Міндоўга, таксама тытулуе яго Вялікім Князем ("убиша князя велика Миндовга")[369]. Такім чынам, улічыўшы тагачасную практыку складання дыпламатычных дакументаў, а таксама ведаючы, што "Каралеўства Літва" было толькі эпізодам гісторыі дзяржавы, можна прыняць за яе пачатковую афіцыйную назву: **Вялікае Княства Літоўскае**, а тытул яе кіраўніка, адпаведна, **Вялікі Князь Літвы**, ці **Вялікі Князь Літоўскі**. Харонім "Русь" быў уведзены ў тытул гаспадара пры вялікім князі Гедыміне[370].

На некалькі гадоў зацягнулася і ўтварэнне літоўскай каталіцкай царквы. Яшчэ ў ліпені 1251 г., адразу пасля прыбыцця пасольства Міндоўга з весткай аб яго хрышчэнні, папа Інакенцій IV (17 ліпеня 1251 г.) піша да хелмінскага біскупа, каб той знайшоў кандыдатуру на пасаду біскупа Літвы. Аднак пасвячэнне ў сан першага літоўскага каталіцкага біскупа адбылося пазней - у 1253-1254 гг., ужо пасля каранацыі Міндоўга. Прычынай

---

[368] Liv-, Est- und Curländisches Urkundenbuch. T. 1. N 225. P. 64, 284.
[369] НПЛ. С. 84.
[370] Halecki O. Litwa, Ruś i Żmudź... S. 216-217.

затрымкі, відавочна, была тая самая вайна з Галіцка-Валынскай дзяржавай, актывізацыя якой у 1252 г. супала з унутранымі нязгодамі на Панямонні. Апошнія, магчыма, былі звязаны са спробай хрысціянізацыі мясцовых балтаў. Па жаданню караля папа Інакенцій IV прызначыў на гэтую пасаду прэсвітэра Лівонскага ордэна Хрысціяна. Рукапалажыць новага біскупа было даручана рыжскаму арцыбіскупу Альберту. Той правёў цырымонію па ўсіх правілах, але змусіў новага біскупа прысягнуць на вернасць сабе, а не рымскаму першасвятару. Папе давялося зноў па просьбе караля Літвы выдаць спецыяльную булу, паставіўшую літоўскае біскупства пад непасрэдную юрысдыкцыю апостальскай сталіцы. У 1254 г. Міндоўг падараваў новаспечанаму біскупу землі ў заходняй частцы Жамойці - самым логаве язычнікаў. Так што невядома нават, ці здолеў біскуп хоць пабываць у сваіх уладаннях.

У тым жа 1253 г. на "першага біскупа Літвы" быў пасвечаны гнезненскім арцыбіскупам польскі дамініканін Віт[371]. Гэтая намінацыя, верагодна, была першай праявай польска-нямецкага саперніцтва ў справе хрысціянізацыі Літвы. Сам кароль Міндоўг падтрымліваў кандыдатуру Хрысціяна (аб чым сведчыць наданне яму земляў), і ў 1255 г. папа Аляксандр IV зняў з Віта годнасць біскупа[372]. Літоўскае біскупства перастала існаваць фактычна пасля разрыву Міндоўгам саюза з Ордэнам у 1260 г.

Як падзяку за саюз і дапамогу Міндоўг дараваў Лівонскаму ордэну шэраг земляў у Заходняй Жамойці. Акты аб дараванні гэтых земляў складаюць асноўную частку т. зв. дакументаў Міндоўга (гл. раздзел 1 і дадатак). Некаторыя з гэтых дакументаў лічацца падробкамі, створанымі самім Ордэнам. Сапраўды, набытыя землі забяспечвалі рэалізацыю важнейшай стратэгічнай задачы Тэўтонскага ордэна - злучэнне па сушы яго прускай і лівонскай філій. Падобная практыка фармальнага ўступлення ў валоданне яшчэ непакоранымі землямі была для Ордэна звычайнай справай. Напрыклад, у 1245 г. ён ат-

[371] Kronika Wielkopolska. S. 100; Rocznik krakowski. S. 33.

[372] Abraham W. Powstanie organizacji Kościoła łacińskiego na Rusi. Lwów, 1904. S. 154, przyp.1.

рымаў ад германскага імператара права валодаць яшчэ не набытымі землямі ў Літве[373]. Часам крыжакі не спыняліся перад фальсіфікацыяй такіх дакументаў. Справай іх рук лічыцца падроблены прывілей 1260 г. аб пераходзе да Ордэна ўсёй Літвы ў выпадку адсутнасці ў Міндоўга нашчадкаў.

Лівонскія рыцары скарысталі цяжкую знешнепалітычную сітуацыю маладой дзяржавы, якая апынулася сам-насам са скіраванай супраць яе буйной кааліцыяй. Яны пайшлі на сепаратны мір з Міндоўгам, выціснулі з яго ўсё, што можна было, потым яшчэ самі сфабрыкавалі некалькі даравання. Праўда, як заўважылі гісторыкі, Міндоўг не застаўся ў пройгрышы. Праз саюз з Ордэнам і хрышчэнне ў каталіцтва яму ўдалося разваліць варожую кааліцыю, а большасць падораных лівонцам земляў увогуле не належалі да яго дзяржавы. Пры першым жа зручным выпадку Міндоўг парваў і з Ордэнам і з каталіцтвам.

Аддаючы Ордэну жамойцкія землі, Міндоўг не мог не разумець, што іх чакае. Ён выдатна ведаў, як крыжакі абыходзіліся з непакорнымі жыхарамі суседняй Прусіі. Акрамя таго, кароль Літвы, як паведамляе Рыфмаваная хроніка, абавязаўся адмовіцца ад падтрымкі жамойтаў супраць Ордэна. Такім чынам, Міндоўг першы выкарыстаў Жамойць як разменную манету ў палітычнай гульні з крыжакамі, даўшы пачатак і прыклад аналагічным дзеянням наступных кіраўнікоў ВКЛ. Такія адносіны да этнічна родных суседзяў яшчэ раз паказваюць, што ні Міндоўг, ні яго наступнікі пры стварэнні дзяржавы ў Панямонні не кіраваліся прынцыпам этнічнай дамінанты і не мелі на мэце збудаваць ВКЛ як дзяржаву абавязкова балцкую.

Цаной кампрамісу і саступак як ворагам, так і саюзнікам Міндоўгу ўдалося пераадолець першы і таму, напэўна, самы цяжкі знешнепалітычны крызіс маладой дзяржавы. Дзяржаватворчы асяродак на Панямонні ацалеў, яго лідэр Міндоўг застаўся намінальным вярхоўным уладаром з тытулам караля, прынятым ад папы, і мы не ведаем, каб ён фармальна ад гэтага тытула адрокся.

---

[373] Liv-, Est- und Curländisches Urkundenbuch. T. 1. N 185.

Мірныя адносіны Літвы з Галіцка-Валынскай дзяржавай працягваліся ад 1254 да 1258 г. і былі парушаны ўмяшальніцтвам магутнай знешняй сілы - менавіта татараў. Арда свядома і разлікова разбурала ўсю сістэму знешняй палітыкі Галіцка-Валынскай дзяржавы, прымушаючы яе да ўдзелу ў ваенных паходах на суседзяў. На гэты раз вялікае татарскае войска пад камандай Бурундая нечакана з'явілася на Валыні і змусіла Данілу Раманавіча да нападу на Літву: "иду на Литву; оже еси миренъ, пойди со мною"[374]. Даніла вельмі не хацеў гэтага паходу і напачатку ўхіліўся ад асабістага ўдзелу ў ім, паслаўшы замест сябе брата Васільку. Апасенні валынскіх князёў мелі сур'ёзныя падставы. У выніку гэтага паходу аказаўся цалкам парушаны выгадны для іх палітычны расклад на Панямонні. Даніла панёс асабістую страту, яго сын Раман быў схоплены Вайшэлкам пасля пачатку ваенных дзеянняў. Васілька Раманавіч з войскам безпаспяхова шукаў пляменніка па ўсёй Літве. З таго часу аб Рамане Данілавічу болей не чуваць, што наводзіць на сумныя думкі адносна яго лёсу.

Татара-валынскі паход на Панямонне вялікіх вынікаў не прынёс, а галіцка-валынскі ўплыў тут быў моцна аслаблены. Ад таго часу галіцка-валынскія войскі калі і хадзілі на Панямонне, то толькі ў таварыстве з татарамі. Напэўна, самастойныя паходы аслабленая Галіцка-Валынская дзяржава правесці ўжо не магла. На наступны 1259 г. той жа Бурундай змусіў Раманавічаў знішчыць умацаванні гарадоў амаль па ўсёй іхняй дзяржаве. Цікава, што ноўгарадскія летапісы паведамляюць аб двух нападах літоўцаў на ўсходнеславянскія землі ў тым жа 1258 г., калі адбыўся валынска-татарскі паход на Літву. Разам з палачанамі літоўцы хадзілі на Смаленск, а восенню таго ж года правялі напад на Таржок. Верагодна, гэта былі насельнікі непадуладнай Міндоўгу паўночна-ўсходняй часткі Аўкштоты, якая не ўдзельнічала ў вайне з Валынню.

У 1260 г. жамойты нанеслі цяжкае паражэнне Тэўтонскаму ордэну ля возера Дурбе. Гэтая падзея адразу змяніла расклад сіл у Прыбалтыцы. У Прусіі ўспыхнула

---

[374] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 846-847.

паўстанне мясцовых плямёнаў супраць крыжакоў, якое рэальна пагражала існаванню самой ордэнскай дзяржавы. Яно працягвалася больш дзесяцігоддзя і было падаўлена дзякуючы падтрымцы еўрапейскага рыцарства. Прускае паўстанне надоўга адцягнула ўвагу крыжакоў ад Літвы. Праз нядоўгі час пасля дурбенскай бітвы Міндоўг парывае саюз з Ордэнам. Рыфмаваная хроніка паведамляе, што зрабіў ён гэта пад націскам жамойтаў, абяцаўшых узамен прызнаць яго ўладу над Жамойцю[375].

На пачатак шостага дзесяцігоддзя 13 ст. становішча Міндоўга і яго дзяржавы выглядае дастаткова трывалым. Войскі ВКЛ ужо праводзяць ваенныя аперацыі за межамі сваёй тэрыторыі. У чэрвені 1262 г. пасланы Міндоўгам атрад, прайшоўшы каля 300 км, дабраўся да Яздава (Мазовія) і захапіў там знянацку мазавецкага князя Земавіта разам з яго сынам Конрадам. Самога Земавіта забілі, а Конрада вывезлі ў палон[376]. У тым жа годзе ў адказ за напад на Панямонне валынянаў пад началам Васількі Раманавіча войска Міндоўга ваюе ў ваколіцы Каменя[377].

Пасля разрыву з крыжакамі быў заключаны антыордэнскі саюз ВКЛ з Ноўгарадам. У 1262 г. Міндоўг разам з жамойцкім князем Транятай арганізоўвае паход на Вендэн. На наступны год саюзны Міндоўгу Транята разбіў нямецкі атрад пад Дзюнамюндэ[378].

Такім чынам, дзякуючы эфектыўнай дзейнасці таленавітай асобы, лідэра балта-славянскай дзяржавы, яна выйшла з першага выпрабавання з запасам трываласці, дастатковым, каб пераадолець наступны крызіс, на гэты раз унутраны.

Восенню 1263 г. быў забіты Міндоўг. Ён стаў ахвярай змовы жамойцкага князя Траняты і нальшанскага князя Даўмонта. Першы кантраляваў, здаецца, усю Жамойць і

[375] LR. S. 146-147.

[376] Gieysztor A. Działania wojenne Litwy w roku 1262 i zdobycie Jazdowa // Studia Historyczne Stanisławowi Herbstowi na sześćdziesięciolecie urodzin. Warszawa, 1967. S. 5-14.

[377] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 855.

[378] LR. S. 148, 150, 158-159. V. 6471, 6528-6535, 6891-6945; Łowmiański H. Studia nad początkami... T. 2. S. 3.

быў саюзнікам Міндоўга ў барацьбе з Ордэнам. Даўмонт быў уладальнікам часткі Нальшанскай зямлі і знаходзіўся ў васальнай залежнасці ад Міндоўга (па загаду апошняга Даўмонт выступае ў ваенны паход). Як сведчаць крыніцы, Даўмонт стаў ініцыятарам і выканаўцам замаху, помсцячы за асабістую крыўду. Калі ў Міндоўга памерла жонка, той запрасіў на пахаванне яе сястру, быўшую замужам за Даўмонтам. Калі швагерка прыехала, Міндоўг затрымаў яе ў сябе, спаслаўшыся на наказ сястры перад смерцю: "сестра твоя умираючи велъла ми тя пояти за ся; тако рекла, ать иная дътій не цвълить"[379]. Даўмонт не меў сілы, каб адкрыта выступіць супраць крыўдзіцеля і быў змушаны сцярпець абразу, захаваўшы вонкавую паслухмянасць Міндоўгу. Аднак ён патаемна ўступіў у змову з уплывовым жамойцкім князем Транятай, які лічыўся саюзнікам Міндоўга, але меў віды на ўладу ў ВКЛ. Зручны момант наступіў, калі Міндоўг накіраваў свае войскі ў паход на Бранск. Даўмонт таксама павінен быў прыняць удзел у выправе, але нечакана павярнуў з дарогі назад, напаў на Міндоўга, забіў яго і двух малодшых сыноў вялікага князя: Рукля і Рэпекля. У выніку замаху на Літве і адначасова на Жамойці стаў княжыць Транята[380]. Сын Міндоўга Вайшэлк уцёк у недалёкі Пінск.

Смерць Міндоўга была пачаткам унутранага крызісу дзяржавы, які працягваўся некалькі гадоў. Зместам яго была барацьба за ролю кіраўніка дзяржавы. Асноўнымі дзеючымі асобамі выступалі князі балцкага паходжання. Аўкштотскія і жамойцкія кунігасы з'яўляліся на той час вельмі актыўнай палітычнай сілай. Іх баявыя вартасці высока цаніліся ў суседніх усходнеславянскіх гарадах-рэспубліках. Напрыклад, Полацк запрасіў да сябе Таўцівіла, Пскоўская рэспубліка прыняла і пасадзіла на княскі стол уцекача Даўмонта. Пінск і Наваградак добраахвотна ваююць на баку Вайшэлка. Аднак уласных сіл кунігасаў было недастаткова, каб заняць кіруючую ролю ў дзяржаве. Поспех у змаганні забяспечваўся падтрымкай, у тым ліку і збройнай, усходнеславянскага складніка дзяржавы.

---

[379] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 859-860.
[380] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 860.

Цікава, што ўсе галоўныя ўдзельнікі гэтай барацьбы знаходзіліся між сабой у роднасных сувязях. Вядома, што Таўцівіл і Эрдзівіл былі пляменнікамі (сынамі брата) Міндоўга. Братам апошняга (невядома ці адзіным) быў Даўспрунк. Адсюль даследчыкі прынялі, што Таўцівіл і Эрдзівіл з'яўляліся сынамі Даўспрунка. Вораг Міндоўга жамойцкі князь Вікінт названы ў летапісе дзядзькам Таўцівіла і Эрдзівіла. Адсюль вывелі, што ён быў жанаты на сястры Даўспрунка і Міндоўга. Жонка валынскага князя Данілы Раманавіча таксама паходзіла з гэтага ж роду - была сястрой Таўцівіла і Эрдзівіла, г. зн. дачкой Даўспрунка. Транята названы ў летапісе сынам сястры Міндоўга і братам Таўцівіла[381]. На падставе гэтай інфармацыі ўзнікла дапушчэнне, што Транята мог быць сынам Вікінта[382] і г.д.

У поўнай адпаведнасці з сярэднявечнай практыкай палітычнай барацьбы забойства Міндоўга пацягнула за сабой шэраг іншых. Мэтай была ўлада над усёй краінай, таму прэтэндэнты забівалі сапернікаў не зважаючы на этнічную ці кроўную роднасць. Траняце яшчэ ўдалося расправіцца з Таўцівілам, які быццам сам рыхтаваў замах на брата, але быў выдадзены сваім полацкім баярынам Пракопам. Адбылося гэта дзесьці зімой 1263/1264 г., усяго праз некалькі месяцаў пасля забойства Міндоўга. Транята пажадаў ад палачанаў выдачы сына Таўцівіла, але тыя дапамаглі яму ўцячы ў Ноўгарад[383].

Гаспадаранне Траняты скончылася вельмі хутка - у тым жа 1264 г., калі яго забілі слугі Міндоўга. Паводле інфармацыі польскіх хронік, арганізатарам замаху быў Вайшэлк[384]. Ён часова скінуў манаскі строй і ўступіў у

---

[381] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 815; Стб. 735; Стб. 815, 817; Стб. 815; Стб. 860-861.

[382] Пётр Дзюзбург называе Траняту сынам Міндоўга, што не адпавядала рэчаіснасці. Dusburg. S. 125-126: "Trinota, filius regis Lethowinorum". Напэўна, за больш дакладную трэба прыняць інфармацыю валынскага летапісца (аналагічна ў Яна Длугаша), назваўшага Траняту сынам сястры Міндоўга і братам Таўцівіла (гл. ПСРЛ. Т. 2. Стб. 860-861). Дэталёва аб сваяцтве гл.: Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 55-58.

[383] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 860-861; НПЛ С. 84, 313.

[384] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 861; LR. S. 164; Rocznik kapitulny krakowski. S. 808; Rocznik Krasińskich // MPH. Lwow, 1873. T. 3. S. 133.

барацьбу за бацькоўскі трон. Поспех яму забяспечыла падтрымка Пінска і Наваградка. Пінчукі далі яму войска, і Вайшэлк накіраваўся ў Наваградак, дзе да яго далучылася яшчэ і мясцовая дружына. На чале аб'яднанага войска Вайшэлк уступіў у Літоўскую зямлю. Гэты прыклад свядомай і рашучай падтрымкі князя-ўцекача сведчыць аб актыўным удзеле ўсходніх славян у пабудове ВКЛ. Аднак паколькі ён не зусім, мякка кажучы, адпавядае даўняму ўяўленню пра мясцовых славян як пасіўных аб'ектах летувіскай экспансіі, то гэты эпізод генезы ВКЛ у гістарыяграфіі звычайна ўпамінаецца толькі мімаходзь.

Падтрыманы ў Літоўскай зямлі паплечнікамі і прыхільнікамі бацькі, Вайшэлк заняўся фізічнай ліквідацыяй ворагаў. Сярод яго ахвяр летапіс называе і Астафія Канстанцінавіча, былога ваяводу Міндоўга. Відавочна, скарыстаўшы папярэдні вопыт, Вайшэлк імкнуўся навесці парадак і замацаваць свае пазіцыі ў дзяржаве з дапамогай фармальнага падпарадкавання паўднёваму суседу. Ён, па сутнасці, вярнуўся да сістэмы, існаваўшай перад 1258 г. Вайшэлк прызнае сябе васалам Васількі Раманавіча (называе яго бацькам) і прымае на княжанне ў Літву Шварна Данілавіча (жанатага з яго сястрой) ужо як свайго васала (называе яго сынам)[385]. Атрымаўшы ў дапамогу яшчэ валынскую дружыну, Вайшэлк разам са Шварнам у 1265 г. заваёўвае Дзяволтву і Нальшаны[386]. Забойца Міндоўга Даўмонт уцякае са сваім родам і дваром у Пскоў (1265 г.), дзе будзе доўга і верна служыць на пасадзе служылага князя[387].

З апісання гэтых падзей мы можам вызначыць прыблізную тэрыторыю дзяржавы часоў Міндоўга – Вайшэлка. Да яе належаць славянская частка Панямоння і частка Аўкштоты - уласна Літоўская зямля. Іншыя землі Аўкштоты, як бачым, даводзілася прыводзіць да пакорнасці. Такім чынам, ядро ВКЛ ад самага пачатку было біэтнічным і асноўную частку яго складалі ўсходнеславянскія землі Панямоння.

---

[385] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 863, 867.
[386] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 863.
[387] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 861.

Нейкі час (другая палова 1264 - 1267 гг.) Вайшэлк княжыць разам са Шварнам. Аб цеснай сувязі ВКЛ з Валынню ў гэты час сведчыць канфлікт з мазавецкім князем Баляславам Сарамлівым. Той ідзе вайной на галіцка-валынскія землі і тлумачыць гэта ўдзелам вояў Шварна ў выправе ліцвінаў на Мазовію (першая палова 1266 г.)[388]. Як глыбока асабістае рашэнне выглядае чарговы (і апошні) адыход Вайшэлка ад улады і вяртанне ў манастыр. Паводле летапісу, на ўгаворы Шварна застацца Вайшэлк адказвае: "земля ти опасена"[389].

У 1267 г. на Валыні быў забіты Вайшэлк. Летапісец паведамляе, што Леў Данілавіч, будучы на падпітку пасля сумеснага піру, уласнаручна засек Вайшэлка быццам за тое, што той перадаў княжанне ў ВКЛ не яму, Льву, а Шварну. Той памёр неўзабаве пасля смерці Вайшэлка. Усходнеславянскае паходжанне вялікага князя Шварна Данілавіча і факты свядомага і актыўнага ўдзелу пінчукоў і наваградцаў у важнейшых палітычных падзеях працэсу дзяржаваўтварэння сведчаць на карысць версіі біэтнічных, а не выключна балцкіх пачаткаў дзяржавы.

### 3.2.2. Трайдэн і нараджэнне новай дынастыі (1269/70-1315 гг.)

Пасля забойства Вайшэлка і смерці ненамнога перажыўшага яго Шварна на чале дзяржавы становіцца Трайдэн. Адбылося гэта каля 1269/70 г. Наступныя паўстагоддзя - найменш даследаваны перыяд гісторыі ВКЛ. Недахоп інфармацыі аб унутраным жыцці дзяржавы выглядае амаль катастрафічна. Толькі прыблізна ўдаецца акрэсліць дату смерці вялікага князя Шварна Данілавіча, час гаспадарання Трайдэна і Віценя. Увогуле невядома, хто кіраваў краінай пасля Трайдэна ў 80-я гады 13 ст. Пакрытыя змрокам пачаткі новай дынастыі. Нават імя яе заснавальніка - бацькі Віценя і Гедыміна нельга лічыць дакладна ўстаноўленым. Аб унутраным стане дзяржавы ў тыя часы можна рабіць высновы толькі на падставе

---

[388] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 864.

[389] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 867.

інфармацыі пра знешнепалітычную дзейнасць. Важнейшай крыніцай гэтай інфармацыі з'яўляюцца крыжацкія хронікі.

У знешняй палітыцы ВКЛ апошніх дзесяцігоддзяў 13 ст. на першае месца паступова выступаюць адносіны з Тэўтонскім ордэнам. Барацьба з Ордэнам запатрабавала ад ВКЛ мабілізацыі ўсіх сіл і рэсурсаў і, несумненна, значна паўплывала на далейшае фармаванне ўнутранага ладу дзяржавы.

Характар і спосабы ажыццяўлення знешнепалітычных акцый ВКЛ пад кіраваннем Трайдэна адназначана сведчаць аб унутранай стабільнасці Вялікага Княства. Можа быць, суседнія храністы амаль не пісалі пра ўнутраныя справы Літвы таму, што не бачылі там нічога цікавага: якога-небудзь значнага расколу ці міжусобнай вайны.

Для валынскага летапісца вялікі князь Трайдэн - "оканьный и безаконьный". Аднак усходнеславянскія гарады Панямоння адназначна яго падтрымліваюць. Напрыклад, гарадзенцы мужна бароняцца ад валынянаў (этнічна блізкіх) і па загаду вялікага князя выступаюць у паход на Драгічын і жорстка яго разбураюць. У той жа час Трайдэн, падобна як і яго папярэднікі, не меў цвёрдай улады над Аўкштотай, аб чым сведчыць канфлікт з нальшанскім нобілем Суксэ. Вялікі князь выступае супраць яго з войскам і выганяе з Нальшанаў за хаўрусніцтва з Лівонскім ордэнам.

Прыход Трайдэна на становішча кіраўніка дзяржавы вельмі нагадвае сітуацыю з Міндоўгам. Зноў адбываецца, дакладней працягваецца, балта-славянскі саюз. Памяняліся толькі некаторыя дзеючыя асобы, а схема застаецца ранейшай: **славянскія землі Панямоння + родавыя ўладанні моцнага кунігаса ва "ўласна Літоўскай зямлі"** (карта № 5). Толькі на гэты раз вядома, дзе знаходзілася аўкштоцкае ўладанне вялікага князя. Цэнтрам яго было Кернава - буйное паселішча, магчыма, нават горад, як засведчылі археалагічныя раскопкі. ВКЛ у часы Трайдэна выступае як моцная ўнутрана стабільная дзяржава, здольная весці актыўную знешнюю палітыку.

Некалькі цяжкіх паражэнняў ад войск ВКЛ панеслі лівонскія рыцары. Зімой 1270 г. ліцвінскае войска ўвай-

шло ў Лівонію, ландмайстар спрабаваў затрымаць яго, але зложыў галаву ў бітве разам з некалькімі дзесяткамі рыцараў[390]. У тым жа годзе загінуў у баі яго намеснік.

Як пагроза для паўночнай мяжы ВКЛ паўстаў у 1275-1276 гг. на Дзвіне лівонскі замак Дзюнабург (Даўгаўпілс). Трайдэн некалькі разоў спрабаваў яго ўзяць, але кожны раз быў вымушаны адступаць[391]. Урэшце ён захапіў Ерсіку, Дзюнабург аказаўся адрэзаным ад Лівоніі, і лівонцы аддалі яго ВКЛ узамен за Ерсіку, яшчэ даплаціўшы нейкую суму грошай. Зімой 1278/79 г. лівонцы разам з атрадам датчан з Рэвеля дайшлі да Кернава, апустошыўшы родавае ўладанне Трайдэна. Але на зваротнай дарозе крыжакоў дагналі і разбілі. У баі загінулі іх правадыры: ландмайстар Эрнст Расбург і камандзір дацкага атрада Эйлард Хобетц[392]. У Земгаліі пасля гэтай бітвы распачалося паўстанне супраць Ордэна, падтрыманае Трайдэнам. Каля 1276-1277 гг. Трайдэн прыняў уцёкшых ад немцаў прусаў і пасяліў іх у Гародні і Слоніме.

Войскі ВКЛ неаднаразова хадзілі паходамі на Польшчу. У 1273 г. пацярпела Люблінская зямля, у 1277 г. быў арганізаваны напад на Ленчыцкую зямлю. Мазовія - бліжэйшы заходні сусед - шукала міру з ВКЛ. У 1279 г. адбыўся шлюб плоцкага князя Баляслава з дачкой Трайдэна Гаўдэмундай, атрымаўшай пры хрышчэнні імя Соф'я. Адзін з трох сыноў, народжаных у гэтым шлюбе, быў названы імем дзеда па матцы. З цягам часу падобныя сямейныя сувязі мазавецкіх князёў з ліцвінскімі становяцца традыцыяй[393].

Складана развіваліся ў гэты час адносіны ВКЛ з Галіцка-Валынскай дзяржавай. Трайдэн нейкі час захоўваў мір з сынам Данілы Раманавіча Львом, але адначасова канфліктаваў з Уладзімірам Васількавічам. Паводле летапісца, прычынай было тое, што бацька Уладзіміра "убиль

---

[390] LR. S. 181; Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. С. 410.

[391] LR. S. 188-189.

[392] LR. S. 191-194.

[393] Wyrozumski J. Litwa w polityce Piastów // Acta Universitatis Nicolai Copernici. Historia 26. Toruń, 1992. S. 60.

на войнах 3 браты Тройденеви"[394]. На Вялікдзень 1275 г. пасланая Трайдэнам гарадзенская дружына нечакана захапіла Драгічын, які належаў да ўладанняў Льва Данілавіча. Леў звярнуўся за дапамогай у Арду. Татары паднялі супраць ВКЛ шэраг рускіх князёў, у тым ліку бранскага і смаленскага. Удзел у паходзе прынялі таксама (відавочна, як і раней, па прымусу) пінскія і тураўскія князі. Галоўным поспехам паходу было ўзяцце татарамі і дружынай Льва вакольнага горада Наваградка. Археолагі лічаць, што ад таго часу пачаўся доўгі заняпад жыцця ў гэтым раёне горада. Ваенныя дзеянні працягваліся і ў 1276 г. Галіцка-валынскія войскі прыходзілі да Слоніма, узялі Турыйск, брат Трайдэна Сірпуцій пустошыў на Валыні ваколіцы Каменя. Дзесьці ў 1276/77 гг. праціўнікі памірыліся.

Новы паход на Літву ў 1277 г. валынскі летапісец трактуе як ініцыятыву Арды. Галіцка-валынскія войскі і татары ідуць на Наваградак і Гародню. На дарозе між Ваўкавыскам і Гародняю прусы і барцяне (паселеныя Трайдэнам ля Гародні) ноччу напалі і разбілі перадавы атрад валынянаў. Надышоўшае асноўнае татара-валынскае войска штурмам захапіла мураваную вежу горада, якую баранілі прусы. На гэтым вайна закончылася і валыняне адышлі, дамовіўшыся аб вяртанні сваіх палонных[395]. Здаецца, гэты паход быў апошняй наступальнай акцыяй слабеючай Галіцка-Валынскай дзяржавы ў Панямонні. Ад гэтага часу яна магла толькі абараняцца.

У канцы гаспадарання Трайдэна яго дзяржава выглядала больш моцнай, чым у пачатку 70-х гадоў 13 ст. Адзіным указаннем на час смерці Трайдэна з'яўляецца паведамленне Галіцка-Валынскага летапісу, што ён княжыў 12 гадоў. Адсюль вынікае верагодная дата смерці - каля 1282 г.

Адрэзак часу між 1281/82 і 1295/96 гг. - аж да ўсталявання на чале дзяржавы Віценя - і сёння застаецца бадай што самым "цёмным" перыядам гісторыі ВКЛ. Інфармацыя крыніц настолькі няпоўная і адрывачная,

[394] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 871.
[395] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 877-878.

што дакладна невядома нават, хто быў на чале дзяржавы. Тое, што мы ведаем аб жыцці краіны ў гэты час, - амаль выключна інфармацыя аб яе знешнепалітычнай дзейнасці. Значна бядней становяцца звесткі Галіцка-Валынскага летапісу, што звязана са спадам актыўнасці галіцка-валынскіх князёў на Панямонні (сам летапіс быў закончаны на пачатку 90-х гадоў 13 ст.). Затое рэзка вырасла ўвага да Літвы з боку прыбалтыйскіх нямецкіх храністаў. Прычына тут таксама відавочная: барацьба з ВКЛ становіцца адной з важнейшых задач знешняй палітыкі Тэўтонскага ордэна.

У зафіксаваных крыніцамі знешнепалітычных акцыях ВКЛ выразна адчуваецца ўпэўненае кіраўніцтва з цэнтра, што дае падставы даследчыкам казаць аб далейшым унутраным умацаванні дзяржавы. Няцяжка зразумець, што ўнутранае з'яднанне было выклікана неабходнасцю мабілізацыі сіл для змагання з Тэўтонскім ордэнам. Якраз у гэты час, з 1283 г., пасля канчатковага пакарэння прускіх аўтахтонаў, у вайну ўключылася пруская - галоўная частка ордэнскай дзяржавы. Тэўтонскі ордэн з усёй нямецкай грунтоўнасцю прыступіў да рэалізацыі важнейшай стратэгічнай задачы (якую яму так і не ўдалося вырашыць) - злучэння па сушы праз Жамойць сваіх прускай і лівонскай філій.

Дзеля канцэнтрацыі сіл на важнейшым кірунку ВКЛ падтрымлівае мірныя адносіны з Галіцка-Валынскай дзяржавай, нават коштам тэрытарыяльных уступак. З Галіцка-Валынскага летапісу вядома, што ў 1282 г. на службе князя Уладзіміра Васількавіча знаходзіўся слонімскі князь Васілька. У 1289 г., як паведамляе тая ж крыніца, літоўскія князі Будзікід і Будзівід аддаюць князю Мсціславу Уладзіміравічу свой горад Ваўкавыск, "абы с ними миръ держалъ"[396].

Да 1290 г. войскі ВКЛ некалькі разоў нападалі на польскія землі (1283, 1284, 1285 гг.), а на ўсходзе - на Цвярскую (1285 г.) і Ноўгарадскую землі (зіма 1285/86 г.)[397]. З сярэдзіны 90-х гадоў маюцца сведчанні пра захаванне

---

[396] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 884, 933.

[397] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 146-147; ПСРЛ. Т. 1. С. 483; НПЛ. С. 326.

прыязных кантактаў ВКЛ з мазавецкім князем Баляславам[398]. Рэдкімі становяцца паходы ў глыб Польшчы, яшчэ радзей на ўсходнеславянскія землі. Сілы збіраліся ля паўночнай і паўночна-заходняй мяжы.

Закончыўшы пакарэнне Прусіі, ордэнскія войскі адразу ж у 1283 г. арганізавалі паход на Літву з тэрыторыі Прусіі. У 1284 г. прускія рыцары ўпершыню напалі на Гародню[399]. У 1282-1285 гг. ліцвіны пустошылі ўладанні Лівонскага ордэна над Дзвіной. У першых месяцах 1283 г. войскі ВКЛ напалі на Самбію. Пад час адной з сутычак (у сакавіку 1287 г. з земгаламі па другой крыніцы з ліцвінамі) загінуў чарговы лівонскі ландмайстар[400].

У першыя месяцы 1289 г. (удакладненне даты Генрыка Пашкевіча), як паведамляе Галіцка-Валынскі летапіс, "ходиша Литва вся и Жемоть вся на Нъмцъ къ Ризи" (Рыфмаваная хроніка ўдакладняе: жамойты і земгалы). Ордэнскія войскі скарысталі зручны момант і правялі паспяховую атаку на землі земгалаў і жамойтаў[401].

З 1290 г. Ордэн актывізуе ваенныя дзеянні супраць ВКЛ, і наступныя два гады над Нёманам вядуцца ўпартыя баі з пераменным поспехам. Перад зімой 1291/92 г. ордэнскае камандаванне рыхтавала вялікі паход адначасова з Прусіі і Лівоніі, ход якога нам застаўся невядомы. Рыфмаваная хроніка паведамляе пра буйны паход крыжакоў на Літву (напэўна, на Жамойць) дзесьці ў тыя ж гады і два выпады ў адказ з боку ВКЛ[402].

Між 1289 і 1291 гг. у крыніцах узгадваецца некалькі ліцвінаў з тытулам "кароль" (rex - у нямецкіх хроніках) і "князь" (у рускіх летапісах). Пад 1289 г. Галіцка-Валынскі летапіс узгадвае літоўскіх князёў-братоў Будзікіда і Будзівіда. Лівонскі ландмайстар у сваім лісце ў лістападзе 1290 г. называе караля Бутэгейдэ ("terram regis Butegeyde"). З Рыфмаванай хронікі таксама каля 1290 г.

---

[398] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 158.

[399] Dusburg. S. 146, 144, 147; Paszkiewicz H. Regestra Lithuaniae. Varsoviae, 1930. T. 1. № 617.

[400] LR. S. 237-245.

[401] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 896-897; Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 149; LR. S. 253-254,256-258.

[402] LR. S. 270, 273; Paszkiewicz H. Regestra Lithuaniae. № 696-697.

вядомы кароль Масэке (“Maseke ir kunic hiez”). Нарэшце, Пётр Дзюзбург паведамляе ў запісе пад 1291 г. пра караля Літвы Пукувера - бацьку Віценя. (“Pucuwerus rex Lethowie... filium suum Vithenum”)[403]. Шляхам шэрагу філалагічных аналогій і дапушчэнняў, з улікам таго, што балцкія імёны ў славянскіх і нямецкіх крыніцах скажаюцца, даследчыкі вывелі з імя Пукувер форму Бутумер (Butumer)[404].

У гістарыяграфіі прапаноўвалася лічыць названых вышэй Путувера (Бутумера), Бутэгейдэ і Будзікіда адной і той жа асобай. Вось яшчэ адзін больш позні варыянт: Бутэгейдэ - то Будзікід, а Будзівід атаясамляецца з Пукуверам[405]. Масэке, па меркаванню Генрыка Пашкевіча, мог быць адным з моцных кунігасаў - памочнікам і дарадцам вялікага князя. Адсутнасць больш дакладнай інфармацыі не дазваляе, аднак, пайсці далей здагадак і дапушчэнняў, часам даволі рызыкоўных.

Не высветлена таксама паходжанне пачынальніка новай дынастыі Пукувера (Бутумера), сынамі якога былі наступныя вялікія князі Віцень і Гедымін. Дзюзбург некалькі разоў упамінае аб замку Гедыміна (castri Gedimini). На гэтай інфармацыі грунтуецца гіпотэза аб паходжанні дынастыі з Жамойці[406]. Ход разважанняў яе аўтараў наступны. Паколькі на названы замак часта нападалі крыжакі, то гэтае родавае ўладанне Пукувера, а потым яго сыноў павінна было знаходзіцца недалёка ад граніцы з Ордэнам, г. зн. у паўднёва-заходняй частцы Жамойці. Аднак Генрык Пашкевіч слушна ўказаў на тое, што ў абароне Жамойці (як сведчыць Дзюзбург і іншыя

---

[403] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 933; Preußisches Urkundenbuch. B. 1. Hälfte 2. ed. A. Seraphim. Königsberg, 1909. N 568. P. 355-365; Paszkiewicz H. Regestra Lithuaniae. № 693; LR. S. 273; Dusburg. S. 155;

[404] Грушевський М. Історія України-Руси. Т. 4. С. 13, спас. 3.

[405] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 151-152; Гудавичюс Э. По поводу так называемой "диархии" в Великом княжестве Литовском // Feodalisms Baltijas regiona. Riga, 1985. L. 36; Ochmański J. Historia Litwy. S. 52.

[406] Chodynicki K. Geneza dynastii Giedymina // Kwartalnik Historyczny. 1926. S. 561-564; Zajączkowski S. Przyczynki do hipotezy o pochodzeniu dynastii Giedymina ze Żmudzi // Ateneum Wileńskie. 1927. S. 409-412.

крыніцы) акрамя саміх жамойтаў прымала непасрэдны ўдзел таксама і ВКЛ. Таму Гедымін, таксама як і Віцень, мог быць пастаўлены вялікім князем на чале залогі пагранічнага замка, што адпавядала прынятай у гэтай дзяржаве практыцы[407]. Праблема паходжання знакамітай у гісторыі Еўропы дынастыі надалей застаецца адкрытай. Нельга выключыць таксама магчымасць прамых вытокаў новай дынастыі ад вялікага князя Трайдэна.

Хто б ні кіраваў дзяржавай у гэты час, ён мусіў канцэнтраваць увагу на галоўнай задачы - вайне з Ордэнам. Першая палова 90-х гадоў 13 ст. (гаспадаранне вялікага князя Пукувера) вызначалася вялікай ваеннай актыўнасцю Ордэна. З 1292 па 1295 г. немцы кожны год нападалі на Жамойць, а ў 1295 г. хадзілі яшчэ і на Гародню. Гэты горад быў перадавым пунктам абароны цэнтральнай вобласці дзяржавы - Літвы і важнейшай базай ВКЛ для арганізацыі паходаў на Прусію. Таму ён пастаянна станавіўся аб'ектам атак крыжакоў. Праводзячы актыўную абарону супраць Ордэна, войскі ВКЛ у гэты час два разы нападалі на Польшчу. У 1291 г. яны пустошылі Куяўскую зямлю, а ў 1294 г. быў праведзены паход на Ленчыцкую зямлю, якім, верагодна, кіраваў сын Пукувера Віцень. У баі з ліцвінскім войскам загінуў ленчыцкі князь Казімір[408].

Цяжкую задачу арганізацыі абароны ад насядаючага Ордэна пераняў ад бацькі новы вялікі князь - Віцень. Ордэнскі храніст Пётр Дзюзбург упершыню называе Віценя каралём у 1296 г. Лічыцца, што кіраваць дзяржавай ён пачаў, верагодна, у 1295 г.[409] У часы Віценя крыніцы зрэдку ўпамінаюць аб паходах ліцвінаў на Польшчу: на Малапольшчу - 1295 г., Добжыньскую зямлю - 1300 г., пад Люблінам дапамагалі валынянам - 1302 г., дайшлі да Каліша і Ставішына - 1306 г.[410] Не чуваць аб нападах у гэты час на ўсходнеславянскія землі.

Барацьба з крыжакамі становіцца асабліва напружанай у пачатку 14 ст. Ад 1300 г. да канца гаспадарання

---

[407] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 153-155.
[408] Paszkiewicz H. Regestra Lithuaniae. № 717-718; Dusburg. S. 155-156.
[409] Dusburg. S. 163; Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 157.
[410] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 163.

Віценя ордэнскія войскі правялі больш дваццаці паходаў з тэрыторыі Прусіі на Жамойць і Літву, у першую чаргу на Гародню, даходзячы да Наваградка і Салечнікаў. Інтэнсіўнасць іх аперацый уражвае: у сярэднім каля двух паходаў у год, не лічыўшы дзейнасці на пагранiччы ВКЛ рабаўнічых банд, якія вялі сваю, часта не рэгістраваную вайну.

ВКЛ упарта абараняла граніцу з Прусіяй. Па пагранічных замках стаялі моцныя залогі, пашкоджаныя крыжакамі ўмацаванні адбудоўваліся адразу пасля іх адыходу, арганізоўваліся пагоні за адыходзячым ворагам[411]. Час ад часу (але радзей за крыжакоў) праводзіліся паходы ў глыб Прусіі. Галоўны ўдар Віцень скіраваў, аднак, на Лівонію. Вялікі князь умела выкарыстаў даўні канфлікт паміж рыжанамі і Лівонскім ордэнам. Скарыстаўшы прыём Міндоўга, Віцень дакляраваў прыняцце каталіцтва, што дапамагло яму заключыць у 1297 г. пагадненне з горадам Рыгай і рыжскім архіепіскапам. На гэты раз яно было выразна скіравана супраць Ордэна. Рыжане пайшлі на саюз з ВКЛ, паколькі самі не маглі супрацьстаяць прэтэнзіям Лівонскага ордэна на манапольны кантроль над ніжняй Дзвіной. У 1298 г. войскі Віценя дапамаглі рыжанам знішчыць матэрыялы, падрыхтаваныя крыжакамі для перакрыцця плавання па Дзвіне. Потым прыбыў сам вялікі князь і захапіў замак Каркхаус. На зваротным шляху Віцень нанёс цяжкае паражэнне атакаваўшым яго рыцарам. Каб паправіць сітуацыю, ордэнскае кіраўніцтва накіравала ў Лівонію падмацаванні з Прусіі і адначасова правяло атаку на Жамойць. Восенню таго ж года ліцвіны напалі на Хельмінскую зямлю, а ў наступным годзе пустошылі Натангію[412].

Рыжане ў 1306 г. абяцалі парваць саюз з Літвой, а ў 1307 г. разам з войскамі ВКЛ біліся з Ордэнам пад Рыгай. Рыжска-ліцвінскі саюз трываў, відавочна, да канца гаспа-

---

[411] Густынскі летапіс (17 ст.) паведамляе, што менавіта Віцень прыняў дзяржаўны герб ВКЛ "Пагоня" (гл.: ПСРЛ. Т. 2. 1843. С. 346).

[412] Dusburg. S. 163, 159, 164-165; Die Annalen von Dünamünde // Neues Archiv der Gesellschaft für ältere deutsche Geschichtskunde. Hannover, 1883. S. 615; Herman de Wartberge // SRP. T. 2. P. 54-56, 149.

дарання Віценя, бо яшчэ ў 1313 г. мясцовыя біскупы спрабавалі яго разбурыць[413]. У сваю чаргу Ордэн стараўся падбухторыць супраць ВКЛ некаторых жамойцкіх кунігасаў. Падобная тактыка неаднаразова забяспечвала яму поспех падчас пакарэння Прусіі. Відавочна, і тут яна прынесла пэўныя вынікі. Па меншай меры Дзюзбург узгадвае пра сутычкі жамойтаў з ліцвінамі[414].

Не захавалася дакладных звестак пра абставіны смерці Віценя. Апошні раз ён упамінаецца ў крыніцах пад 1315 г., калі ў верасні гэтага года кіраваў аблогай крыжацкага замка Хрыстмемеля. Супярэчліва выглядаюць паведамленні некаторых крыніц аб яго гібелі ў баі з крыжакамі ці смерці ад маланкі[415].

Галоўны вынік гаспадарання Віценя быў аднолькава важны як для далейшых лёсаў ВКЛ, так і ўсёй Усходняй Еўропы. Пад яго кіраўніцтвам дзяржава здолела выстаяць у вайне з Тэўтонскім ордэнам. Арганізацыя паспяховага адпору адладжанай, разагнанай на поўную моц ордэнскай ваеннай машыне кардынальна паўплывала на ўнутранае і знешняе развіццё балта-славянскай дзяржавы. У часы наступніка Віценя ягонага брата Гедыміна ВКЛ выступае моцнай дзяржавай з вялікім міжнародным аўтарытэтам. Яна з лёгкасцю далучае да сябе буйныя ўсходнеславянскія землі, якія шукалі ў гэтым моцным і роднасным дзяржаўным арганізме надзейную абарону ад татараў. Сталіца Гедыміна Вільня становіцца прэтэндэнтам на спадчыну Кіева. Але гэтая тэма знаходзіцца ўжо па-за межамі нашага даследавання.

---

[413] Liv-, Est- und Curländisches Urkundenbuch. T. 2. N 714. P. 17; Die Annalen von Dünamünde S. 615; Liv-, Est- und Curländisches Urkundenbuch. T. 2. N. 644. P. 78-80; N 645. P. 81.

[414] Dusburg. S. 159.

[415] Dusburg. S. 181; Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. S. 250.

# Заключэнне

Так званая балцкая канцэпцыя генезісу ВКЛ, якая сёння з'яўляецца агульнапрынятай, узнікла ў ходзе навуковай дыскусіі паміж расійскімі і польскімі даследчыкамі ў канцы 70-х гадоў 19 - пачатку 20 ст. Канчатковае яе афармленне адбылося пасля 2-й сусветнай вайны ў працах Уладзіміра Пашуты і шэрагу летувіскіх гісторыкаў.

Паводле гэтай канцэпцыі, пачаткам ВКЛ было ўтварэнне этнічна балцкай (летувіскай) раннефеадальнай дзяржавы, якую даследчыкі называюць канфедэрацыяй, ці саюзам летувіскіх земляў. Шляхам захопу буйных усходнеславянскіх тэрыторый гэтае балцкае дзяржаўнае ўтварэнне пераўтварылася ў ВКЛ - балта-славянскую дзяржаву. Летувісы ў ёй складалі нязначную меншасць як па колькасці насельніцтва, так і па тэрыторыі (ад 10 да 20 %), але былі палітычна дамінуючай кіруючай сілай.

Падмуркам гэтай канцэпцыі з'яўляецца пастулат аб шматвяковай балта-славянскай канфрантацыі, якая праяўлялася ў "змаганні за тэрыторыі". На гэтым пастулаце збудавана ўся канцэпцыя, якая прадстаўляе ўтварэнне ВКЛ як вынік перамогі аднаго з сапернікаў, менавіта балтаў над славянамі. У канцы 80-х гадоў 20 ст. беларускі даследчык М.Ермаловіч "вывярнуў кашулю на левы бок" і прадставіў пачатак ВКЛ як заваёву балцкай Літвы ўсходнеславянскім горадам-дзяржавай Наваградкам.

Шырокамаштабныя археалагічныя і лінгвістычныя даследаванні другой паловы 20 ст. паказалі памылковасць тэзы аб міжэтнічнай канфрантацыі на тэрыторыі Беларусі і сцвердзілі, што балта-славянскія адносіны насілі мірны характар. Гістарычнае ядро ВКЛ - Верхняе і Сярэдняе

Панямонне - уяўляла сабой міжэтнічную кантактную зону, заселеную змешаным балта-славянскім насельніцтвам. Стварэнне новай дзяржавы не спыніла працэс балта-славянскага ўзаемадзеяння і не змяніла яго характару.

Калі разбураецца падмурак, патрэбна рэканструяваць увесь будынак. Абвяржэнне галоўнага пастулата змушае да перагляду ўсёй канцэпцыі генезісу ВКЛ і прывядзення яе ў адпаведнасць сучаснаму ўзроўню гістарычных ведаў.

Даказанне тэзы аб мірным характары балта-славянскіх адносін дазволіла вытлумачыць існаванне шэрагу гістарычных фактаў, якія былі даўно вядомы гісторыкам, аднак ігнараваліся як не адпаведныя балцкай канцэпцыі генезісу ВКЛ. Напрыклад, стала ясна, чаму гістарычнае ядро ВКЛ (харонім "Літва") складалася як з этнічна балцкіх, так і ўсходнеславянскіх (пераважна) земляў. Стала зразумелым, чаму ніводная пісьмовая крыніца не зафіксавала ніводнага выпадку не толькі ваеннага супрацьстаяння, але любога іншага канфлікту паміж балцкімі і славянскімі насельнікамі Панямоння. Таксама высняецца, чаму на першым этапе існавання дзяржавы самымі надзейнымі саюзнікамі яе лідэра Міндоўга - балта па паходжанню былі ўсходнеславянскія гарады Панямоння, а не блізкія этнічна жамойты ці яцвягі. Вельмі важна, што становіцца зразумелым, чаму кіруючая дынастыя хоць мела балцкае паходжанне, тым не менш не спрабавала спыніць працэс асіміляцыі балтаў усходнімі славянамі, а, наадварот, спрыяла яму, прыняўшы ўсходнеславянскую сістэму дзяржаўнай арганізацыі і старабеларускую мову ў якасці дзяржаўнай.

Урэшце даводзіцца прызнаць, што супярэчнасці між балцкай канцэпцыяй генезісу ВКЛ і шэрагам важных гістарычных фактаў, непасрэдна звязаных з працэсам дзяржаваўтварэння, у межах названай канцэпцыі вырашыць немагчыма. Таму адмова ад гэтай канцэпцыі ўяўляецца непазбежнай.

Спроба распрацоўкі новай версіі, больш адпаведнай сучаснаму ўзроўню гістарычных ведаў, стала зместам гэтай працы. Шляхам комплекснага аналізу пісьмовых, археалагічных і лінгвістычных крыніц аўтар прыйшоў да

канцэпцыі балта-славянскай дзяржавы, якая складаецца з наступных галоўных высноў:

- ВКЛ узнікла ў сярэдзіне 13 ст. у балта-славянскай кантактнай зоне (басейн Верхняга і Сярэдняга Нёмана - харонім “Літва”).

- Штуршком да пачатку працэсу дзяржаваўтварэння стала знешняя пагроза з боку Залатой Арды і Тэўтонскага ордэна.

- Існаванне раннефеадальнага балцкага дзяржаўнага ўтварэння (саюза ці канфедэрацыі) - папярэдніка ВКЛ нельга лічыць доказаным, яно, па ўсёй верагоднасці, міф.

- Пачаткам ВКЛ стаў, утвораны каля 1248 г. саюз усходнеславянскага горада Наваградка з балцкім нобілем Міндоўгам.

- ВКЛ з самага пачатку было біэтнічнай балта-ўсходнеславянскай дзяржавай з дамінаваннем усходнеславянскага элемента.

## Храналогія гаспадарання*
## першых вялікіх князёў літоўскіх

1248-1263 гг. Міндоўг

1263-1264 гг. Транята

1264-1267 гг. Вайшэлк

1267-1270 гг. Шварн Данілавіч

1270-1282 гг. Трайдэн

1282-1292 гг. Няма звестак

1292-1295 гг. Пукувер

1295-1316 гг. Віцень

1316-1341 гг. Гедымін

---

* Складзена на аснове наяўных - няпоўных, часам, ускосных пісьмовых даных, таму з'яўляецца прыблізнай.

# Спіс літаратуры

## Крыніцы


Галіцько-волиньский літопис. Львів, 1936. Ч. 1.

Генрих Латвийский. Хроника Ливонии. М.;Л., 1938.

Грамоты Великого Новгорода и Пскова. М.;Л., 1949.

Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов /Под ред. и с пред. А. Н. Насонова. М.;Л., 1950.

Повесть временных лет. М.;Л., 1950. Ч. 1.

Послания Гедимина. Вильнюс, 1966.

Псковские летописи /Под ред. А.Н.Насонова. М., 1955. Вып. 2.

ПСРЛ. СПб., 1843. Т. 2; наступныя расійскія выданні 2-га тома мелі месца ў 1871, 1908, 1923 і 1962 гг. У 1936 г. у Львове выйшаў украінскі пераклад летапісу, выкананы Т.Каструбай: Галицько-волинский літопіс. Львів, 1936. Ч. 1-2; Гл.таксама. Літопис руський /Пер. з давньорус. Л.Э.Махновця; Відп. ред. О.В.Мишанич. Київ, 1989.

SRP. Leipcig, 1861. Bd. 1; 1863. Bd. 2.

ПСРЛ. М., 1975. Т.32; М., 1980. Т. 35.

Русско-Ливонские акты /Изд. К.Е. Напьерский. СПб., 1868.

Die Annalen von Dünamünde // Neues Archiv der Gesellschaft für ältere deutsche Geschichtskunde. Hannover, 1883. S. 612-615; першае выданне ў: SRP. T. 2.

Annales Quedlinburgenses // Monumenta Germaniae Historica. Skriptorum. /Ed. G.H.Pertz. Hannoverae, 1839. T. 3. P. 22-90.

Codex diplomaticus Lithuaniae /Ed. E.Raczyński. Vratislaviae, 1845.

Codex epistolaris Vitoldi (1376-1430) /Ed. A.Prochaska. Cracoviae, 1882.

Die livländische Chronik Hermann's von Wartberge, übersetzt von E.Strehlke. Berlin;Reval, 1864.

Długosz Jan. Roczniki czyli kroniki sławnego Królestwa Polskiego. Warszawa, 1961. Ks. 1-2; Warszawa, 1974. Ks. 7-8.

*Dusburg*: Petri de Dusburg. Chronicon terrae Prussiae // SRP. Leipcig, 1861. Bd. 1. S. 3-219.

Herman de Wartberge // SRP. Bd. 2.

Kronika wielkopolska // MPH /Wyd. B. Kürbis. Warszawa, 1970. Seria 2. T. 8; расійскае выданне: "Великая хроника" о Польше, Руси и их соседях 11-13 вв. М., 1987.

Kronika Wiganda z Marburga. Poznań, 1842.

Liv-, Est- und Curländisches Urkundenbuch, nebst Regesten /Ed. F.G.Bunge. Reval, 1853. Bd. 1 (1093-1300).

Livländische Reimchronik /Her. von Leo Meyer. Padeborn, 1876.
Paszkiewicz H. Regestra Lithuaniae. Varsoviae, 1930. T. 1.
Preußisches Urkundenbuch /Ed. A. Seraphim. Königsberg, 1909. B. 1. Hälfte 2.
Rocznik kapitulny krakowski // MPH. Warszawa, 1961. T. 2. S. 779-816.
Rocznik kapituły poznańskiej. 965-1309 // MPH /Wyd. B.Kürbis. Warszawa, 1962. Seria 2. T. 6. S. 21-78.
Rocznik Krasińskich // MPH. Lwów, 1873. T. 3. S. 127-133.
Stryjkowski Maciej. Kronika Polska, Litewska, Żmudzka i wszystkiej Rusi. Wyd. 3. Warszawa, 1846. T. 1.
Stryjkowski Maciej. O początkach, wywodach, dzielnościach, sprawach rycerskich i domowych sławnego narodu litewskiego, żmudzkiego i ruskiego. Warszawa, 1978.
SRP. Leipcig, 1863. Bd. 2.
Vetera monumenta Poloniae et Lithuaniae ex tabulis Vaticanis deprompta /Ed. A.Theiner. Romae, 1860. T. I (1217-1409).
Vetera Monumenta Poloniae et Lithuaniae Gentiumque finitimarum Historiam illustrantia /Ed.A.Theiner. Romae, 1861. T. 2.

## Працы

Алексеев Л.В. Полоцкая земля. М., 1966.
Антонович В. Очерк истории Великого Княжества Литовского до половины 15 столетия. Киев, 1878.
Антонович В. Монографии по истории Западной и Юго-Западной России. Киев, 1885.
Археалогія і нумізматыка Беларусі: Энцыклапедыя. Мн., 1993.
Батура Р.К., Пашуто В.Т. Культура Великого княжества Литовского // Вопросы истории. 1977. № 4. С. 94-117.
Беларусь у Вялікім Княстве Літоўскім: Стэнаграма пасяджэнняў Міжнароднага круглага стала, якія адбыліся ў Менску 6-7 красавіка 1992 г. Мн., 1992. С. 121-124.
Белорусская археология: Достижения археологов за годы Советской власти. Мн., 1987.
Беляев И. История Полоцка или Северо-Западной Руси от древнейших времен до Люблинской унии. М., 1872. С. 77-80.
Бережков Н.Г. Хронология русского летописания. М., 1963.
Бірыла М.В., Ванагас А.П. Літоўскія элементы ў беларускай анамастыцы. Мн., 1968.
Боричевский И. О происхождении названия Литва и языке литовского народа // Журнал министерства народного просвещения. 1847. Декабрь. С. 272-314.
Видугирис А.Ю., Климчук Ф.Д. Некоторые вопросы этноязыковых процессов на балто-восточнославянском пограничье // Этнолингвистические балто-славянские контакты в настоящем и прошлом: (Предварит. материалы конф. 11-15 декабря 1978 г.) М., 1978.

Волкайте-Куликаускиене Р.К. Образование литовской народности (по данным археологии) // Советская этнография. 1979. № 3. С. 31-46.

Вольтер Э. Где искать землю Нальщанскую Ипатьевской летописи // Журнал министерства народного просвещения. 1900. Май-июнь. С. 195-201.

Вольтер Э.А. Город Мендовга, или где искать Летовию 13 века? СПб., 1910.

Воронин Н.Н. Древнее Гродно. М., 1954.

Ганцова С.К., Чамярыцкі В.А., Штыхаў Г.В. Сведкі беларускай мінуўшчыны (зборнік дакументаў і матэрыялаў па гісторыі Беларусі 6-15 стст.) Мн., 1996.

Гаучас П. К вопросу о восточных и южных границах литовской этнической территории в средневековье // Балто-славянские исследования. 1986. М., 1988. С. 195-213.

Голубовичи В. и Е. Кривой город Вильно // КСИИМК. 1945. Вып. 11. С. 114-125.

Гринавецкене Э., Мацкевич Ю.Ф., Романович Е.М., Чеберук Е.И. Лингвогеографические данные белорусских говоров о балто-славянских языковых контактах // Acta Baltico-Slavica. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1989. Т. 20. S. 325-332.

Гринблат М.Я. К вопросу об участии литовцев в этногенезе белорусов // Вопросы этнической истории народов Прибалтики. Труды Прибалтийской обьединенной комплексной экспедиции. М., 1959. Т. 1. С. 523-543.

Гринблат М.Я. Белорусы: Очерки происхождения и этнической истории. Мн., 1968.

Грицкевич А.П. Распределение магнатских и шляхетских владений в Белоруссии по их величине и этнической принадлежности владельцев (16 в.) // Вопросы истории. Мн., 1978. Вып. 5. С. 94-105.

Грушевський М. Історія України-Руси. Львів, 1905. Т. 3; Київ-Львів, 1907. Т. 4.

Грушевський М. Хронольогія подій Галіцько-Волинської літописи // Записки Наукового Товариства імени Шевченка. Львів, 1901. Т. 41. С. 1-72;

Гудавичюс Э. "Литва Миндовга" // Проблемы этногенеза и этнической истории балтов. Вильнюс, 1985. С. 219-227.

Гудавичюс Э. По поводу так называемой "диархии" в Великом княжестве Литовском // Feodālisms Baltijas regiona. Riga, 1985. L. 35-44.

Гумилёв Л.Н. От Руси к России: Очерки этнической истории. М., 1992.

Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М.; Л., 1962.

Гуревич Ф.Д. Об этническом составе населения древнего Новогрудка // Acta Baltico-Slavica. Białystok, 1969. R. 6. S. 219-222.

Гуревич Ф.Д. Детинец и окольный город древнерусского Новогрудка в свете археологических работ 1956-1977 гг. // Советская археология. 1980. № 4.

Гуревич Ф.Д. Древний Новогрудок. Л., 1981.

Дашкевич Н.П. Заметки по истории Литовско-Русского государства. Киев. 1885.

Дмитриева Р.П. Сказание о князьях владимирских. М.;Л., 1955.

Довнар-Запольский М.В. Основы государственности Белоруссии. Гродна, 1919; апошняе выданне: Доўнар-Запольскі М.В. Асновы дзяржаўнасці Беларусі. Мн., 1994.

Доўнар-Запольскі М.В. Гісторыя Беларусі. Мн., 1994 (першае выданне працы, забароненай для друку ў 1926 г.)

Думин С.В. Другая Русь (Великое княжество Литовское и Русское) // История Отечества: люди, идеи, решения. М., 1991. С. 76-126.

Еллинек Г. Право современного государства. Общее учение о государстве. СПб., 1903. Т. 1; польскае выданне: Jellinek G. Ogólna nauka o państwe. Warszawa, 1921.

Ермолович М. О местоположении Древней Литвы и некоторых других балтских земель на территории Белоруссии // Проблемы этнической истории балтов: Тезисы докладов межреспубликанской научной конференции. Рига, 1985. С. 69-72.

Ермаловіч М.І. Па слядах аднаго міфа. Мн., 1989; Выданне 2-е, дапоўненае: Мн., 1991.

Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды. Мн., 1990.

Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд. Мн., 1994.

Ермаловіч М. Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. Мн., 2000.

Жучкевич В.А. Краткий топонимический словарь Белоруссии. Мн., 1974.

Жучкевич В.А. Топонимические свидетельства древних волоков на водоразделах Днепра и рек бассейна Балтийского моря // Топонимика на службе географии. М., 1979. С. 50-56.

Жучкевич В.А. Общая топонимика. Мн., 1980.

Зверуго Я.Г. Археологические работы в Слониме // Беларускія старажытнасці. Мн., 1972. 248-289.

Зверуго Я.Г. Древний Волковыск. Мн., 1975.

Зверуго Я.Г. Славяне и балты в междуречье Верхнего Днепра и Среднего Немана // Проблемы этнической истории балтов: Тезисы докладов межреспубликанской научной конференции. Рига, 1985. С. 67-69.

Зверуго Я.Г. Верхнее Понеманье в 9-13 вв. Мн., 1989.

Зутис Я. Очерки по историографии Латвии. Ч. 1: Прибалтийско-немецкая историография. Рига, 1949.

История Литовской ССР. Ч.1: С древнейших времен до 1861 г. Вильнюс, 1953.

История Литовской ССР с древнейших времен до наших дней. Вильнюс, 1978.

Карский Е.Ф. Белорусы: Язык белорусского народа. М., 1955-56. Вып. 1-3.

Катонова Е.М. Данные гидронимии о балто-славянских контактах на севере Белоруссии // Материалы: Этнолингвистические балто-славянские контакты в настоящем и прошлом. М., 1978.

Каханоўскі Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў 16-19 стст. Мн., 1984.

Квятковская А.В. Каменные могильники Белорусского Понеманья // КСИА, 1986. Вып. 183. С. 32-41.

Квятковская А.В. Каменные могильники Беларуси 11-17 вв.: Дыс. ... канд. гіст. навук. Мн., 1994.

Климчук Ф.Д. К истории распространения белорусских говоров в юго-восточной Литве // Балто-славянские исследования. 1980. М., 1981. С. 214-221.

Кочубинский А. Территория доисторической Литвы // Журнал министерства народного просвещения. 1897. Январь. С. 60-94.

Краўцэвіч А.К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння 14-18 стст.: Планіроўка, культурны слой. Мн., 1991.

Краўцэвіч А.К. Да праблемы сярэднявечных міжэтнічных кантактаў на Панямонні // Наш Радавод. Гродна, 1992. Кн. 4. С. 234-237.

Краўцэвіч А. Наваградак і ўтварэнне Вялікага Княства Літоўскага // Наваградскія чытанні. Мн., 1996. Вып. 4. С. 12-17.

Краўцэвіч А.К. Рэкамендацыі да выкладання пачатковай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага // Мінулае Гродзеншчыны. Навукова-метадычны дапаможнік для настаўнікаў гісторыі і геаграфіі. Гродна, 1996. Вып. 3. С. 4-13.

Краўцэвіч А.К. Да праблемы ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 1996. № 1(5). S. 5-22.

Краўцэвіч А.К. Балта-славянскія кантакты ў Панямонні і ўтварэнне Вялікага Княства Літоўскага // Труды VI Международного конгресса славянской археологии. М., 1998.

Краўцэвіч А. Аб часе ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага // Краязнаўчыя запіскі. Гродна, 1997. Вып. 4. С. 86-90.

Краўцэвіч А. Балта-славянскія кантакты на Панямонні ў другім тысячагоддзі н.э. // Весці Міжнароднай акадэміі вывучэння нацыянальных меншасцей. 1997. № 1. С. 10-13.

Краўцэвіч А. Праблема лакалізацыі сярэднявечнай Літвы // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 1997. № 8. S. 5-30.

Краўцэвіч А.К. Фарміраванне канцэпцыі генезісу Вялікага Княства Літоўскага ў польскай гістарыяграфіі // Беларускі гістарычны часопіс. 1998. № 1. С. 47-54.

Краўцэвіч А.К. Працэс балта-славянскіх кантактаў на Панямонні і ўтварэнне Вялікага Княства Літоўскага // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 1998. № 9. C. 5-25.

Краўцэвіч А. Да праблемы генезісу ВКЛ // Беларускі гістарычны агляд. Менск, 1998. Т. 5. Сш. 2(9). С. 448-454.

Краўцэвіч А. Адказ М.Ф.Спірыдонаву // Гістарычны альманах. Гародня 1999. С. 103-106.

Краўцэвіч А. Айчына Адама Міцкевіча. Гісторыка-культурная ідэнтыфікацыя Літвы [у:] Літаратура, мова, культура: этнас у святле гісторыі і сучаснасці: Матэрыялы "круглага стала" і міжнар. навук. канф. Гродна, 1999. С. 40-44.

Краўцэвіч А. Даклад на пасяджэнні Савета па абароне дысертацый 4 снежня 1998 г. // Гістарычны альманах. Гародня, 1999. Т. 2. С. 88-98.

Кром М. Меж Русью и Литвой: Западно-русские земли в системе русско-литовских отношений конца 15-первой половины 16 в. М., 1995.

Кулаков В.И. Земля пруссов и "прусские земли" // Балто-славянские исследования 1985 г. М., 1987. С. 95-101.

Кулаков В.И. Пруссы (5-13 вв.). М., 1994.

Кушнер (Кнышев) П.И. Этнические территории и этнические границы. М., 1951.

Леонтович Ф.И. Очерки по истории литовско-русского права. СПб., 1894.

Леонтович Ф.И. К истории административного строя литовского государства. Варшава, 1899.

Лингвистический энциклопедический словарь. М., 1990.

Лихачев Д.С. Русские летописи. М.;Л., 1947.

Лойка П. Вялікае Княства Літоўскае паміж Усходам і Захадам // Усебеларуская канферэнцыя гісторыкаў. Мн., 1993. Ч. 1. С. 58-60.

Лухтан А., Ушинскас В. К проблеме становления Литовской земли в свете археологических данных // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988. С. 89-104.

Лысенко П.Ф. Дреговичи. Мн., 1991.

Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. М., 1893.

Любавский М. Литовско-русский сейм. М., 1900.

Любавский М.К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. М., 1910.

Любавский М.К. Основные моменты истории Белоруссии. М., 1918.

Любаўскі М. Літва і славяне ў іх узаемаадносінах ў 11-13 стст. // Запіскі аддзелу гуманітарных навук Беларускай Акадэміі Навук. Працы клясы гісторыі. Мн., 1928. Т. 3. С. 1-20.

Митрофанов А.Г. Железный век средней Белоруссии 7-6 вв. до н.э. - 7 в. н.э. Мн., 1978.

Мугуревич Э. Хроника Генриха о народностях в Прибалтике в конце 12-начале 13 вв. // Vakarų baltai: etnogenezė ir etninė istorija. Vilnius, 1997. P. 253-263.

Насевіч В.Л. Працэс утварэння Вялікага княства Літоўскага (13-14 стст.) // Актуальныя пытанні гісторыі Беларусі ад старажытных часоў да нашых дзён. Мн., 1992. С. 54-63.

Насевіч В. Да пытання аб нацыянальным характары Вялікага княства Літоўскага // Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь (новыя канцэпцыі і падыходы): Усебеларуская канферэнцыя гісторыкаў. Менск, 3-5 лютага. Мн., 1993. С. 55-58.

Насевіч В.Л. Пачаткі Вялікага княства Літоўскага: Падзеі і асобы. Мн., 1993.

Насевіч В., Спірыдонаў М. "Русь" у складзе Вялікага княства Літоўскага ў 16 ст. // З глыбі вякоў. Наш край. Мн., 1996. Вып. 1. С. 4-27.

Насевіч В. Пытанняў больш чым адказаў // Беларускі гістарычны агляд. Менск, 1998. Т. 5. Сш. 1(8). С. 210-226.

Насевіч В. Няма сутнасных разыходжанняў // Беларускі гістарычны агляд. Менск, 1998. Т. 5. Сш. 2(9). С. 455-456.

Насонов А.Н. История русского летописания 11-начала 18 века. М., 1969.

Непокупный А.П. Лингвогеографические связи литовских и белорусских форм названий г. Дятлово и его окрестностей // Балтославянские исследования. М., 1974. С. 144-154.

Непокупный А.П. Балто-северославянские языковые связи. Киев, 1976.

Охотникова В.И. Повесть о Довмонте (исследования и тексты). Л., 1985.

Павлова К.В. Погребальные памятники окрестностей Новогрудка // КСИА. 1981. Вып. 166.

Павлова К.В. Население Верхнего Понеманья по материалам курганных могильников окрестностей Новогрудка // Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983. С. 45-47.

Пашуто В.Т. Хозяйство и техника средневековой Литвы // Вопросы истории. 1947. № 8. С. 74-81.

Пашуто В.Т. Очерки по истории Галицко-Волынской Руси. М., 1950.

Пашуто В.Т. О возникновении Литовского государства // Известия АН СССР. Серия истории и философии. М., 1952. Т. 9. № 1. С. 29-49.

Пашуто В.Т. Против некоторых буржуазных концепций образования Литовского государства // Вопросы истории. 1958. № 8. С. 40-62.

Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. М., 1959.

Пашуто В.Т. Гродно в хронике Петра Дюсбурга // Культура Древней Руси. М., 1968. С. 191-192.

Пашуто В.Т., Флоря Б.Н., Хорошкевич А.Л. Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. М., 1982.

Пивоварчик С.А. Городища 10-13 вв. Белорусского Понеманья: Автореф. дис. ... канд. ист. наук. Мн., 1994.

Піваварчык С. Беларускае Панямонне ў раннім сярэднявеччы // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 1996. № 2(6). S. 5-21.

Піваварчык С. Да этнічных працэсаў на Панямонні ў раннім сярэднявеччы // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 1999. № 11. С. 235-245.

Пилипенко М.Ф. Возникновение Белоруссии: новая концепция. Мн., 1991.

Пичета В. История Литовского государства до Люблинской унии. Вильно, 1921.

Пічэта У. Гісторыя Беларусі. М.; Л., 1924. Ч.1.

Раппопорт П.А. Военное зодчество западно-русских земель 10-14 вв. М., 1967.

Рожков Н. Русская история в сравнительно-историческом освещении. Пг.; М., 1930. Т. 1.

Седов В.В. Курганы ятвягов // Советская археология. 1964. № 4. С. 36-51.

Седов В.В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. М., 1970.

Седов В.В. К истории поселений Черной Руси // КСИА. 1974. Вып. 139. С. 27-33.

Седов В.В. Балты и славяне в древности по данным археологии // Из древнейшей истории балтских народов по данным археологии и антропологии. Рига, 1980.

Седов В.В. Литовские племена // Финно-угры и балты в эпоху средневековья. М., 1987. С. 381-417.

Семянчук Г. Шаланда А. Да пытання аб пачатках Вялікага княства Літоўскага ў сярэдзіне XIII ст. (яшчэ адна версія канструявання мінуўшчыны) // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 1999. № 11. С. 18-44.

Смоліч А. Геаграфія Беларусі. Мн., 1993.

Соболевский А.И. Где жила историческая Литва? // Известия имп. АН. 1911. Т. 5.

Спиридонов М.Ф. "Литва" и "Русь" в Беларуси в 16 в. // Наш Радавод. Гродна, 1996. Ч.7. С. 206-211.

(Спірыдонаў М.Ф.) Выступленне М.Ф.Спірыдонава // Гістарычны альманах. Гародня, 1999. Т. 2. С. 98-102.

Станкевіч Я. Савецкае хвальшаваньне гісторыі Беларусі // Інстытут даследаванняў СССР: Досьледы і матар'ялы. Мюнхэн, 1958. Серыя 2. Вып. 51.

Судник Т.М. Диалекты литовско-славянского пограничья. М., 1975.

Таутавичюс А. Восточнолитовские курганы // Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959. С. 128-153.

Таутавичюс А. Территория жемайтов по археологическим данным 5-12 вв. // 20 лет. Материалы к отчетной конференции археологических и этнографических экспедиций Института истории АН Литовской ССР 1948-1967 гг. Вильнюс, 1968. С. 56-63.

Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі. Мн., 1978.

Топоров В.Н., Трубачев О.Н. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья. М., 1962.

Токць С. Літоўскае насельніцтва ў Гродзенскай губерні ў 19 - пачатку 20 ст. // Весці Акадэміі нацыянальных меншасцей: Нацыянальныя меншасці на Беларусі і ў свеце. 1997. № 1. С. 37-39.

Третьяков П.Н. О балтах и славянах в области Верхнего Поднепровья // Acta Baltico-Slavica. Białystok, 1969. R. 6. S. 117-121.

Трусов О.А. Памятники монументального зодчества Белоруссии 11-17 вв. Мн., 1988.

Трусаў А.А., Собаль В.Е., Здановіч Н.І. Стары замак у Гродне 11-18 стст. Мн., 1993.

Улащик Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985.

Урбан П. Пра нацыянальны характар Вялікага Княства Літоўскага й гістарычны тэрмін "Літва" // Запісы. Мюнхэн, 1964. Кн. 3. С. 35-89.

Урбан П. Да пытання этнічнай прыналежнасці старажытных ліцьвіноў. Мн., 1994.

Финно-угры и балты в эпоху средневековья. М., 1987.

Холев С.Б. Физико-географические условия Верхнего Понеманья в прошлом по данным топонимики // Топонимика на службе географии. М., 1979. С. 31-37.

•

Цітоў В.С. Народная спадчына: Матэрыяльная культура ў лакальна-тыпалагічнай разнастайнасці. Мн., 1994.

Чамярыцкі В., Жлутка А. Першая згадка пра Белую Русь - 13 ст. ? // Адраджэнне: Гіст. альманах. Мн., 1995. Вып. 1. С. 143-152.

Шаблюк В.У. Сельскія паселішчы Верхняга Панямоння: 14-18 стст. Мн., 1996.

Шевченко Н.В. Білорусько-Литовська держава: нові концептуальні засади сучасної білорускої історіографії // Український історичний журнал. Київ, 1997. № 2 (413). С. 55-67.

Штыхаў Г.В. Крывічы: Па матэрыялах раскопак курганоў у Паўночнай Беларусі. Мн., 1992.

Энгельс Ф. Происхождение семьи, частной собственности и государства // Маркс К., Энгельс Ф. Избр. соч.: В 9 т. М., 1987. Т. 6.

Этнаграфія Беларусі: Энцыклапедыя. Мн., 1989.

Яковенко Н. У пошуках витоків: проблеми білоруської історіографії Великого князівства Литовського з перспективи 1991-1992 pp. // Історія, історіософія, джерелознавство. Історичний збірнік (Статті, розвідки, замітки, есе). Київ, 1996. С. 112-137.

Abraham W. Powstanie organizacji Kościoła łacińskiego na Rusi. Lwów, 1904.

Abraham W. Polska a chrzest Litwy // Polska i Litwa w dziejowym stosunku. Warszawa; Lublin; Łódź; Kraków, 1914. S. 1-36.

Angermann N. Die mittelalterliche Chronistik // Geschichte der deutschbaltischen Geschichtsschreibung. Köln; Wien, 1986. S. 3-20.

Antanaviciaus V. Vytenis ir Gediminas 1293-1341. Vilnius, 1921.

Avižonis K. Die Entstehung und Entwicklung des litauischen Adels bis zur litauisch-polnischen Union 1385. Berlin, 1932.

Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym. Warszawa, 1846. T. 3.

Bardach J. O dawnej i niedawnej Litwie. Poznań, 1988.

Batūra R. 13 a. Lietuvos sostinės klausimu // Lietuvos TAR Mokslų Akademijos darbai. 1966. A serija. 1(20). P. 141-165. (Праблема сталіцы Літвы 13 ст.)

Bednarczuk L. Wokół etnogenezy Białorusinów // Acta Baltico-Slavica. 1984. 16. S. 33-48.

Benninghofen F. Der Orden der Schwertbruder. Köln; Graz, 1965.

Bilkins V. Die Autoren der Kreuzzugszeit und das Milieu Livlands und Preussens // Acta Baltika. 14. 1974. Königstein im Taunus, 1975. S. 231-254.

Biskup M., Labuda G. Dzieje zakonu krzyżackiego w Prusach. Gospodarka-Społeczeństwo-Państwo-Ideologia. Gdańsk, 1986.

Bohdanowicz J., Dzięcielski M. Zarys geografii historycznej i politycznej cywilizacji. Gdańsk, 1994.

Boockmann H. Geschichtsschreibung des Deutschen Ordens im Mittelalter und Geschichtssreibung im mittelalterlichen Preußen. Entstehungsbedingungen und Funktionen // Literatur und Laienbildung im Spätmittelalter und in der Reformationszeit. Stuttgart, 1984. S.80-93.

Borowska N. Wpływy słowiańskie na litewską terminologię kościelną na podstawie Diotionarium Szurwida // Studia z filologii polskiej i słowiańskiej. Warszawa, 1957. T. 2. S. 320-365.

Brückner A. Polacy a Litwini. Język i literatura // Polska i Litwa w dziejowym stosunku. Warszawa; Lublin; Łódź; Kraków, 1914. S. 341-392.

Cehak-Hołubowiczowa H. Zabytki archeologiczne województwa Wileńskiego i Nowogródzkiego. Wilno, 1936.

Chodynicki K. Próby zaprowadzenia chrześcijaństwa na Litwie przed r. 1386 // Przegląd Historyczny. 1914. T. 18. S. 215-319.

Chodynicki K. Geneza dynastii Giedymina // Kwartalnik Historyczny. 1926. S. 541-566.

Chodynicki K. Przegląd badań nad dziejami Litwy w ostatnim dziesięcioleciu 1920-30 // Kwartalnik Historyczny. Lwów, 1930. R. 44. T. 1. Z. 1. S. 273-300.

Colker Marvin L. America Rediscovered in the Thirteenth Century? // Speculum. A Journal of Medieval Studies. Cambridge, Massachusetts, 1979. Vol. 54. P. 712-726.

Conce W. Agrarverfassung und Bevölkerung in Litauen und Weißrußland. Leipcig, 1940.

Dubonis A., Naujosios baltarusių istoriografijos aklaviete [y:] Musų praetis. Vilnius, 1999. T. 6. P. 207-213.

Engels O. Zur Historiographie des Deutschen Ordens // Archiv für Kulturgeschichte, Köln, 1966. S. 336-363.

Fijałek J. Uchrześcijanienie Litwy przez Polskę i zachowanie w niej języka ludu. Kraków, 1914.

Forstreuter K. Deutschland und Litauen im Mittelalter. Köln, 1962.

Gieysztor A. Działania wojenne Litwy w roku 1262 i zdobycie Jazdowa // Studia Historyczne Stanisławowi Herbstowi na sześćdziesięciolecie urodzin. Warszawa, 1967. S. 5-14.

Górski K. Discriptiones Terrarum. Nowo odkryte źródło do dziejów Prus w 13 wieku // Zapiski Historyczne. Toruń, 1983. T. 46, r.1981. S. 7-16.

Gudavičius E. Dél Lietuvos Valstybés kūrimosi centro ir laiko // Lietuvos TSR Mokslų Akademijos darbai. A serija. Vilnius, 1983. T. 2(83). P. 61-70. (Да пытання аб цэнтры і часе ўтварэння Летувіскай дзяржавы.)

Gudavičius E. "Lietuvos" vardas 11 a.-12 a. I pusés šaltiniuose // Lietuvos TSR Mokslų Akademijos darbai. A serija. Vilnius, 1983. T. 3(84). P. 79-88. (Назва "Літва" ў крыніцах 11-1-й паловы 12 ст.)

Gudavičius E. Bandymas lokalizuoti 13 a. lietuvių kunigaikščių valdas // Lietuvos TSR Mokslų Akademijos darbai. A serija. Vilnius, 1984. T. 3(88). P. 69-79. (Спроба лакалізацыі ўладанняў літоўскіх князёў 13 ст.)

Gudavičius E. Dél lietuvių žemių konfederacijos susidarymo laiko // Lietuvos TSR aukštųjų mokyklų mokslo darbai. Istorija. 1984. T. 24. P. 12-28. (Аб часе ўтварэння канфедэрацыі летувіскіх земляў)

Gudavičius E. Kryžiaus karai Pabaltijyje ir Lietuva 13 amžiuje. Vilnius, 1989. (Крыжовыя войны ў Прыбалтыцы і Літва ў 13 ст.) .

Gudavičius E. "Vieno mito pėdsakais". Slon to slon, a byl li on? // Atgimimas. 1994, liepos 27 d. N 29. P. 7, 10, liepos 27 d. N 30. P. 10-11, rugpjūčio 3 d. N 31. P. 10-11. ("Па слядах аднаго міфа")
Gudavičius E. Following the Tracks of a Myth // Lithuanian Historical Studies. 1. 1996, Vilnius. S. 38-58.
Gudavičius E. Mindaugas. Vilnius, 1998.
Halecki O. Litwa, Ruś i Żmudź jako części składowe Wielkiego Księstwa Litewskiego // Rozprawy Akademii Umiejętności. Wydział Historyczno-Filozoficzny. Seria 2. T.59. Kraków, 1916. S. 214-254.
Halecki O. Geografia polityczna ziem ruskich Polski i Litwy 1340-1569 // Sprawozdania z posiedzeń Towarzystwa Naukowego Warszawskiego. Wydział 1 i 2. Warszawa, 1917. R. 10. Z. 8. S. 5-24.
Hellman M. Zur Geschichte des Deutschtums in Litauen // Auslandsdeutsche Volksforschung. Stuttgart, 1937. Bd.1. S. 447-459.
Hellman M. Das Lettenland im Mittelalter. Münster; Köln, 1954.
Hellman M. Zu den Anfängen des litauischen Reiches // Jahrbücher für Geschichte Osteuropas. Neue Folge. Bd. 4. 1956. München, 1956/1957. S. 159-165.
Hellman M. Die geschichtliche Bedeutung des Großfürstentums Litauen // Saeculum. Freiburg; München, 1958. Bd. 9. S. 87-112.
Hellman M. Burgen und Adelsherrschaft bei den Völkern des Ostbaltikums // Europa Slavica - Europa Orientalis. Festschrift für Herbert Ludat zum 70. Geburtstag. 1980, Berlin. S. 30-50.
Hellman M. Grundzüge der Geschichte Litauens und des litauischen Volkes. Darmstadt, 1986.
Hellman M. Die Anfänge christlicher Mission in den baltischen Ländern // Studien über die Anfänge der Mision in Livland /Hrsg. von Manfred Hellman/. Sigmaringen: Thorbecke, 1989. S. 7-36.
Hellman M. Die Erzbischöfe von Riga und Litauen vom 13. bis zum 15. Jahrhundert // Baltikum. Studia z dziejów polityki, gospodarki i kultury 12-18 wieku. Toruń, 1992. S. 123-130.
Hölbaum K. Joh. Renners Livländische Historien und die jüngere Livländische Reimchronik. Göttingen, 1871. Teil 1.
Hołubowicz W. Pięć lat pracy terenowej muzeum archeologicznego Uniwersytetu Stefana Batorego w Wilnie (1933-1937) // Rocznik Archeologiczny. Wilno, 1937. N. 1.
Hołubowicz W. Granica osadnictwa Słowian i Litwinów na Wileńszczyźnie w czasach przed i wczesnohistorycznych. Wilno, 1938.
Hołubowicz H., Hołubowicz W. Wykopaliska na Wileńszczyźnie w latach 1938 i 1939. Wilno, 1940.
Hołubowicz W. Garncarstwo wiejskie zachodnich terenów Białorusi. Toruń, 1950.
Ivinskis Z. Mindaugas und seine Krone // Zeitschrift für Ostforschung. 3. Jahrgang. 1954. Heft 3. S. 360-386.
Ivinskis Z. Pirmasis Lietuvos karalius Mindaugas ir jo palikimas. Roma, 1965. (Першы кароль Літвы Міндоўг і яго спадчына)

